наличествующем в рамках определенного жанра. Преобладание первого зачастую ведет к тому, что стихийно выявленное противоречие путем сложной образной трансформации усугубляется до парадокса, загадочного и «необъяснимого», и тем самым отдаляется от действительности (примером тому может служить жанр волшебной сказки). Преобладание второго подразумевает образность, менее отягощенную условностью, и, следовательно, большую адекватность действительности. Иллюстрацией этого случая являются пословицы и поговорки.

«Литературный энциклопедический словарь» определяет пословицу как «краткое, ритмически организованное, устойчивое в речи, образное народное изречение. Употребляясь в значении переносном – по принципу аналогии – к своему буквальному смыслу… пословица заключает в себе афористически сжатое выражение какой-либо грани народного опыта; предмет высказывания рассматривается в свете общепризнанной истины, выраженной пословицей» [2, *291*]. Поговорка в этом же издании характеризуется как «образное выражение, метко определяющее и оценивающее какое-либо явление жизни. В основе поговорки часто лежит метафора, гипербола, идиоматическое выражение, парадокс <…>. В отличие от пословицы, поговорка всегда одночленна, представляет собой часть суждения и обычно лишена обобщающего поучительного смысла» [2, *283*].

Значительная часть образцов именно этих жанров представляют собой не что иное, как художественно оформленное, выраженное с предельной лаконичностью противоречие. Художественная констатация противоречия является вершиной познавательных возможностей фольклора, а дальнейшие гносеологические действия, т. е. то, что в диалектике называется снятием, предполагается на уровне философского осмысления.

Под диалектическим противоречием в теории познания подразумевается одновременное сосуществование противоположностей, их взаимообусловленность и взаимопроникновение в рамках сущности одного явления. Как образную иллюстрацию закона единства и борьбы противоположностей, сформулированного немецким философом Г. В. Гегелем, можно рассматривать такие русские пословицы: «В чем грех, в том и спасенье» [5, *40*], «И ложь правдою статься может» [4, *112*], «Около святых черти водятся» [4, *243*], «Из одного дерева

икона и лопата, да не оба святы» [4, *118*] (вариант интерпретации: у низменного и возвышенного – одна природа, но разное предназначение), «Промеж жизни и смерти блоха не проскочит» [4, *267*], «Счастье с несчастьем на одних санях ездят» [4, *296*] и др. «Перед нами просто-напросто безупречные диалектические формулы», – пишет о пословицах подобного рода А. Н. Андреев. [1, *36*]

Следует отметить, что наиболее частыми для жанра пословицы являются столкновения таких категорий, как общее и частное (в качестве примера можно рассматривать пословицы типа «По волне и море знать» [4, *254*], «По воротам и хозяина видно» [4, *255*]), причина и следствие («Огонь без дыму не живет» [4, *240*], «Плохие пчелы – плохой и мед» [4, *254*]), количество и качество. Такие пословицы, как «Полено к полену – костер» [4, *259*], «По капельке – море, по былинке – стог» [4, *155*], иллюстрируют закон перехода количественных изменений в качественные: «костер», «море» и «стог» – не просто совокупности «поленьев», «капелек» и «былинок», но самостоятельные явления, качество которых образуется на основе количественных изменений, их составляющих). Также находят свое отражение в пословицах отношения между формой и содержанием. В качестве примера догадки об их взаимообусловленности приведем пословицы «По пташке и клетка» [4, *256*], «По голове и шапка, по ноге и сапог» [4, *255*].

Закон двойного отрицания, как и два названных выше, сформулирован Гегелем, однако для многих он в первую очередь связывается с именем Ф. Энгельса, проиллюстрировавшего диалектическое отрицание на примере с прорастанием зерна. Этот пример перекликается с русской пословицей «Одно зерно горсть дает» [4, *242*]. Содержательную сторону народной мудрости следует пояснить. Между «зерном» и «горстью зерен» имеется несколько этапов поступательного развития, каждый из которых диалектически отрицает предыдущий: зерно отрицается растением, удерживающим в себе его качества, а растение – той самой «горстью», «родителем» которой оно является. И вновь – по кругу, а если точнее – по диалектической спирали.

Фольклор плюралистичен, и доказательством этому служит тот факт, что все рассмотренные выше отношения могут развиваться диаметрально противоположным способом, по модели, отрицающей диалектическую связь между философскими категориями. В этих случаях

логика народа совпадает с формальной логикой, с позиций которой противоречие рассматривается как заблуждение, ошибка.

Для примера сравним пословицу «Пискарь щуки не слопает» [4, *253*] и поговорку «Комар парню ногу отдавил» [4, *137*]. Первая со всей трезвостью здравого смысла утверждает невозможность противоречия в ходе развития, вторая демонстрирует большую тонкость, утверждая прямо противоположное: противоречие уместно. Обратим внимание на семантическую структуру этой поговорки. Сема обобщенности в ней выражена не так ярко, как в противопоставленной ей пословице. Кроме того, в семантике рассматриваемой поговорки достаточно ощутима модальность недоумения, удивления; противоречие констатируется несмело и не обобщается до уровня закона. Здесь противоречие улавливается, но не осмысляется, отсюда – отсутствие категоричности.

«Народу нужны не отвлеченные идеи, а прописные истины», – утверждал французский афорист XVII в. Антуан де Ривароль [3, *416*] и, по большому счету, был прав: к научно-теоретическому знанию народ относится либо со скепсисом, либо с наивно-агностическим равнодушием, отдавая приоритет традиционному мировосприятию с его «прописными истинами». Впрочем, на поверку оказывается: не так-то проста эта очевидность и не так мелка, как представляется на первый взгляд. Правда, и преувеличивать эти глубины не стоит: с фольклора океан мудрости только начинается.

**ЛИТЕРАТУРА**

1. *Андреев А. Н.* Культурология. Личность и культура. Мн., 1998.

2. Литературный энциклопедический словарь. М., 1987.

3. Размышления и афоризмы французских моралистов XVI – XVII вв. М., 1987.

4. Русские пословицы и поговорки. М., 1988.

***Уладзіслаў Парыцкі***

## ПРА ВЕРШАЗНАЎЧЫ АНАЛІЗ ВЫНІКАЎ АДНОЙ ЛІТАРАТУРНАЙ ГУЛЬНІ

Вершаскладанне – вобласць культуры, якая падпарадкоўваецца строгім структурным законам, але ў той жа час пакідае значную прастору для індывідуальнай фантазіі. Згаданай рысай абумоўлена існаванне шматлікіх літаратурных гульняў, звязаных з вершаскладаннем.

У гэтым артыкуле гаворка пойдзе пра адну своеасаблівую гульню, якая нечакана дала цікавыя для філолага вынікі.

У 2005 г. выкладчыкам беларускага фальклору Р. М. Кавалёвай у БДУ быў пастаўлены цікавы эксперымент. З фальклорнага тэксту – шырока вядомай песні «*За туманам нічога не відна*» – узялі першы радок і прапанавалі навучэнцам скласці вершаваны тэкст у фальклорным ці літаратурным дыскурсе з такім жа самым першым радком. Тэксты, што атрымаліся (усяго 60), увайшлі ў невялічкі зборнік. Як робіцца зразумелым з прадмовы, суцэльны эксперымент яго арганізатар асэнсоўваў як сродак зрабіць навучальны працэс больш цікавым і разнастайным, як гульню, хай нават і гульню з дыскурсам [1, *3–9*]. Між тым публікацыя гэтых 60 тэкстаў мае і пэўнае навуковае значэнне.

Кожнаму ўдзельніку эксперымента ставілася мэтай самастойнае стварэнне закончанага і вартаснага ў мастацкім сэнсе тэксту, у складзе якога, прытым у пазіцыі пачатку, не быў бы іншародным дадзены фальклорны фрагмент – радок. У выніку эксперыменту даследчык мае дастаткова вялікую для колькаснага аналізу сукупнасць тэкстаў, створаных незалежна адзін ад аднаго. І вось якая цікавая рэч атрымліваецца: некалькі рыс будовы – агульныя для ўсіх або большасці тэкстаў, нягледзячы на самастойнасць іх узнікнення. Гэта належыць патлумачыць адной з дзвюх прычын. Ці ўласцівасці, пра якія ідзе гаворка, «запраграмаваныя» ў зыходным радку, ці нейкія знешнія фактары, такія як кантэкст беларускай і рускай паэзіі, распаўсюджаныя ўяўленні пра будову мастацкага тэксту, паўплывалі адначасова на многіх удзельнікаў эксперымента.

Шляхам падлікаў мы надалі гэтым тэарэтычным тэзісам некаторае развіццё. Усе 60 тэкстаў былі прааналізаваныя па элементарных фармальных паказчыках: 1) строфіка і агульная працягласць; 2) першая рыфма (г. зн. тая, што адпавядае слову *відна*); 3) вершаваны памер. Ніжэй – паслядоўны выклад па кожным з іх.

1. Каля 90% тэкстаў у зборніку напісаныя чатырохрадкоўямі, выключэнні абумоўлены неспрактыкаванасцю аўтараў ці мэтай стварэння кампазіцыйнага эфекту. Самы малы верш у зборніку – 3 радкі, гэта недакладная імітацыя японскага хоку; самы вялікі – даўжэй за 30 радкоў. Ёсць прыклады вершаў па 24 і 28 радкоў, 6 і 7 катрэнаў адпаведна. За ўсім тым, найбольш верагодная працягласць верша ў зборніку – 12 радкоў,

найбольш верагодная строфіка – тры катрэны; такую структуру мае 21 тэкст з прадстаўленых у зборніку 60. Удвая менш тэкстаў (11) змяшчаюць па два катрэны, і яшчэ 11 – па чатыры. Падагульнім: каля 70% усіх тэкстаў маюць працягласць 8, 12, 16 радкоў. Варта лічыць, што абедзве гэтыя яднаючыя рысы былі зададзены не ў радку, а толькі ў свядомасці аўтараў. Вядома, напрыклад, што сярэдняя працягласць вершаў А. Пушкіна складае 26 радкоў; Ю. Лермантава – 23; Ф. Цютчава – 18,5 [5, *385*; 6, *258*]. У паэтаў Сярэбранага веку, на якіх, здаецца нам, і арыентаваліся ўдзельнікі эксперымента, колькасныя схільнасці даволі неаднастайныя, аднак дзве галоўныя постаці, што маглі сфарміраваць у сучаснай філфакаўскай моладзі ўяўленне пра належную працягласць тэксту, – гэта А. Блок і Г. Ахматава. Сярэдняя працягласць вершаў Блока (1898–1903) – 13 радкоў [6, *258–259*], часцей за іншыя фарматы ў яго сустракаюцца лірычныя кампазіцыі з трох катрэнаў. У Г. Ахматавай дванаццаціpадковыя вершы таксама пераважаюць з пэўнымі ваганнямі ў бакі васьмі- і шаснаццаціpадковасці. У яе зборніках «Вечер» і «Чётки» колькасць вершаў па 8, 12 і 16 радкоў суадносіцца як 13:35:27 (*падлік наш.* – А. П.).

2. Сярод 60 вершаў маюцца два нерыфмаваныя, два паўрыфмаваныя (abcb), адзін, у якім зыходны радок зменены (*…відаць – нагадаць*), тры з таўталагічнай рыфмай (*відна – відна*); у разглядзе застаюцца 52 тэксты. З іх у 16 першая рыфма *крыўдна* і яшчэ ў 3 – *крыўда*, у 11 – *агідна* і яшчэ ў 1 – *агіда*, у 3 вершах – *абрыдла*. 34 тэксты, як бачым, аб'яднаныя практычна адзінай тэмай рыфмы. Прытым з погляду вершазнаўства названыя вышэй рыфмы – зусім розныя. Згодна з класіфікацыяй М. Л. Гаспарава для кансанантнага складу рыфм [4, *25*], сярод іх маюцца дакладная *відна – агідна*, папоўненыя *відна – агіда* і *відна – крыўдна*, змененыя *відна – крыўда* і *відна – абрыдла*. Для ўдзельнікаў жа творчага эксперымента паказчык дакладнасці рыфмы аказаўся нерэлевантным. Пазней мы паспрабуем высветліць прычыну.

3. Па метрыцы радок *За туманам нічога не відна* выглядае як трохстопны анапест з жаночай клаўзулай. Такім чынам, у монаметрычных вершах, напісаных згодна з умовамі эксперымента, па агульных правілах тэорыі вершаскладання на беларускай і рускай мовах будуць прадстаўленыя, хутчэй за ўсё, чатыры асноўныя памеры: Ан-3ж; Ан-3жм; дольнік-3ж і дольнік-3жм з анакрусай 2 [*1].

Паколькі неспрактыкаваным аўтарам бывае цяжка вытрымаць адзіны метр ва ўсім вершы, наша тэарэтычная выснова, увогуле, пацвярджаецца назіраннямі няблага. Чыстым анапестам па абодвух вышэйназваных тыпах альбо, радзей, з іншым чаргаваннем клаўзул напісаныя 29 вершаў, яшчэ 13 – анапестам з адзінкавымі выключэннямі ў бок дольніка. Дольнікам, дзе ўласныя формы складаюць больш за чвэрць, – 3 вершы. Анапестам ці дольнікам з іншымі выключэннямі, абумоўленымі нявопытнасцю, – 8 вершаў (звычайна збой адбываецца на 2–5-м радку). Бачна, што прыкладна 85% удзельнікаў імкнуцца, больш ці менш паспяхова, рэалізаваць метрычную «праграму» першага радка праз агульнапрынятыя ў паэзіі формы. Але тут, нарэшце, варта запытацца: чаму прафесійная паэзія аказала ўплыў на метрыку эксперыментальных вершаў, а фальклорная – не? Чаму атрымалася «згуляць» толькі ў літаратурны дыскурс, а ў фальклорны – не атрымалася?

Як меркавалі, наш радок дакладна працытаваны з фальклорнай крыніцы. І гэта, сапраўды, амаль што так. Але досыць адзін раз ўдумліва прачытаць зыходны фальклорны тэкст, каб зразумець, што яго рытмічная інерцыя не прадугледжвае ніякага анапеста:

*За туманам нічога й не відно,*
*Толькі відно дуба зелянога.*
*Под тым дубом крыніца стояла,*
*З той крыніцы дзеўка воду брала...*

(усяго 11 радкоў, цытуем па [1, *3*]).

З прыведзеных радкоў усе чатыры, калі дапусціць пэўныя пераакцэнтуацыі, укладаюцца ў пяцістопны харэй, і толькі два – у анапест. Ва ўсім тэксце песні незвычайна высокай аказваецца націскованасць першых складоў (7/11), гэта харэічная рыса. Націскованасць 5-х складоў у радках пераважае над націскованасцю 6-х, што яшчэ раз сведчыць супраць анапеста. Але з-за агульнай неўрэгуляванасці звышсхемных націскаў мы не можам сказаць, што перад намі чысты пяцістопны харэй. Да таго ж тэкст, які пяецца, не адчувае патрэбы ў строгай метрыцы, і дакладным будзе пазначыць тут памер як дзесяціскладовы сілабік з жаночымі клаўзуламі, схільны да харэя [*2].

Як бачым, пры цытаванні радка з фальклорнай крыніцы адбылося скажэнне метрыкі, што зрабіла зварот удзельнікаў эксперымента да фальклорнага дыскурсу немагчымым. З вершаў у нашым разглядзе

маецца адзін, напісаны менавіта пяцістопным харэем, але сэнсавай сувязі з фальклорам ён не ўтрымлівае, застаючыся тэхнічным кур'ёзам.

Завязваецца нейкі вузел. Нашы 60 тэкстаў належаць толькі да літаратуры. Іх фармальныя якасці, памер і структура, рэгулююцца літаратурнай традыцыяй. Іх першыя рыфмы, наадварот, яднаюцца лексічнай тэмай, а не фанетычнымі асаблівасцямі, якія маглі б вынікаць з традыцыі; гэтая тэма ўзнікае быццам бы непрадказальна. Пра што могуць сведчыць згаданыя факты? На нашу думку, адказ павінен быць наступным. Радок, фальклорны па паходжанні, але літаратурна асэнсаваны, надзяляе той вершаваны памер (шырэй – метр), у межы якога ён амаль выпадкова трапіў, зусім адметным семантычным арэолам. Тэрмін «семантычны арэол», уведзены К. Ф. Тараноўскім і распрацаваны М. Л. Гаспаравым, выкарыстоўваецца для пазначэння вобразных і культурных асацыяцый, звязаных у свядомасці аўтара і, даволі часта, чытача з тым ці іншым вершаваным памерам, альбо з адным ці некалькімі дыферэнцыяльнымі прызнакамі гэтага памеру [3, *9–18*].

Паспрабуем разгледзець, ці быў традыцыйна замацаваны пэўны семантычны арэол за памерам, які часцей за іншыя быў ужыты ўдзельнікамі літаратурнай гульні, – за беларускім Ан-3жм. У нашых расшуканнях выкарыстоўвалася «Анталогія беларускай паэзіі» ў 3 тамах, галоўным чынам другі том, які ахоплівае тэксты 1920-х – 1950-х гг.

На пачатковым этапе станаўлення сучаснай беларускай літаратуры, у 1890-я гг. і ў нашаніўскі перыяд, тэматыка паэзіі застаецца адносна недыферэнцыраванай. Першы вядомы нам прыклад беларускага Ан-3жм – верш Адама Гурыновіча «Што за звук ды так громка раздаўся…», напісаны не пазней за 1894 г. Новыя ўзоры Ан-3жм з'яўляюцца ў 1909–1914 гг., гэта «Песня сонцу» Купалы, «Роднай краіне» Цішкі Гартнага і «З песняў беларускага мужыка» Максіма Багдановіча. Блізкім памерам, Ан-3ж, напісаныя вядомыя вершы М. Багдановіча «Добрай ночы, зара-зараніца…» і А. Гаруна «Ты, мой брат, каго звацЬ беларусам…». Семантычны арэол метра і, адпаведна, сфера яго ўжывання пакуль не ўсталяваліся. Аднак ужо ў сярэдзіне 1920-х гг. выразна бачыцца звужэнне неаднастайнай тэматыкі. Хаця грамадзянскія тэмы ў той час лічыліся вышэй за прыватныя і карысталіся большай увагай паэтаў, верш, напісаны Ан-3жм, практычна заўсёды пачынаецца пейзажнай замалёўкай, а яго вобразны строй медытатыўны. Анталогія

ўтрымлівае значную колькасць такіх тэкстаў (гл., напрыклад, [2, *34, 91, 149, 223, 281, 389*]).

Перыяд, на працягу якога беларускаму Ан-3жм уласцівы адносна трывалы семантычны арэол, не цягнецца доўга. Ужо ў 1970-я г. ўжывальнасць памеру змяншаецца і галоўны кірунак тэматыкі губляецца. Лёгка заўважыць, аднак, што арэол «псіхалагічнага цяжару», рэалізаваны праз рыфмы *крыўдна*, *агідна*, *абрыдла*, ніколі не быў традыцыйным у беларускай паэзіі. Таму належыць высветліць, што з'явілася падчас эксперымента першым – адметны арэол ці лексічная тэма рыфмы, а таксама адкуль пайшла гэтая тэма. Здаецца, годнае веры тлумачэнне ўжо знойдзена.

Шляхам анкетавання ў старэйшых класах дзвюх навучальных установў Мінска мы імітавалі (ў значна спрошчанай форме) даўнейшы эксперымент: было прапанавана знайсці адну ці некалькі рыфмаў да слова *відна* з радка *За туманам нічога не відна*. Было атрымана 55 карэктна запоўненых анкет: у 15 з іх прыводзіцца рыфма *абідна* (!), у 12 – *агідна*, у 7 – *крыўдна* і яшчэ ў 2 – *крыўда*. Відавочна, моўная свядомасць навучэнцаў пераважна руская, што і абумоўлівае паслядоўнасць выбару рыфмы ад рускай дакладнай рыфмапары *видно – обидно* да беларускай фанетычнай ці сэнсавай імітацыі, што дае ў пазіцыі першай рыфмы *агідна* ці *крыўдна*.

З нашых супастаўленняў, а менавіта: як функцыяніруе адзін і той жа радок у структурнай парадыгме фальклору і літаратуры, як суадносяцца семантычныя арэолы аднаго і таго ж метра ў «вялікай літаратуры» і «квазілітаратуры», створанай эксперыментальна; наколькі істотны структурна-паэтычны ўплыў мае рускамоўная лірыка на беларускамоўную ў нашым двухмоўным грамадстве, – спецыялісты, магчыма, зробяць больш глыбокія вывады, чым нам дазволіў тэзісны фармат.

**ЗАЎВАГІ**

*1. Нашы абазначэнні вершаваных памераў, па сутнасці, супадаюць з абазначэннямі, усталяванымі ў рускім савецкім вершазнаўстве ў 1960–1970-я гг.

*2. Дзякуючы вуснаму сведчанню Анастасіі Садоўскай, якая сёлета запісала варыянт гэтай песні ў Крупскім раёне Міншчыны з дакладнай расстаноўкай націскаў, мы можам сцвярджаць, што харэічныя пераакцэнтуацыі адбываюцца на самай справе, г. зн. «нíчога не відна», «кры́ніца стаяла».

**ЛІТАРАТУРА**

1. «За туманам нічога не відна…»: зб. вершаў / Укл. А. Кананові̌ч [і інш.]. Мн., 2005.

2. Анталогія беларускай паэзіі: у 3 т. / Укл. А. Лойка. Мн., 1993. Т. 2.

3. *Гаспаров М. Л.* Метр и смысл. Об одном из механизмов культурной памяти. М., 2000.

4. *Гаспаров М. Л.* Фоника современной русской неточной рифмы // Поэтика и стилистика 1988–1990: сб. ст. / Отв. ред. В. П. Григорьев. М., 1991.

5. *Новинская Л. П.* Метрика и строфика Ф. И. Тютчева // Русское стихосложение XIX в. Материалы по метрике и строфике русских поэтов: сб. ст. / Отв. ред. М. Л. Гаспаров. М., 1979.

6. *Руднев П. А.* Метрический репертуар А. Блока // Блоковский сборник. II: сб. ст. / Отв. ред. З. Г. Минц. Тарту, 1972.

***Ольга Романова***

## ФИЛЬМЫ УЖАСОВ О ДРАКУЛЕ И ПРОБЛЕМА СОЦИАЛЬНОГО СОДЕРЖАНИЯ «УЖАСНОГО»

История о Дракуле, одиноком и бессмертном вампире из Трансильвании, на протяжении XX в. стала сюжетом более 160 фильмов и даже вошла в книгу рекордов Гиннесса по количеству экранизаций. Основой для многочисленных киноверсий послужил роман ирландского писателя Брэма Стокера «Дракула», опубликованный в 1897 г. По мотивам этого романа Ф. Мурнау снимает в 1922 г. экспрессионистскую притчу «Носферату. Симфония ужаса». В 1931 г. появляется первая голливудская версия сюжета – «Дракула» Тода Браунинга. Оба фильма воспринимались современниками как «ужасные» и «леденящие кровь». Венгерский критик Бела Балаш писал, что почувствовал в некоторых сценах «Носферату» «знобящий холод судного дня». Фильм Т. Браунинга также вызвал у наиболее впечатлительных американских зрителей визуальный шок: они увидели в нем «ужасные подробности», которые могут повредить «детям, слабоумным и просто ненадежным гражданам» [4, *186*].

С чем связана «жуткая притягательность» образа Дракулы для европейского и американского кино и массовой западной культуры XX в. в целом? Сама постановка вопроса предполагает, что у зрительского запроса на «ужасное» существуют более глубинные, чем жажда острых ощущений, причины.

Впервые связь популярных кинематографических мотивов с актуальными социально-политическими конфликтами проследил З. Кракауэр в классической работе «От Калигари до Гитлера. Психологическая история немецкого кино», которая вышла в 1947 г. В этом исследовании Кракауэр рассматривает немецкий кинематограф 10–30-х гг. сквозь призму тайных желаний и страхов массового немецкого зрителя («коллективной немецкой души»). Образ графа-вампира Носферату он поместил в «галерею тиранов» – диктаторов-садистов, маньяков-убийц и безумцев, созданных немецким кино между 1918 и 1924 г. Как пишет Кракауэр, центральная тема этих фильмов – «душа, стоящая на роковом распутье тирании и хаоса»: «может быть, вызывая к жизни эти страшные видения, немцы пытались заклясть страсти, которые уже бродили в них самих и грозили полным себе подчинением?» [3]

В связи с тем, что исследование З. Кракауэра было построено на терминах-метафорах «коллективная душа» и «психологическая история нации», он не задавался вопросом о самих механизмах преобразования желаний и страхов зрителей в киносюжет. Позже исследователи чаще рассматривали эту проблему в психоаналитическом ключе или в духе «критической теории» буржуазного общества. Оригинальным синтезом этих подходов стала «формульная теория» американского литературоведа Дж. Г. Кавелти, разработанная им в 70-е гг. XX в.

Понятие формулы разработано Дж. Г. Кавелти как средство анализа массовой литературы и кино: «…это комбинация… ряда специфических культурных штампов и более универсальных повествовательных форм или архетипов», которая повторяется в ряде произведений определенного периода [1, *35*]. По мысли Кавелти, в основе появления и эволюции формул лежит феномен удовольствия. Формула «работает» постольку, поскольку, с одной стороны, подкрепляет уже существующие интересы и установки, с другой стороны, гармонизирует конфликты, разрешает напряжения и неясности внутри культуры. Еще одно базовое положение концепции Кавелти заключается в том, что формульное кино позволяет аудитории пересечь в воображении границу между разрешенным и запрещенным, ничем не рискуя. При этом эскапистские тексты маскируют латентные мотивации и укрепляют уже существующие преграды, мешающие признанию скрытых

желаний. Применительно к фильмам ужасов эту мысль подтверждает известный тезис о консервативности социокультурных норм, которые разрушает на глазах у зрителя вторжение «ужасного». Как пишет С. Кинг, «концепция чудовищности нравится нам и нужна нам, так как подтверждает существование порядка» [2].

Дж. Г. Кавелти отмечает, что за формулой не стоит единой социальной или психической динамики, она гармонизирует целый спектр моделей: «Формулы работают, так как позволяют упорядочить широкое разнообразие реальных культурных и художественных интересов и отношений» [1, *58*]. Например, фильм-притча Ф. Мурнау гармонизирует и микширует три типа конфликтов – между деспотизмом и политическим хаосом, между наукой (в первую очередь, медициной) и религиозно-мистической картиной мира, между сексуальными нормами и сексуальными фантазмами. Социокультурные страхи и конфликты, проявленные посредством экспрессионисткой визуальности в «Носферату», оказываются актуальными не только для послевоенного германского общества, но и для модернизированного индустриального общества XX в. в целом. В дальнейшем фильмы о Дракуле продолжают гармонизировать и интерпретировать эти противоречия – согласно законам работы киноформулы, во всевозможных комбинациях и парадоксальных сочетаниях. Как представляется, это и является причиной «долгой жизни» сюжета о Дракуле в кино.

Согласно сюжету «Носферату», молодой клерк Хаттер отправляется в далекую Трансильванию, чтобы продать некоему графу заброшенный замок, стоящий как раз напротив идиллического дома, где он бесконфликтно и счастливо живет со своей женой Элен. Отправляет клерка в гости к странному графу агент Нок – как оказывается позже, слуга Дракулы… Ф. Мурнау не стал платить наследникам Б. Стокера за право экранизации, и сюжетная линия романа в «Носферату» была изменена: в романе, как и в «Дракуле» Т. Браунинга, граф погибает от рук ученого Ван Хельсинга, который, следуя фольклорным рецептам, пробивает вампиру сердце деревянным колом. В фильме Мурнау Носферату умирает от солнечного света, так как и после восхода солнца не может оторваться от шеи Элен, которая добровольно отдает ему свою кровь. Посредством экспрессионистской пластики и мотивов двойничества (Дракула/Нок, Дракула/Элен) фильм транс-

лирует актуальную для послевоенной Германии мысль: «диктатора из тьмы» Носферату в идиллический немецкий городок приводит не столько клерк Хаттер, сколько безумный последователь Нок и идеальная жертва Элен.

В последующих фильмах о Дракуле «деспотическая составляющая», как правило, трансформируется в собственно занимательную. Например, в «Дракуле» Тода Браунинга слугой графа-вампира становится сам клерк (Ренфилд), побывавший в гостях в его замке и сошедший с ума на инфернальном корабле. Ренфилд, как и Нок, сидит в камере и высасывает кровь из «природных вампиров», мух. В паре с санитаром-сторожем, который называет его «мухоедом», «безумный последователь» становится комедийным персонажем. Едва ли не единственным фильмом, развивающим заложенный Ф. Мурнау подтекст, отсылающий к социальной реальности, является «Носферату, призрак ночи» В. Херцога (1976). Например, В. Херцог вводит эпизод разговора Носферату с Ноком, в котором Носферату приказывает: «*Иди на север, в Ригу. С тобой полчище черных крыс и смерть*», – и этот диалог прочитывается как сознательно привнесенная аллюзия на нацистский милитаризм Германии 30–40-х гг. Несмотря на популярный сюжет, фильм Херцога относится к авторскому интеллектуальному кинематографу и в этом смысле наиболее близок кинопритче Ф. Мурнау.

Начиная с фильмов Ф. Мурнау и Т. Браунинга, повторяющимся мотивом фильмов ужасов о Дракуле (а также Франкенштейне) становится демонстрация анатомического театра, манипуляций с трупом жертвы вампира (вскрытие, констатация смерти), после чего происходит опровержение медицинских законов в пользу мистических. Страхи, порождаемые медицинской картиной мира, находятся в ряду антипозитивистских культурных сомнений XIX и XX в. Это боязнь боли и медицинского вмешательства в тело, в пределе – страх конечности жизни и бессмысленности существования вне религиозных координат. Возможно, в Европе эти страхи актуализируются и попадают в кино в связи с событиями Первой мировой войны, когда фотографии и документальные съемки солдатских трупов стали обыденными, а способы массового убийства людей технически изощренными. В результате мотив трупа/анатомического театра в фильме ужасов становится способом вытеснения страха смерти. В неподцензурных условиях второй

половины XX в. зрелищем смерти становится подробная демонстрация болезненной смертельности плоти и ее разложения. Однако вид «отвратительно ужасного» трупа выполняет ту же задачу – работает на замещение мысли о смерти. «Дело в том, что человек не может непосредственно испытать смерть, он может постичь ее только в качестве зрителя смерти другого. Участие же в зрелище смерти в качестве зрителя и позволяет пережить смерть, превратить ее в фикцию. Вот почему сокрытие смерти происходит в современной культуре именно в формах зрелища смерти» [5, *180]*. Удерживая взгляд зрителя на концентрированной материальности искаженной плоти, фильм ужасов избавляет смерть от экзистенциального измерения, тем самым временно вытесняя из сознания мысль о повседневной «работе смерти» – в теле человека (болезни, старение), в его сознании (мысль о смертности) и в памяти (смерть близких).

Еще одной из причин долгой жизни вампира в кино стали сексуальные коннотации этого образа. Сам роман Б. Стокера стал популярен на рубеже веков и попал в кино XX в. во многом благодаря тому, что был насыщен трансгрессивными сексуальными намеками, преодолевавшими строгость викторианских сексуальных норм. Так образ вампира стал проявлять сексуальные фантазмы, совмещающие удовольствие и насилие, сексуальную и смертельную агонии.

В кино эротические коннотации просматриваются сквозь отношения между вампиром и жертвой уже в «Носферату»: сцена, в которой Элен отдает свою кровь Носферату, автоматически прочитывается зрителем в контексте любовной сцены, «вывернутой наизнанку». Фильм Т. Браунинга выходил в условиях строгой американской киноцензуры, стоящей на защите зрительской нравственности. Чтобы его одобрила Ассоциация продюсеров и дистрибьютеров художественных фильмов и он смог выйти на экраны, продюсер стремился уменьшить именно эротическую составляющую фильма: например, еще на стадии сценария потребовал, чтобы Дракула перед укусом не целовал свою жертву и нападал только на женщин – чтобы не было обвинений в гомосексуальной подоплеке. Собственно, новые визуальные возможности в показе сексуальной трансгрессии, связанные с ослаблением цензуры во второй половине XX в., и определили возрождение формулы о Дракуле – сюжет обрел «второе дыхание». Например, в «Дракулах»

50–60-х гг. производства радикальной британской компании «Hammer Films» сексуальный подтекст проявлен значительно более очевидно: здесь в сценах «смертельного соединения» с жертвой появляется крупный план, позволяющий увидеть наслаждение на лицах девушки и кровопийцы…

В 1992 г. выходит фильм Ф. Копполы «Дракула Брэма Стокера», поразивший зрителей спецэффектами и красотой костюмов. Зрелищно-трансгрессивный потенциал отношений вампира и его жертв реализован здесь полностью: укус вампира неотделим от сексуальной связи с жертвой. Тема притягательности садомазохистской сексуальности раскрывается при помощи общих мест, дарованных массовой культуре психоанализом: эти движения души и тела иррациональны, неподконтрольны, толкают на странные поступки, – и только специалист может объяснить/нейтрализовать их. Ван Хелсинг оказывается медиком, мистиком и психоаналитиком в одном лице. Согласно его идеологии, бессознательное полно греховных помыслов, человечество терпит от упадка религиозной морали: «цивилизация и сифилизация появились одновременно», как заявляет он студентам. В результате фильм с помощью зрелища и парадокса гармонизирует два проекта западного человека: научный психоаналитический и христианский (протестантский). Подчинение бессознательным движениям психики доставляет неземное удовольствие, но приводит к греховным асоциальным действиям и страшной смерти; «специалист» должен уничтожить трансгрессивных персонажей (Дракулу и его жертв) вместе с их беспокойным бессознательным, чтобы мир пребывал в спокойствии – так популярная версия религиозной картины мира микшируется с популярной психоаналитической моделью человека.

Таким образом, формула фильма ужасов о Дракуле подтверждает, что кинематографическое «ужасное» является культурным механизмом, позволяющим проговаривать и с помощью парадоксов гармонизировать неразрешимые социальные конфликты. Классический фильм ужасов – это жанр, который, с одной стороны, приглашает зрителя пережить подавленные желания и, по словам С. Кинга, «порадовать себя антиобщественным поведением», а с другой стороны, «позволяет человеку слиться с толпой, стать полностью общественным существом, уничтожить чужака» [2].

**ЛИТЕРАТУРА**

1. *Кавелти Дж. Г.* Изучение литературных формул // Новое литературное обозрение. 1996. № 22.

2. *Кинг С*. Пляска смерти / Пер. с англ. О.Колесникова // [Электронный ресурс]. Режим доступа: http://www.biblioteka.org.ua

3. *Кракауэр З.* От Калигари до Гитлера. Психологическая история немецкого кино. М., 1977. // [Электронный ресурс]. Режим доступа: http://www.dnevkino.ru/library_kracauer_1.html

4. *Соува Б. Дон*. 125 запрещенных фильмов. Екатеринбург, 2004.

5. *Ямпольский М*. Смерть в кино / М. Ямпольский // Язык – тело – случай: Кинематограф в поисках смысла. М., 2004.

***Маргарыта Латышкевіч***

## КАШЧ БЕССМЯРОТНЫ: МІФ У КАЗЦЫ

Адным з самых цікавых вобразаў беларускіх казак з’яўляецца, безумоўна, Кашч Бессмяротны. Ён уяўляе сабой класічнага ворага для любога героя, а перамога над ім – падзея знакавая і выключная. Аднак паспрабуем задумацца, ці можна абмяжоўваць гэты вобраз адно казачным яго адлюстраваннем? Ці сапраўды настолькі абмежаваная глыбіня сутнасці Кашча, што ён прыдатны адно для дзіцячых забавак? Думаецца, гэта не так – прынамсі, не зусім так. Пасля правядзення невялікага апытання сярод студэнтаў і выкладчыкаў БДУ выявілася пэўная заканамернасць ва ўспрыманні Кашча, а менавіта:

- 26% апытаных палічылі Кашча «высокім» і толькі 5% – «маленькім». Астатнія 69% не здолелі абазначыць ягоны рост;
- абсалютная большасць лічыць Кашча «худым» – 95% апытаных;
- прыкладна 50% зазначылі сваю агіду адносна гэтага казачнага героя (наступныя эпітэты – «гідкі», «брыдкі», «страшны», «з непрыемным прышчурам»). Аднак палова ж апытаных аніяк не вызначыла сваё стаўленне да Кашча, або нават сказала пра некаторую прыязнь да яго;
- 15% апытаных паказалі на сувязь Кашча з мерцвякамі («здыхлік», «мярцвяк», «даўно памерлы» і нават «жыве ў пекле»).

Цікава, што сярод студэнтаў II курса найбольш распаўсюджаны вобраз Кашча з савецкіх дзіцячых фільмаў (худы стары з тонкім голасам і нездаровым колерам скуры). Відаць, гэты стэрэатып замацаваўся яшчэ ў дзіцячым узросце. Аднак трэба сказаць, што герой беларускіх чарадзейных казак – зусім іншая справа, ён усяго толькі цёзка (і няпоўны)

«Кощея Бессмертного». Таму часова забудземся на кінафільмы і звернемся да характаралагічнага матэрыялу казак.

Кашч Бессмяротны мае надта хуткага каня (які, па-за ўсім, гаворыць чалавечым голасам) [5, *70*]. На бой ён выходзіць з воранам (як варыянт – сокалам) на плячы, а наперадзе бягуць яго харты. Жыве ён далёка, у палацы на высокай гары, а ягоная смерць – у яйку, схаваным на самотным востраве. Гэта прыкладна ўсё, пра што дакладна можна даведацца з казак. Часам, праўда, бываюць некаторыя сведчанні пра знешнасць (напрыклад, «вялікі як гара»), але яны ў абсалютнай большасці няпоўныя і нешматлікія.

І тут мы насамрэч сустракаемся з пытаннем: хто такі Кашч Бессмяротны? Калі задумацца, пра гэта не кажа аніводная з казак. Мы сустракаем Кашча зняволеным у палацы дзяўчыны-волаткі, калі яго вызваляе недальнабачны герой, мы бачым яго перад бойкай з героям і ў час яе, але нам невядома, адкуль і нашто ён прыйшоў, чаму быў зняволены і – нават самае простае – як ён, уласна кажучы, выглядае. Нам відавочна бракуе звестак, ці то з прычыны табу (тады імя Кашч толькі азначэнне), ці то таму, што Кашч, яго паходжанне і матывацыя дзеянняў былі шырока вядомыя і тлумачэння не патрабавалі. Думаецца, у нашым выпадку мае месца і тое, і другое: не выключана, што сапраўднае імя Кашча было пад забаронай; але яго ведалі ўсе, таму адэкватна ўспрымалі замяшальнае. Верагодна таксама, што казачныя прыгоды Кашча – толькі няпэўнае, скажонае рэха яго сапраўдных прыгод, зафіксаваных у міфе. Міф знік, але яго водбліск застаўся ў казцы.

Вобраз Кашча загадкавы і таемны, а таму, бясспрэчна, прывабны. Выкажам некаторыя меркаванні наконт яго паходжання і паспрабуем знайсці тлумачэнне некаторым яго дзеянням.

Ю. С. Сцяпанаў прапанаваў цікавую этымалагічную версію імя Кашча (Кашчэя): « *Kostь – sêjь , ‘косткасей’, ‘той, хто сее косці’» [3, 851], пасрэднік паміж светамі жывых і памерлых [3, 852]. Параўнаем са славутым «Словам пра паход Ігаравы» (*тут и далей пераклад мой.* – М. Л.): «На Нямізе снапы сцелюць галавамі, малоцяць цапамі харалужнымі, на таку жыццё кладуць, веюць душу ад цела. Нямігі крывавыя берагі не жытам засеяны – засеяны касцьмі рускіх сыноў» [2, *96*]. Трэба думаць, што «сеяць косткі» мог бог вайны. Але ў гэтай метафары заключана і пазітыўнае значэнне вобраза Кашча: сеюць тое, што павінна

даць новыя ўсходы. Такім чынам, «высейванне касцей» з'яўляецца захадам да адраджэння жыцця, і Кашч паўстае перад намі як дбайны гаспадар, што адсочвае і вызначае жыццёвы цыкл свайго «палетка».

Несумненна, міфалагічнага матэрыялу, дастатковага для гэтага даследавання, нам бракуе. Фактычна, славянскія народы, у тым ліку беларусы, не захавалі міфалагічнага базісу сваёй культуры. Усё, што мы маем, – няпэўнае рэха галасоў даўніны. Праўда, матэрыял казак досыць багаты і разнастайны і дазваляе рабіць некаторыя высновы. Аднак гэтага мала, бо па сваёй сутнасці казка – толькі схема міфа, яго адбітак, а не сам міф. Паколькі менавіта славянскіх міфаў не захавалася, давядзецца ісці шляхам тыпалагічнага параўнання, вышуквання, так скажам, адпаведнікаў у іншых міфалогіях.

Паўночная Еўропа якраз захавала такую ўпарадкаваную, інфарматыўную міфалогію. Канешне, у ёй таксама ёсць своеасаблівыя «белыя плямы», але на сённяшні дзень германская міфалогія паўстае ў выглядзе арганічнай сістэмы. Чаму мы дазваляем сабе звярнуцца менавіта да яе? Справа тут у гісторыі народаў. Згодна з меркаваннем абсалютнай большасці навукоўцаў, паміж германскімі і славянскімі плямёнамі існавалі частотныя сувязі, што адбілася і на іх мове. Апрача таго, відавочна, што плямёны, якія былі часткамі адной вялікай індаеўрапейскай сям'і, мусілі захаваць нешта агульнае і на культурным ўзроўні, як мінімум – на ўзроўні пантэона. Не варта, думаецца, казаць пра тое, што багоў аднаго народа часта «пераймалі» яго суседзі (як, напрыклад, тое рабілі рымляне). Такім чынам, грунт пад дадзеным даследаваннем ёсць, і даволі істотны. Таму паспрабуем звярнуцца непасрэдна да аналізу вобразаў і іх параўнання – на падставе атрыбутаў, знешніх прыкмет і функцый. Як ні дзіўна, найбольшая колькасць перасячэнняў назіраецца ў Кашча і Одзіна.

Надзвычай хуткі конь Кашча першым выклікае некаторыя асацыяцыі. Падобны конь (Слейпні) меўся ў Одзіна, галоўнага бога паўночнага пантэона. Варта дадаць, дарэчы, што ў Одзіна было шмат імёнаў і шмат увасабленняў, і вось што ён сам кажа пра сябе ў «Прамове Грымніра»:

*Правадыр – мне імя,*
*Шаломаносца,*
*Сябар, Сутуга,*
*Трацей і Захоп,*

*Высокі й Сляпы Хель,*
*Праўдзівы, Збрадлівы,*
*Ды Праўдашук,*
*Радасць Бойкі і Рознасць,*
*Ды Аднавокі,*
*Ды Агнявокі,*
*Злыдзень і Розны,*
*Аблічча і Твар,*
*Мара і Блазан,*
*Сякірабароды,*
*Ды Пераможны,*
*Шыракаполы ды Баламут,*
*Усябог і Наў-бог,*
*Вершнік і Цяжкі, -*
*Век не хадзіў я*
*сярод чалавекаў,*
*імя не змяніўшы...* [1, *214*].

Надалей гэты пералік працягваецца, але спынімся на прыведзеным урыўку. Калі звярнуць увагу на згаданыя імёны, заўважаем некаторую заканамернасць у іх ужыванні, важную для вобраза Кашча. Адвечны эпітэт Одзіна «*Высокі»* як найлепей стасуецца з апісаннем персанажа ў казках. Можна меркаваць, што і самы памер, і гэтае імя звязаныя з тым, што Одзін, як вядома, надта любіў сваё аблічча ётуна, велікана, у якім часта вандраваў. Імя *Злыдзень* або *Мара* кажуць самі за сябе – гэта, бадай што, вычарпальная характарыстыка Кашча і ў народных казках, і паводле праведзенага апытання. Імя *Наў-бог* (літаральна – «бог Наўя») паказвае на сувязь Одзіна з тым светам, са светам памерлых. Гэта, дарэчы, праяўляецца таксама і ў наступных яго мянушках: *Пажырацель Варон*, *Некрамант*. Кашч Бессмяротны ў сучаснасці заслужыў рэпутацыю бога смерці (якім фактычна не з’яўляецца), так што і тут блізкасць гэтых вобразаў відавочная. Імя *Вершнік* – зноў згадка пра Слейпні; апрача таго, Одзін нібыта ўзначальвае *Дзікае Паляванне*, дэманічную кавалькаду, якая «пажынае смяротны ўраджай» пры сустрэчы з чалавекам. Кашч у большасці выпадкаў – таксама вершнік, часта ён даганяе героя, які выкрадае сваю жонку, і сустрэча з ім у такім выпадку сапраўды пагражае смерцю.

Ужо згадваліся вораны і харты Кашча. Абсалютна такія «памочнікі» ёсць і ў Одзіна – прытым у той самай колькасці: два вораны, Хугін і Мунін («Думка» і «Памяць»), і два ваўкі, Геры і Фрэкі («Сквапны» і «Ненажэрны»). Да гэтай світы Одзін звяртаецца ў патрэбе – гэтаксама, як і Кашч перад бойкай. Аднак у больш позніх, відаць, варыянтах казак верагодная замена воранаў на сакалоў. Тады, праўда, самы факт рады з сакаламі набывае адценне абсурду: гэта воран – вешчы птах, аніяк не сокал.

Падабенства акружэння гэтых двух герояў распаўсюджваецца не толькі на світу. Так, у многіх казках Кашч робіцца бацькам трох (а часам і больш) дачок, прычым гэта незвычайныя дзяўчаты [4; *269*]. Яны здольныя пераўвасабляцца ў птахаў, найчасцей у лебядзей, носяць «сукню з лебядзінага пер'я». Гэта наводзіць на думку пра валькірый, служак Одзіна, якія падпарадкоўваліся яму як бацьку і былі здольныя з такім самым поспехам ператварацца ў лебядзей. Пра гэтую сувязь кажа і незвычайная сіла дачок Кашча: калі герой хоча «падперці» іх плячом у лазні, яны з лёгкасцю высаджваюць дзверы – і нешчаслівага кавалера разам з імі. Гэтаксама падобныя да валькірый царэўны-волаткі, якія выходзяць замуж за галоўнага героя пасля таго, як будуць ім пераможаныя. Апошні матыў вымушае ўзгадаць гісторыю Сігурда і Брунгільд, якая адбілася, такім чынам, і ў казачнай традыцыі славян.

Магчыма, «сукня з лебядзінага пер'я» – паэтычная назва даспеха, кальчугі, якая была неабходная як для ваяроў, так і для валькірый, багінь бойкі. Сама формула нагадвае метафары песняроў-скальдаў, і, відаць, невыпадкова.

Што яшчэ дазваляе збліжаць Кашча і Одзіна, дык гэта матыў зняволення Кашча. У многіх казках апісваецца, як Кашч зняволены вісіць у паветры, прыкручаны пад столлю, а грудзі ў яго працятыя кап'ём [5, *68*]. Одзін, як вядома, прыкладна такім самым чынам правісеў дзевяць дзён на Іггдрасілю, каб здабыць сапраўдную мудрасць (у выніку ён атрымаў руны).

*Ведаю, вісеў я*
*Ў вецці пад ветрам*
*Дзевяць доўгіх начэй,*
*Працяты кап'ём*
*Ў ахвяру Одзіну,*

*Самому сабе,*
*На дрэве тым,*
*Чые карані*
*Хавае Нязнанае* [1, *202*].

Кашч, па-над усім, здольны лятаць, і з месца свайго зняволення ён менавіта адлятае. Одзін гэтаксама здольны лятаць, як, напрыклад, падчас авантуры з мёдам Паэзіі, калі ён ператвараецца ў арла.

Дом Кашча знаходзіцца на высокай гары, дом Одзіна – у Асгардзе, за мастом-вясёлкай. Думаецца, гэтая аднолькавая арыентаванасць уверх невыпадковая і дазваляе яшчэ раз пацвердзіць пэўную семантычна-функцыянальную блізкасць персанажаў. Між іншым, герой прыходзіць у палац Кашча адно пасля сустрэчы з Бабай Ягой. Паколькі апошняя мае дачыненне да смерці, відавочна, што герой, хаця б і ўяўна, але памірае, а пасля, як кожны герой, трапляе ў славянскую версію Вальгалы. Адсюль яго шчасліваe злучэнне з жонкай-валькірыяй і вечнае, застылае, статычнае шчасце пасля – болей ён нікуды не ідзе, яго падарожжа завяршылася, ён зрабіў тое, што яму належала, і атрымаў вышэйшую ўзнагароду – смерць і славу. У гэтым выпадку ягоны паядынак і перамога над Кашчам можна разглядаць як своеасаблівую праверку гераізму, воінскую ініцыяцыю, калі заўгодна.

Наконт матэрыяльнай смерці Кашча – думаецца, гэта не зусім «смерць». Калі прыгадаем яе месцазнаходжанне (на самотным востраве сярод мора-акіяна, пад старым дубам), абавязкова задумаемся, ці не супярэчыць самы факт *наяўнасці смерці* блізкасці вобразаў Кашча і Одзіна? Цалкам *не*, калі дапусціць, што згаданы дуб – праекцыя сусветнага дрэва (Іггдрасіля; славянам дуб быў больш блізкі, чым ясень). Тады пад ім мусіць знаходзіцца крыніца Урд, а ў ёй – вока Одзіна, ахвяраванае ім Міміру дзеля атрымання ведаў пра гэты свет. Між іншым, ніводная казка не кажа нам пра аднавокасць Кашча – але і не адмаўляе яе. Варта сказаць таксама, што аднавокасць – ініцыяцыйнае калецтва для ведзьмароў (гл. «Сагу пра Кухуліна»), якое, відаць, з'явілася ў выніку рытуальнага паўтарэння міфалагічнага прэцэдэнту, каб зрабіцца падобнымі мудраму бажаству і атрымаць ад яго веды.

Можна, канешне, аспрэчваць гэтае меркаванне. Калі чароўнае яйка, якое ўтрымлівае ў сабе Кашчаву смерць, разглядаць як сімвал сусвету (як у «Калевале»), то Кашчаву смерць можна звязаць

з Рагнаракам, пагібеллю багоў, у тым ліку Одзіна. Шчасце, што надыходзіць для яго пасля – новая эпоха, хуткаплынная эпоха людзей, эпоха часовага замірэння – да тае пары, пакуль не прыдзе, каб паглынуць сонца, Змей.

Такім чынам, мы паступова прыйшлі да высновы, што казачны Кашч Бессмяротны, хутчэй за ўсё, ёсць фальклорная памяць пра старажытнае бажаство праславянскага свету. Улічваючы тыпалагічную сувязь Кашча з Одзінам, можна меркаваць, што гэты бог быў здольны стаяць на чале пантэона і сумяшчаць функцыі, блізкія да Одзінавых. Генетычна ён «бацька багоў», родапачынальнік, бог мудрасці (і, можа быць, паэзіі), першы і самы галоўны з усёй структуры жрацоў, бог-кіраўнік і бог-вершнік. Такім чынам, найбольш распаўсюджаная канцэпцыя ўспрыняцця Перуна-грамоўніка як галоўнага бога славян не падаецца бясспрэчнай. Або трэба дапусціць, што апрача «навальнічнай» у Перуна быў яшчэ цэлы шэраг функцый, або прызнаць, што на чале пантэона знаходзілася зусім іншае бажаство – Род, напрыклад.

Можа ўзнікнуць пытанне: ці мэтазгодна на сённяшні дзень звяртацца да рэканструкцыі міфалогіі? Лічым, што нават неабходна, паколькі аднаўленне хаця б часткі міфасферы ўяўляецца яшчэ і штуршком да актывізацыі мастацкага мыслення пісьменнікаў. Класічная беларуская літаратура прасякнута міфалогіяй, жывіцца ёю. На гэтым фундаменце трымаецца і сучасная літаратура самага рознага кшталту, ад жанраў фэнтэзі да рэалізму. Славянская міфалогія магла б скласці не менш моцную структуру, чым, напрыклад, скандынаўская, а на такой урадлівай глебе паўзрасталі б выдатныя прыклады прыгожага пісьменства.

**ЛІТАРАТУРА**


1. Беовульф. Старшая Эдда. Песнь о Нибелунгах. М., 1975.

2. Старажытная беларуская літаратура: зб. тэкстаў / склад. Л. С.Курбека. Мн., 2002.

3. *Степанов Ю. С*. Константы: Словарь русской культуры. М., 2004.

4. Чарадзейныя казкі: у 2 ч. / склад. К. П. Кабашнікаў, Г. А. Барташэвіч. Мн., 2003. Ч. 1.

5. Чарадзейныя казкі: у 2 ч. / склад. К. П. Кабашнікаў, Г. А. Барташэвіч. Мн., 2003. Ч. 2.

***Людмила Шевчик***

# ЯЗЫКОВАЯ КАРТИНА МИРА СЛАВЯН: ЭМОЦИОНАЛЬНЫЙ АСПЕКТ

В XX в. характерной чертой науки становится антропоцентризм. Человек является объектом исследования различных дисциплин, в том числе лингвистики. Антропоцентрическая лингвистическая теория признает невозможным изучение языка вне человека; связь мышления и речи (языка) настолько очевидна, что ее нельзя игнорировать. В результате речемыслительной деятельности человека в его сознании формируется языковая картина мира – «образ действительности, в создании которого большую роль играют универсальные категории сознания и мышления, среди которых ведущая роль принадлежит психическим состояниям» [2, *6*]. У каждого общества создается своя языковая картина мира. Наполнение ее зависит от различных факторов, в том числе от наличия тех или иных лексем в языке.

Эмоциональный аспект является одним из элементов в общем представлении человека о мире. В последнее время в науке все больший интерес проявляется к психической составляющей человека. Область психики представляет интерес для психологии, философии, этики, эстетики, психолингвистики. Не стала исключением и лингвистика: в ней появилась новая отрасль, которая исследует лексику эмоций, – эмотиология. Объектом изучения эмотиологии становится лексическое выражение психических состояний.

Эмоциональность как проявление психического состояния человека составляет неотъемлемую часть его жизни. При вербализации эмоциональных состояний происходит трансформация психической категории эмоциональности в языковую категорию эмотивности. По мнению лингвиста В. И. Шаховского, занимающегося исследованиями в области эмотиологии, **эмотивность** – это «имманентно присущее языку семантическое свойство выражать системой своих средств эмоциональность как факт психики, отраженные в семантике языковых единиц социальные и индивидуальные эмоции» [4, *4*].

Как часть представлений об окружающем мире, отраженных в языке, эмотивная лексика дает нам возможность больше узнать и о самом человеке. Чем больше данных предоставлено для анализа, тем

маральны прагрэс трывала замацоўваецца за беднымі, а рэгрэс маральных каштоўнасцей дэманструюць багатыя. Адпаведна дзівосныя вандроўнікі ўзнагароджваюць адных і караюць другіх.

Іншы характар мае вандраванне дзівосных падарожных у каляндарна-абрадавых песнях. Хрысціянска-міфалагічныя асобы сыходзяць з неба на зямлю не дзеля выпрабавання людзей, а дзеля свяшчэннага забеспячэння жыццядзейнасці наогул. Іх містычная прысутнасць адчуваецца ў кожным прыродным руху, у кожнай сялянскай працы. Касмічнае падзвіжніцтва і практычнае апякунства над людзьмі – вось шлях гэтых персанажаў, якія ва ўласным абліччы сустракаюцца з хлебаробамі, выказваюць шчырую заклапочанасць аб ураджаі. Бог і святыя на зямлі – такая ж самая эпіфанія бажаства, як і з’яўленне сонца з апраметнай, працяг язычніцкай метафарыстыкі ўрадлівасці.

Канцэптуалізацыя дарогі вяртання залежыць ад пазіцыі персанажа і падзей, што адбыліся ці адбываюцца там, дзе ён быў. Адпаведна гэта шлях прагрэсіўнага ўзыходжання ці рэгрэсіўнага адступлення духу, шлях, сюжэтна аформлены, «сапраўдны» ці пазначаны толькі матывамі, «уяўны», у думках і фантазіях персанажа.

У згорнутым выглядзе сюжэт вяртання існаваў задоўга да фальклорнага ўвасаблення. Адыход – барацьба са зверам – перамога – вяртанне з’яўляюцца асноўнымі пунктамі лакальна-прасторавай актыўнасці архаічнага чалавека, пры якой вышэйшым прэстыжам надзяляецца агонь. Ён быў тым пунктам, які кансалідавала гурт пасля блуканняў у пошуках ежы. Заканамерна, што пазней сімвалам абжытай прасторы становяцца печ і агонь. Разам з кутам і парогам яны набываюць у народнай культуры надзвычайны рытуальны статус. Ідэя вяртання – найбольш жыццесцвярджальная лінія сусветнай міфалогіі і фальклору, без якой культура не атрымала б такіх грандыёзных сімвалаў, як вяртанне сонца на неба, Адысея ў родную Ітаку пасля маруднага блукання ў лабірынце падзей і паражэнняў, блуднага сына, які спаўна аддаў даніну ўсім відам распусты, да бацькоўскага парога.

Дарога вяртання – шлях да Дома (роднага, свайго, любага сэрцу) у сюжэтным плане і шлях да самаго сябе ў псіхалагічным, калі асоба, прайшоўшы спакусы і выпрабаванні, выяўляе сваю сапраўдную духоўную сутнасць. Для фальклорных персанажаў родны дом – безумоўны цэнтр свету, сакральная каштоўнасць паўсядзённасці, заўсёднае духоўнае

тут у процівагу ўсялякаму там, атачонаму трывожна-прыцягальнымі канатацыямі, бо за краем свайго пачыналася тэрыторыя, небяспечная і цудоўная разам.

*Тамашнія* насельнікі – заўсёды *чужыя*: міфалагічна (Змей, Цмок, Кашчэй, духі, чэрці), хоць ёсць прыязныя да чалавека (напрыклад, сонца і яго сямейнікі), віталістычна (напрыклад, продкі – хоць і свае, але памерлыя, якія тым не менш жывуць, але сваім жыццём, адрозным ад зямнога), гістарычна (разнастайныя ворагі натуральнай прыроды, іншы цар з яго войскам), сацыяльна (нявродная сям'я) і, магчыма, эвалюцыйна (разнастайныя веліканы ў легендах і казках).

Сапраўднае вяртанне – вынік і працяг дарогі вандравання, шлях частковага ці канчатковага фарміравання *эга*. Трыумфальнае вяртанне ўласціва персанажам тых казак, якія сюжэтна і ідэалагічна звязаны з ініцыяльным інстытутам старажытнасці. Гэта, напрыклад, дзедава дачка з казкі «Марозка», шматлікія хлопчыкі і дзяўчынкі, што збягаюць ад пачварных істот або якіх тыя адпускаюць, часам нават надарыўшы.

Небяспечнае вяртанне – гэта шлях Героя, выратавальніка казачнага свету, змагара са злом, якое пагражае існаванню сям'і і соцыума.

Пасля перамогі над антаганістам, якога герой шукаў упарта і мэтанакіравана, пасля выканання цяжкіх задач, загаданых іншасветным царом, пасля згоды на шлюб з цудоўнай нявестай, пасля знаходжання маці, сясцёр, а заадно іншых прыгажунь, пасля праходжання курса хітрай навукі і г. д. пачынаецца вяртанне, часцей за ўсё гэта цяжкі шлях, на якім будуць праследаванне, пагоня, барацьба з жаночай часткай змеевай сям'і, уцёкі, ператварэнні, метамарфозы, нават смерць і страта памяці пра цудоўную нявесту, што чакае яго. Шлях казачнага героя – не багаты на падзеі лабірынт Адысея, якому перашкаджаў сам бог Пасейдон, але канчатковая кропка ў іх вандраванні аднолькавая: зноў барацьба, на гэты раз з «самазванымі прэтэндэнтамі», «носьбітамі вобраза смерці», па тэрміналогіі В. М. Фрэйдэнберг [9, *234*].

Дэмакратычнага казачнага героя дарога вядзе да роднага парога або вяртае ў царскі палац, адкуль пачынаўся шлях. Уражальная развязка сюжэта – трансфігурацыя героя (тэрмін У. Я. Пропа), напрыклад, пасля купання ў кіпячым малацэ. Гарманічнае адзінства ўнутранага і знешняга, высакародства, сілы і прыгажосці – апошняя кропка ў пра-

цэсе асобаснай рэалізацыі казкавага героя, малодшага, беднага, несамавітага і непрыгожага напачатку свайго шляху да подзвігу.

Казачны герой, як арыстакратычны, так і дэмакратычны, – жывое ўвасабленне *самасці*, якая, згодна з К. Г. Юнгам, мае непасрэднае дачыненне да поўнага развіцця індывіда, самай поўнай рэалізацыі яго патэнцыяльных магчымасцей. Вопыт дачынення да трансцэндэнтнага набываюць і жаночыя персанажы: вызваляе з абдымкаў сну (чытай – смерці) свайго цудоўнага каханка Фініста адданая яму дзяўчына, ратуе браціка ад Бабы Ягі смелая і адказная дзяўчынка з казкі «Гусі-лебедзі». Яна набывае мудрасць, якой ёй напачатку не хапала, дзякуючы чаму пры падтрымцы рэчкі, печкі і яблыні збягае ад пагоні. Такім чынам, для фальшывых герояў дарога вяртання завяршаецца паражэннем і пагібеллю, для сапраўдных – яна шлях канчатковага ўмацавання эга. Універсальны казкавы знак самарэалізацыі асобы – змяненне або пацверджанне сямейнага статуса: шлюб з цудоўнай нявестай ці жаніхом, узноўлены шлюб, вяртанне сям'і паўнаты і цэласнасці праз выратаванне маці, брата, сястры.

Сітуацыя ўяўнага вяртання ўласціва лірычным песням і баладам. Іх звычайны персанаж – маладая замужняя жанчына ў архетыпічнай пазіцыі «царэўна ў Кашчэя». Па сутнасці, пазіцыя ахвяра-захопнік з'яўляецца працягам адпаведнай пазіцыі ў вясельных песнях, дзе стасункі жаніха і нявесты перадаваліся праз агрэсіўную сімволіку, але ўраўнаважваліся магічнай паэтыкай з бясконцымі пажаданнямі сямейнага шчасця і дабрабыту.

Ад казачнай царэўны нічога не залежала, заставалася толькі чакаць героя-выратавальніка. І ён з'яўляўся. А вось у сямейна-бытавых песнях ёсць толькі адрасаты скаргаў нявесткі. Звычайна гэта родныя замужніцы, зусім не здольныя вырашаць яе праблемы. Сама ж яна псіхалагічна не гатова да пераходу на новы ўзровень асэнсавання свайго жыцця, гэта значыць, што яе ўнутраны выратавальнік адсутнічае, адсюль уцёкі ў фантазіі, звужэнне свядомасці да антытэзы родны дом – чужая сям'я. «Царэўна на ростані» – вельмі ўразлівы тып. Вольнае жыццё ў бацькоўскім доме да замужжа набывае для жанчыны такую каштоўнасць, што перашкаджае будаваць уласную сям'ю, шукаць шляхі да наладжвання ўзаемаадносінаў з «кашчэямі». Мастацкі знак уцёкаў псіхалагічна няспелай асобы ад рэальнасці ў свет марных чаканняў – шырока распаўсюджаная

канструкцыя «пайду я» (*у крыніцу, у лес па дровы, да броду, з тугі ў лугі, цёмным лесам, да Дунаю, на вуліцу, каля гаю, дзе дзеўкі гуляюць, куды век не хадзіла, лужком-беражком, на гору крутую, у чыста поле, за вароты* і г. д.). Тут значны не так кантэкст твораў, як інтэнцыяльны жэст. За гэтым «пайду я», часам адкрыта і адназначна – «да роду», праглядаецца псіхалагічная сітуацыя «вяртанне да вытокаў», якая выклікае да жыцця тое, што К. Г. Юнг называў «архетыпам дзіцяці». «Унутранае дзіцянё» гаворыць вуснамі гераіні заўсёды, калі яна скардзіцца на сваю долю, сям'ю свайго мужа і, хоць у думках, збягае ў мінулае, каб зноў перажыць пачуццё спакою і абароненасці. Нездарма сімвалам душэўнай непрыкаянасці замужніцы становіцца ў народнай лірыцы зязюля – птушка, якая не мае ўласнага гнязда. Менавіта ў яе марыцьператварыцца жанчына, каб наведаць родных (шэраг балад тыпу «дачка-птушка»).

Некалькі ў іншым ключы падаецца ўяўнае вяртанне дачкі або нявесткі з поля дадому ў жніўных песнях з зачынам «Ой, пайду я дарогаю, // Пушчу голае дубровою»:

*Сама пайду дарогаю,*
*Пушчу голас дубровою.*
*Няхай голас галасуець,*
*Няхай мая мамка чуець.*
*«Калі маё дзіця пяець –*
*Няхай яно красуецца,*
*У чаравічкі абуецца,*
*На кірмашы рыхтуецца.*
*Калі мая нявестачка –*
*Няхай яна ташнуецца,*
*У лапцікі абуецца,*
*На работку рыхтуецца*» [6, *211*].

Відавочна разбураецца міф пра ідэальную родную маці, несправядлівую ў ролі свекрыві. Але ніколі не пахіснецца «мацярынскі» міф гераіні сямейна-бытавых песень: яе парцыяльная вечная дзева заўсёды будзе надзяляць бацькоў тымі архетыпічнымі якасцямі, «якія ў іншых культурах можна было б знайсці толькі ў Багоў і Багінь» [10, *50*].

Як бачым, дарога – той «сэнсавобраз» [2, *48*] які, здаецца, ніколі не вычарпае сябе. Ён можа быць праілюстраваны значна большай колькасцю прыкладаў, але справа не ў іх колькасці, а ў гранях канцэп-

туалізацыі, калі дарога ўсведамляецца як шлях: да смерці і праз смерць да трансцэндэнтнага, да пагібелі і адраджэння, да самаразбурэння і ідэальнай дасканаласці, да наканаванага і барацьбы з рокам, да самарэалізацыі і збягання ад праблем і г. д. і да т. п. Даволі рана канцэпт шлях пачынае атачацца маральнымі асацыяцыямі, становіцца крытэрыям ацэнкі персанажа, меркай яго духоўнага росту.

### ЛІТАРАТУРА

1. Валачобныя песні / уклад. Г. А. Барташэвіч, Л. М. Салавей, В. І. Ялатаў. Мн., 1980.

2. *Голосовкер Я. Э.* Логика мифа. М., 1987.

3. Зімовыя песні (Калядкі і шчадроўкі) / уклад. А. І. Гурскі, З. Я. Мажэйка. Мн., 1975.

4. *Кабашнікаў К. П.* Народная проза / К. П. Кабашнікаў, А. С. Фядосік, А. В. Цітавец. Мн., 2002 (Беларускі фальклор: Жанры, віды, паэтыка; кн. 4).

5. Казкі пра жывёл і чарадзейныя казкі / склад. К. П. Кабашнікаў. Мн., 1971.

6. Песні народных свят і абрадаў / уклад. Н. С. Гілевіча. Мн., 1974.

7. *Пропп В. Я*. Русская сказка. М., 1984.

8. *Степанов Ю. Г.* Константы: Словарь русской культуры. М., 2004.

9. *Фрейденберг О. М*. Миф и литература древности. М., 1998.

10. *Хиллман Дж.* Архетипическая психология. СПб., 1996.

***Алена Алфёрава***

## СЕМАНТЫКА ЧЫРВОНАГА КУТА Ў ФАЛЬКЛОРЫ

Дом – адзін з найважнейшых канцэптаў фальклорнай культуры, вобраз якога паўстае ў разнастайных жанрах народна-паэтычнай творчасці. З ім звязана значэнне ўтульнасці, абароненасці, цяпла. Т. У. Цыўян абсалютна слушна заўважыла, што ў фальклорнай мадэлі свету дом «уяўляе сабой адну з асноваўтваральных семантэм» [12, *65*]. Увага даследчыкаў скіроўвалася на выяўленне рытуальнага прызначэння частак жылля, якія таксама маюць высокі семіятычны статус. Безумоўна, адным з вызначальных з’яўляецца чырвоны кут (*кут, покуць* у беларусаў і ўкраінцаў, *красный угол* у рускіх). Дадзеная частка дома адзначаецца ў розных фальклорных жанрах, асабліва выразна – у абрадавай паэзіі і загадках. Мэта дадзенага артыкула – вызначыць семантыку чырвонага кута ў беларускіх фальклорных жанрах.

Згодна з «Этымалагічным слоўнікам беларускай мовы», слова ‘кут’ «генетычна суадносіцца з прасл. kątati ‘закрываць, хаваць’» [13, *173*]. Яшчэ больш празрыстую семантыку мае слова ‘покуць’: «Першапачаткова, відаць, ‘найбольш абароненае месца’, як бачна з *пакутаць* ‘загарадзіць’» [14, *269*].

На думку А. К. Байбурына, чырвоны кут «калі не рэальна, то ўмоўна (праз абразы) быў зарыентаваны на ўсход або поўдзень і асветлены больш за іншыя куты» [1, *149*]. Відавочна, што з улікам менавіта гэтых асаблівасцей будовы і арыентацыі народнага жылля фарміраваліся ўяўленні пра дадзены кут як галоўны, «старэйшы». Руская загадка сведчыць: *«Четыре брата годами равны, один главный. Углы в избе»* [3, *№ 2981*]. Азначэнне *чырвоны (красны)* уводзіць кут у кола прасторавых уяўленняў, звязаных з дзённым шляхам сонца, за якім у народнай культуры трывала замацаваны эпітэт *краснае*. Сонца звязвалася з жыццём, у міфалагічных уяўленнях земляробаў яму належыць галоўнае месца. А паколькі на ўсходзе яно асвятляла першым менавіта той кут, які ў далейшым пачаў называцца чырвоным, то зразумела, што семантычныя рысы сонца перайшлі на гэтую частку жылля. Чырвоны кут становіцца надзвычай сакралізаваным месцам, сімволіка якога звязана з жыццём, перанараджэннем, «адраджэннем або ўваскрэсеннем» [6, *560*].

Як заўважае У. А. Лобач, чырвоны кут у народных уяўленнях «увасабляе “сваю” замкнёную прастору і адасабляе яе ад “чужога”, знешняга, не засвоенага чалавекам свету» [7, *352*]. На наш погляд, дадзенае меркаванне не зусім карэктнае, тым больш што ніжэй даследчык адзначае: «Покуць – дзейсны канал камунікацыі паміж людзьмі (родам) і сферай сакральнага, “боскага”» [7, *352*]. Адсюль вынікае, што покуць, чырвоны кут, захоўваючы сваё абарончае значэнне і станоўчае уздзеянне, тым не менш па сваіх функцыях блізкі да памежнай часткі дома. Кут і покуць – найважнейшыя канцэпты абрадавай сферы фальклору, яны той рытуальны цэнтр, дзе містычным чынам канцэнтруецца энергія кругазвароту, праўтварэння, пераўвасаблення.

Часцей за ўсё чырвоны кут (покуць, кут) згадваецца ў калядных песнях, прымеркаваных да зімовага сонцавароту. У адным з варыянтаў на покуці сядзіць гаспадар:

*Сам пан гаспадар да й* ***на покуце****,*
*Да й на покуце ўвесь у золаце* [11, *№ 10*].

Песенная сітуацыя адпавядае суаднесенасці пэўных частак дома з іерархічным становішчам членаў сям'і: на покуці «звычайна сядзіць галава сям'і, гаспадар. Верагодна, менавіта таму ў прыкметах калі трашчыць вялікі кут, то гэта прадракае смерць гаспадару» [1, *150*]. У дадзеным выпадку, як і ў большасці калядных песень, гаспадар – субстытут галавы нябеснай сям'і, на што паказвае такі атрыбут, як золата. Як слушна адзначае Р. М. Кавалёва, «калядаванне <...> разрывае звычайны рух часу, а песні агучваюць момант пераходу ў сакральны свет, і з кожным выкананнем твораў міфалагічнае становіцца рэальнасцю сучаснага» [5, *95*], пераўвасабляе яго.

У песнях, якія даследчыкі класіфікуюць як агульныя перадкалядныя, шырока ўжываецца апорная сюжэтная сітуацыя «Каляда на куце». Мяркуем, што Каляда ў дадзеных выпадках не так персаніфікацыя свята, як увасабленне новага часу. Таму з песні ў песню паўтараецца матыў яе прыезду і ўладкавання на свяшчэнным месцы:

*Прыехала Каляда ўвечары,*
*Прывезла дудак рэшата.*
*Паставіла дудкі на стаўпе,*
*А сама села* ***на куце*** [11, *№ 3*].

Такім чынам, калі ў сакральным месцы знаходзіцца міфалагізаваны персанаж, то гэта рытуальная ўмова perастварэння (новага стварэння) часу. Нярэдка ў падобных песнях працягам служаць шлюбныя матывы, што, на думку В. С. Новак, «магло садзейнічаць прабуджэнню зямлі, яе адраджэнню пасля зімовай мёртвай нерухомасці, магло спрыяць яе ўрадлівасці» [10, *70*]:

*А ты, красуня, астанься, астанься*
*І са мною звянчайся, звянчайся* [11, *№ 5*].

У адной з украінскіх калядных песень замест язычніцкай Каляды ўводзяцца хрысціянскія персанажы – Ісус Хрыстос і Божая Маці:

*Та й у тім домі* ***на покуті,***
*Ой сів Сус Христос вечеряти,*
*Ой прийшла к Йому Божая Мати* [9, *№ 34*].

У жніўных песнях месца на покуці або за цясовым сталом належыць іншаму міфалагічнаму персанажу – Спарышу, які ўвасабляў добры ўраджай, таму яму такая пашана:

*Сядзь, Спарыш,* ***на покуці,***
*На покуці да на золаце* [11, *№ 626*].

На куце ў калядныя вечары клалі салому, сюды прыносілі і ставілі на стол куццю [8, *57*], жытні сноп пасля дажынак [8, *138*], зярняты з якога ў наступным годзе пачыналі сеяць першымі. З прыведзеных прыкладаў бачна, што покуць прыняла на сябе функцыі месца для ахвярапрынашэнняў вышэйшым сілам.

У іншых каляндарных песнях покуць сустракаецца значна радзей, чым у калядках. Як правіла, статус покуці ў іх таксама адрозніваецца ад каляднага. Покуць выклікае асацыяцыі не з сакральным светам, не з персанажамі – яго прадстаўнікамі, а з гаспадарскай сям'ёй, перш за ўсё з мужчынам-гаспадаром. Калі ж яго няма, то ў адной жніўнай песні яго месца вымушана займае ўдава:

*Горкі мой абедзе*
*Да без цябе, мой міленькі.*
*Сама сяду* ***на покуці,***
*А дзеткамі абсажуся,*
*Слёзкамі абальюся* [11, *№ 595*].

Праз такое нетыповае для народных уяўленняў локуснае маркіраванне сітуацыі дасягаецца моцны псіхалагічны эфект.

Даволі рэдкі вобраз покуці ў замовах, часцей за ўсё тут фігуруюць царква і прастол. Аднак у некаторых варыянтах замоў супраць хвароб, у прыватнасці ад крыксаў і плаксаў, Божая Маці, як і ў калядных песнях, знаходзіцца ў чырвоным куце: *«Стаіць Прачыста мацер Божыя на покуці, а ідал на парозі, а слуга (ангел-храніцель) на старожы. Прачыстуй мацеры Божай малітвы, а ідалу – крыксы і плаксы і начніцы»* [4, *№ 1177*]. З тэксту замовы бачна, што покуць звязваецца з дабратворнымі сіламі, супрацьпастаўляецца памежнай частцы хаты – парогу. Адпаведна Маці Божая супрацьстаіць язычніцкаму ідалу, на якога і пераносяцца начніцы. Такім чынам, у замове засведчана, што ў хрысціянскія часы покуць трывала становіцца цэнтрам, дзе містычна прысутнічаюць не толькі продкі, але ўжо і персанажы новай рэлігіі. Цікава, што, па сведчанні С. А. Вяргеенкі, у некаторых мясцовасцях месцам прамаўлення замоў таксама была покуць [8, *14*].

Першачарговую ролю адыгрывае покуць у вясельных абрадавых дзеяннях. У чырвоным куце ставілі вясельны каравай – сімвал дабрабы-

ту, багатага і доўгага жыцця маладых. Дадзены атрыбут быў настолькі важны на вяселлі, што да яго вырабу прад'яўляліся вельмі строгія патрабаванні. Не дзіўна, што сам каравай персаніфікаваўся, станавіўся ўдзельнікам вяселля:

*Каравай, ідзі з клеці*
*Да сядай* ***на покуці****,*
*Бяры сабе чарачку,*
*Налівай гарэлачку* [2, *№ 444*].
На покуці садзяць маладую:
*Баяры ішлі, за стол селі,*
*Маладая –* ***на покуце*** [2, *№ 1282*].

Гэты хранатапічны вобраз сімвалізуе своеасаблівае перанараджэнне маладых і набыццё імі новага статусу. Пры гэтым маладых садзілі не на голую лаву, а на кажух, *«штоб былі цёплыя і багатыя атнашэнія»* [8, *196*].

Чырвоны кут амаль не сустракаецца як атрыбут абрадаў варажбы. Гэта зразумела, паколькі варажба традыцыйна звязвалася з патаемнымі цёмнымі сіламі і праходзіла, як правіла, не ў хаце, а ў лазні ці свіране. Калі ж дзяўчаты збіраліся ў хаце, то абразы ў чырвоным куце адварочвалі да сцяны. Такім чынам яны нібы пазбаўлялі покуць яе асноўнай ахоўнай функцыі. Тым не менш В. С. Новак зафіксавала на Мазыршчыне адзін цікавы варыянт летняй варажбы, дзе непасрэднага згадвання покуці няма, аднак пазначаны стол, які звычайна размешчаны там: «Раздзеваліcь, хадзілі вакол стала і гаварылі: "Суджаны-раджаны, прыдзі рубашку адзяваць"» [8, *129*]. Магчыма, у дадзеным выпадку адбываецца своеасаблівая праекцыя варажбы на будучае вяселле з паўтарэннем аднаго з вясельных абрадаў, калі маладых тры разы абводзілі вакол стала. Ды і сама варажба адбывалася ўлетку – не настолькі містычны і загадкавы час у параўнанні з Калядамі.

Такім чынам, сярод частак жылля чырвоны кут (покуць) валодае звышвысокім семіятычным статусам, нават большым за печ і парог. Ён звязаны з жыццём, перанараджэннем, станоўчым уздзеяннем вышэйшых сіл. Яго семантыка першачаргова абумоўлівалася сувяззю з сонцам і святлом, а ў далейшым з хрысціянскай адзначанасцю хатняга локуса праз бажніцу.

## ЛІТАРАТУРА


1. *Байбурин А. К.* Жилище в обрядах и представлениях восточных славян. Л., 1983.

2. Вяселле. Песні: у 6 кн. / склад. Л. А. Малаш. Кн. 2. Мн., 1981.

3. Загадки / сост. В. В. Митрофанова. Л., 1968.

4. Замовы / уклад. Г. А. Барташэвіч. Мн., 2000.

5. *Кавалёва Р. М.* Абрысы рытуальна-магічнай сферы беларускага фальклору: зб. арт. Мн., 2005.

6. *Крук І.* Чырвоны // Беларуская міфалогія: энцыкл. слоўнік. Мн., 2006.

7. *Лобач У. А.* Покуць // Беларускі фальклор: энцыкл.: у 2 т. Т. 2. Мн., 2006.

8. Мазыр. 850 год: у 3 т. Т. 3. Спрадвечнай мудрасці скарбонка: сучасны стан традыцыйнай культуры г. Мазыра / уклад. В. С. Новак [і інш.]. Гомель, 2005.

9. Народні пісні: Записи Л. Єфремової. Київ, 2006.

10. *Новак В. С.* Каляндарна-абрадавая паэзія Гомельшчыны (да праблемы лакальнага, рэгіянальнага, агульнанацыянальнага ў фальклоры). Гомель, 2001.

11. Паэзія беларускага земляробчага календара / уклад. А. С. Ліса. Мн., 1992.

12. *Цивьян Т. В.* Дом в фольклорной модели мира // Семиотика культуры. Труды по знаковым системам. X вып. 463. Тарту, 1978.

13. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы / рэд. В. У. Мартынаў. Т. 5. Мн., 1989.

14. Этымалагічны слоўнік беларускай мовы / Рэд. Г. А. Цыхун. Т. 9. Мн., 2004.


***Алена Смольская***

## СІСТЭМНАСЦЬ ВОБРАЗАЎ У ФАЛЬКЛОРНЫХ ТВОРАХ

Сярод духоўных набыткаў кожнага народа асаблівую культурную і навуковую каштоўнасць мае фальклор. Гэта мастацкі летапіс народа. На працягу многіх стагоддзяў фальклор жыў у асяроддзі сваіх стваральнікаў, чуйна рэагуючы на змены ў быце, светапоглядзе, сацыяльных стасунках і, разам з тым, беражліва захоўваючы ядро канстантных мастацкіх вобразаў, пра што сведчыць упарадкаванасць песеннай сімволікі, жывучасць такіх персанажаў фальклорнай прозы, як асілкі (Іван Світаннік, Пакацігарошак, Вярнідуб), Жар-птушка, Іван-царэвіч, Рымша, Несцерка, Машэка і інш.

Варта падкрэсліць, што фальклор – з'ява мастацтва, дзе ўсё багацце ідэй выяўляецца праз мастацкія вобразы. Фальклорны вобраз – дзеючая асоба твораў, элемент ці частка мастацкага цэлага, якая валодае самастойным зместам [3, *25].* Так, у замовах фальклорным вобразам з'яўляецца камень Алатыр, у каляндарна-абрадавых песнях – вянок, у казках – чароўныя рэчы і інш. У шырокім сэнсе фальклорны вобраз – гэта катэгорыя вуснай народнай творчасці, сродак узнаўлення, вытлумачэння і засваення рэчаіснасці, у пазнаваўчым аспекце – выдумка, пераўтварэнне рэчаіснасці з дапамогай асацыятыўнасці і метафарычнасці.

Зразумела, вобразы не існуюць ізалявана адзін ад аднаго, яны ўступаюць у розныя ўзаемаадносіны, ствараючы тым самым спецыфічную сістэму. У далейшым пад паняццем «вобраз» будзем мець на ўвазе непасрэдна дзеючую асобу, пад «сістэмай вобразаў» – сістэму персанажаў фальклорнага твору.

У наш час літаратуразнаўцы звярнулі асаблівую ўвагу на вызначэнне канфігурацыі сістэмы вобразаў, неабходнае для адэкватнай інтэрпрэтацыі твораў, выяўлення аўтарскай пазіцыі. Канфігурацыя сістэмы вобразаў у фальклоры – з'ява недаследаваная, хаця многія вучоныя ў сваіх працах так ці інакш звярталіся да праблемы сістэмнасці вобразаў (М. В. Новікаў, У. Я. Проп, А. М. Афанасьеў, Е. М. Мелецінскі, С. В. Саўчанка, У. П. Анікін і інш.). Сістэма вобразаў цікавіла іх у першую чаргу ў сувязі з вырашэннем іншых праблем – генезісу і формы твора. Яны даследавалі, што канкрэтна ўяўляе сабой вобраз-персанаж, з дапамогай якіх сродкаў і прыёмаў ён ствараецца, ці ёсць сувязь паміж тым ці іншым вобразам-персанажам і сюжэтам. У наш час працягваецца вывучэнне семантыкі вобразаў, іх сувязей з рэчаіснасцю і мастацкім светам. Разам з тым для адэкватнага разумення гістарычнага развіцця фальклору, усведамлення народнай пазіцыі неабходна таксама даследаванне тыпаў канфігурацыі сістэмы вобразаў, што ў сваю чаргу пашырае межы інтэрпрэтацыі канкрэтных твораў.

Сам тэрмін «сістэма персанажаў» можна ахарактарызаваць як па-мастацку мэтанакіраваную суаднесенасць усіх галоўных, «вядучых» герояў і так званых «другарадных» дзеючых асоб у творы. Вядомы тэарэтык літаратуры Н. Д. Тамарчанка вылучае наступныя тыпы канфігурацыі сістэмы галоўных герояў: «пары», «трохвугольнікі», «чатырохвугольнікі» [8, *261*]. Нельга забываць пра тое, што існуюць і

монагеройныя, монацэнтрычныя творы, у якіх прысутнічае адзін галоўны герой. Аналагічныя суадносіны персанажаў запачаткаваліся, за некаторым выключэннем, яшчэ ў фальклоры.

Большасці фальклорных твораў уласціва монацэнтрычная сістэма персанажаў, якая характарызуецца наяўнасцю аднаго галоўнага героя. Менавіта яму падпарадкуецца дынаміка сюжэтных падзей. Астатнія персанажы з'яўляюцца эпізадычнымі, служаць для раскрыцця вобраза галоўнага героя і ўспрымаюцца як «рэзаніруючы» фон. Яскрава выражанай монацэнтрычнай сістэмай вобразаў у фальклоры характарызуюцца чарадзейныя казкі, у прыватнасці група казак героіка-фантастычнага зместу. К. П. Кабашнікаў вызначае іх як «творы маштабныя, з падобнай сістэмай вобразаў, будовай, прасякнутыя пафасам барацьбы з рознымі варожымі народу сіламі» [5, *176*]. Галоўнымі героямі такіх казак выступаюць Пакацігарошак, Івашка Мядзведжае вушка, Іван Кабылін сын, Іван Іванавіч царэвіч, Іван Падвей і іншыя асілкі, пераможцы розных варожых чалавеку істот. М. В. Новікаў наступным чынам вызначыў пазіцыю героя: «З'яўляючыся кампазіцыйным стрыжнем казкі, галоўны герой прысутнічае ў ёй пастаянна: з яго пачынаецца, ім працягваецца і заканчваецца казка; іншыя персанажы – яго памочнікі і праціўнікі – уводзяцца ў аповед эпізадычна і толькі ў цеснай сувязі з дзейнасцю яе галоўнага героя» [6, *240*]. Монацэнтрычнасць уласціва таксама шырокаму пласту лірычных песень, якія ўяўляюць сабой «маналагічныя споведзі-прызнанні, споведзі-скаргі героя» або «шчырыя, *бясконца* даверлівыя, пранікнёныя дыялогі, што ён вядзе з іншымі персанажамі песень або з самім аўтарам – выканаўцам твора» [7, *5*].

Пару ўтвараюць два галоўныя героі. Гэта раўнапраўныя вобразы, ад дзеянняў якіх залежыць развязка твора, без іх удзелу не могуць адбыцца асноўныя сюжэтныя падзеі. Перыпетыі іх лёсу паказаны заўсёды паралельна. Гэтыя героі з'яўляюцца носьбітамі народнага светапогляду, думак і адчуванняў, іх выказванні звычайна з'яўляюцца дамінантнымі ў маўленчай структуры твора. Так, у паданні «Месяц» галоўныя героі – два браты, якія адправіліся з бацькоўскага дому шукаць лёгкага хлеба. Іх жыццёвыя шляхі разышліся: адзін, малодшы, стаў мудрацом, вучыў людзей, як жыць шчасліва; другі, старэйшы, стаў панам, служкай цара. Фінал падання трагічны: старэйшы брат, каб выслужыцца перад царом, не пазнаўшы малодшага, забівае яго, уцякае і раптам ба-

чыць на мёсяцы, як забіў свайго брата. З тых часоў, гаворыць паданне, на месяцы відаць, як стаіць брат над забітым братам [4, *28–29*].

Парны тып сістэмы вобразаў сустракаецца і ў баладах. Так, у распаўсюджаных міфалагічных баладах тыпу «Браткі» [1, *244*] прысутнічае два галоўных героя – брат і сястра. Біцэнтрычная сістэма персанажаў уласціва пазаабрадавай лірыцы. У гэтым выпадку раскрыццё характараў двух галоўных герояў звычайна адбываецца з дапамогай дыялогу асоб, як, напрыклад, у любоўнай песні «Ты чырвоная каліна» [2, *648*].

Трохвугольнік магчымы ў выпадках супрацьстаяння аднаго персанажа пары. Такая групіроўка звязана часцей за ўсё з сітуацыяй выбару для аднаго з іх паміж полюсамі, прадстаўленымі двума іншымі персанажамі або з аўтарскім супрацьпастаўленнем полюсаў і сярэдзіны, крайнасцей і агульнай для іх «меры». Падобныя сітуацыі вельмі характэрныя для балад, напрыклад, на сюжэт «сястра атручвае брата па намове каханка» («Ой, у полі крынічэнька») [2, *526*]. Канфлікт звязаны з выбарам сястры паміж братам і каханкам. Галоўныя героі ўтвараюць трохвугольнік з супрацьпастаўленнем брата і сястры з каханкам. Яскравым прыкладам трохвугольнай сістэмы персанажаў з'яўляецца казка «Юда – беззаконны чорт» [9, *154–159*], аналагічныя ёй «Хорткі» [9, *160–167*] і «Медзяны воўк» [9, *167–172*]. У казцы назіраем два віды супрацьстаяння: спачатку супрацьстаянне Юда – Мар'ячка і Іванька, потым – Юда і Мар'ячка – Іванька. Тым не менш атрымоўваецца відавочная трохвугольная сістэма персанажаў, полюсы і сярэдзіна якой дынамічна змяняюцца ў творы разам з развіццём сюжэтнага дзеяння.

Чатырохвугольнік у літаратурных творах ўяўляе сабой перакрыжаванне, спалучэнне дзвюх пар. Напрыклад, разам з асноўнай, сур'ёзнай узнікае дубліруючая (камічная) пара: каханкі-гаспадары і каханкі-слугі ў класічнай камедыі. Магчыма роўнасць дзвюх пар. У фальклоры такая камбінацыя галоўных герояў сустракаецца надзвычай рэдка. Выявіць выпадкі чатырохвугольнай сістэмы вобразаў у фальклоры можна толькі пры сістэмным падыходзе. У адным творы такая сістэма персанажаў не сустракаецца, аднак можна сказаць, што чатырохвугольнік галоўных герояў уласцівы фальклору ў цэлым. Да прыкладу, пры параўнанні герояў любоўнай і жартоўнай песень пара галоўных герояў у любоўнай

песні (хлопец і дзяўчына) суадносіцца з сур’ёзнай, а пара галоўных герояў у жартоўнай песні (муж і жонка, дзед і баба) – з камічнай, але яна ў межах твора самастойная, а не дубліруючая.

У літаратуры варыянты суадносін галоўных герояў і другарадных персанажаў звязаны з дзвюма асноўнымі тэндэнцыямі: цэнтраімклівай (іерархічнай) і цэнтрабежнай («дэмакратычнай»). Першая прадстаўлена багатай традыцыяй паказу галоўнага героя, для якога ўсе астатнія персанажы толькі «рэзаніруючы» фон. Яскравы прыклад – герой чарадзейных казак, вакол якога разгортваюцца ўсе сюжэтныя падзеі, а астатнія персанажы садзейнічаюць больш поўнаму раскрыццю яго вобраза. Зразумела, што цэнтраімклівыя, іерархічныя суадносіны дзеючых асоб характэрны для монагеройных твораў.

Пераход ад цэнтраімклівай структуры да больш разамкнёнай у фальклоры так і не адбыўся, хаця ёсць фальклорныя творы, дзе галоўнаму герою супрацьпастаўляецца раўнацэнны апанент, ён займае, аднак, месца на другім плане мастацкага паказу. Прыкладам такога прамежкавага тыпу служыць казка «Сіняя світа налева пашыта» [2, *6–10*], у якой цар выступае як раўнацэнны апанент галоўнага героя. Яго дзеянні маюць сюжэтавызначальны характар, але цалкам цэнтрабежная структура ўзнікае ў выніку прыраўноўвання персанажаў «фона» галоўным, чаго ў фальклоры не назіраецца.

У некаторых выпадках у фальклорных тэкстах немагчыма вычленіць нават галоўнага героя, не кажучы ўжо пра сістэму персанажаў. Гэта кумулятыўныя казкі, шэраг тапанімічных і гістарычных легенд. Падобныя творы складаюць пэўную навуковую праблему і патрабуюць асобнага разгляду і аналізу.

**ЛІТАРАТУРА**

1. Балады: 2 кн. / уклад. Л. М. Салавей, Т. А. Дубкова/ Мн., 1977. Кн. 1. Мн., 1978, Кн. 2.

2. Беларускі фальклор: хрэст. / склад. К П. Кабашнікаў, А. С. Ліс, А. С. Фядосік, І. К Цішчанка. Мн., 1996.

3. Беларускі фальклор: Энцыкл.: 2 т. Мн., 2005.

4. Дрэва кахання: Легенды, паданні, сказы / склад. А. І. Гурскі. Мн., 1993.

5. *К.П.Кабашнікаў*. Народная проза. Мн., 2002. (Беларускі фальклор: Жанры, віды, паэтыка. 4 кн.).

6. *Новиков Н. В.* Образы восточнославянской волшебной сказки. Л., 1974.

7. Пазаабрадавая паэзія / А. І. Гурскі, Г. А. Пятроўская, Л. М. Салавей. Мн. 2002 (Беларускі фальклор: Жанры, віды, паэтыка. 3 кн.).
8. Теория литературы: учебное пособие в 2 т. Н. Д.Тамарченко, В. И. Тюпа, С. Н. Бройтман. М., 2004. Т. 1.
9. Чарадзейныя казкі: у 2 ч. / Склад. К. П. Кабашнікаў, Г. А. Барташэвіч. Ч. 1. Мн., 1973. Ч. 2. Мн., 78.

***Вольга Прыемка***

## ЛАКАЛЬНА-РЭГІЯНАЛЬНАЯ РЭПРЭЗЕНТАЦЫЯ ІНВАРЫЯНТНАЙ ФОРМУЛЫ ВЯСЕЛЬНАЙ АБРАДНАСЦІ БЕЛАРУСАЎ

Сучасныя фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы прадстаўляюць карціну багатай варыянтнасці ў межах вясельнай традыцыі беларусаў. Варыятыўнасць закранае як абрад, так і змест песень. Гэта дазваляе, з аднаго боку, вызначыць інварыянт беларускай абраднасці, а з другога – вылучыць рэгіянальныя, нават лакальныя рысы. Збіральнікі XIX–XX стст. назапасілі багаты фактаграфічны матэрыял, які дазволіў навукоўцам прыступіць да вырашэння праблемы рэгіянальнага аналізу вясельнай абраднасці ў метадалагічным і ў тэарэтычным аспектах, але вывучэнне лакальных вясельных традыцый беларускага народа па-ранейшаму застаецца важнейшай задачай фальклярыстыкі. З гэтага пункту гледжання зварот да фактаў вясельнай абраднасці асобных мікрарэгіёнаў падаецца не толькі актуальным, але і перспектыўным у плане вызначэння заканамернасцей фарміравання мясцовых традыцый. Аб’ектам даследавання абрана вясельная абраднасць Усходняга Палесся, на фоне якой разглядаецца вяселле на Жлобіншчыне. Дзякуючы намаганням В. С. Новак і яе творчага калектыву, вясельныя традыцыі Гомельшчыны, аднаго з самабытных рэгіёнаў Беларусі, цяпер грунтоўна апісаны і прааналізаваны ў аспекце некаторых лакальных асаблівасцей [2]. Улічваючы структуру традыцыйнага вяселля і яе сучасную рэалізаванасць, паспрабуем разгледзець асаблівасці лакальна-рэгіянальнага ўвасаблення агульнанацыянальнай абрадавай формулы ў дыяхраніі – праз вылучэнне якасных рэдукцыйных з’яў.

Вяселле на Жлобіншчыне, як і ўвогуле па ўсёй Беларусі, традыцыйна пачыналася сватаннем, якое праводзілася сватамі разам з бацькам маладога чалавека. Калі яно было ўдалым, то бацькі хлопца і дзяўчыны

дамаўляліся аб *запоінах*. На гэту сустрэчу збіраліся сваты, сяброўкі маладой, хросныя маці і бацька маладых. Менавіта ў гэты час дамаўляліся, калі праводзіць вяселле, які пасаг даць маладой і г. д. У *зборную суботу* да нявесты прыходзілі дзяўчаты-сяброўкі, каб «завіць вянкі». Абавязкова вілі *в'ёльца* (ёлку), упрыгожваючы якую спявалі: «*Ой, хвоя, хвоя, зелена*, / *Ты ў бару расла, шумела*, / *...На стале стала – заззяла*...» [2, *190*].

Раніцай перад вянцом у нявесты і жаніха «*зачынялі*» каравай. У першы дзень вяселля, калі хлопец прыязджаў за дзяўчынай, ён павінен быў прывезці цёшчы боты (чобаты) і пірагі. У Жлобінскім мікрарэгіёне ў гэты дзень праводзіўся традыцыйны цыкл абрадаў: пасад нявесты, выкуп дзяўчыны і благаслаўленне да вянца. Пасля вянчання маладыя раз'язджаліся па сваіх хатах. Потым жаніх забіраў дзяўчыну ў сваю сям'ю, і застолле для сваякоў і родзічаў працягвалася ў маладога. Бацькі нявесты прыязджалі да зяця толькі на наступны дзень – гэта так званыя «*закасяне*» або «*крошкі*». Другі дзень вяселля адметны тым, што нявесце ўбіралі валасы і надзявалі жаночы галаўны ўбор – *завівальную хустку*. Каравай дзялілі асобна ў маладой і маладога. Апошні дзень вяселля меў розныя назвы – «*цыганы*», «*пятухі*». У гэты дзень спажывалі ў асноўным курынае мяса. Так у агульных рысах выглядае схема жлобінскага традыцыйнага вяселля.

Аналіз запісаў апошніх гадоў XX ст. паказвае, што сучасны абрад у сваіх контурах і дэталях захаваў асноўны парадак вяселля, але сэнс і фармальны бок асобных элементаў рэдукаваліся. Схематычна вясельны абрад Жлобіншчыны ў наш час выглядае наступным чынам: сватанне, запоіны, каравай, пасад нявесты, выкуп, урачыстая рэгістрацыя шлюбу, сустрэча маладых бацькамі, вясельнае застолле, «*закасяне*», «*пятухі*» (у іншых рэгіёнах Беларусі — «*ряжение*», «*цыганы*», «*госці*», «*одведкі*», «*фэст*»). Як бачым, большасць этапаў сучаснага вяселля супадае з традыцыйнымі.

Важнай і абавязковай засталася перадвясельная цырымонія сватання, якая ў мінулым распачынала абрадавы цыкл. Захаваліся некаторыя традыцыйныя элементы і атрыбуты сватання, уласцівая яму сімволіка. Параўнанне апісанняў XIX і XX стст. дае амаль што аднолькавую карціну. Да дзяўчыны ідуць сват, жаніх, яго родны і хросны бацька. Як і раней, яны нясуць з сабой абавязковы атрыбут сватання – «*гарэлку*».

Яшчэ і сёння імкнуцца прытрымліваецца традыцыйнай сімволікі ў маўленні. Так, у вёсцы Касакоўка сваты, увайшоўшы ў хату нявесты, пачынаюць размову: «*Мы прыблудзілі дарогай, ці не пусціце, людзі добрыя, на начлег*?» Бацькі нявесты дазваляюць. Галоўны сват пытае: «*Мы чулі, у вас цялушка ёсць, ці не прададзіце вы яе нам*?» – «*Няма ў нас цялушкі*», – адказваюць бацькі нявесты. Тады сваты гавораць: «*Не, людзі добрыя, нам патрэбна дзеўка красная. Чулі мы, ёсць у вас яна, што яна і прыгожая, і да работы спраўная. А ў нас ёсць маладзец ясны. Так давайце іх спаруем і пaглядзім, як яны будуць жыць разам*» [2, *195*]. Сваю згоду на шлюб дзяўчына выражае традыцыйным спосабам: дорыць бацькам жаніха ручнік і хустку. Праз некаторы час пачынаецца другі этап вяселля – *запоіны*. У хату нявесты прыязджаюць сваякі жаніха і збіраюцца яе блізкія родзічы, якія будуць прысутнічаць і на вяселлі. Песні для гэтага выпадку выбіраюцца адвольна. З традыцыйных твораў выконваюцца «*Добры вечар, добрыя людзі*», «*Ой, пайду я да шчаўлю рваці*», «*Продай, продай, тату, цэсар вінограду*» і інш. Адным словам, знешне сватанне і запоіны выглядаюць даволі традыцыйна.

Аналіз запісаў сведчыць аб страце старажытнай асновы многіх абрадавых дзеянняў, Так, пасад жлобінскай нявесты практычна не адрозніваецца ад аналагічнага абрадавага дзеяння ў іншых мікрарэгіёнах Беларусі і заключаецца ў тым, што дзяўчыну саджаюць на вывернуты кажух і расплятаюць яе касу. Абрад паўтараецца двойчы: да вянца – у нявесты і пасля вянца – у жаніха. Мэта названых рытуальных дзеянняў, на думку М. Нікольскага, заключалася ў наступным: па-першае, даведацца, ці захавала нявеста цнатлівасць; па-другое, прыняць яе ў склад дарослых членаў роду [4, *54*]. Сучасныя запісы сведчаць аб страце культава-магічнага сэнсу гэтага абраду і пераўтварэнні яго ў гульню: якая з дзяўчын-сябровак маладой першай пасля нявесты сядзе на кажух, тая раней за іншых пойдзе замуж [2, *203*].

Важным момантам вясельнага рытуалу застаецца каравайны абрад з удзелам каравайніц. Хоць і ў гэты абрад час унёс свае карэктывы. Так, калі раней каравай расчынялі на квасным цесце з жытняй мукі, то цяпер выкарыстоўваецца дражджавое цеста, прыгатаванае з пшанічнай мукі. Што тычыцца каравайных упрыгажэнняў, якія даследчыкі тлумачылі то як «атрыбуты ахвярапрынашэння багам» [5, *57*], то як фалічныя сімвалы [6, *34*], то як галінкі «Сусветнага дрэва» [3, *65*], то

як салярныя сімвалы [1, *378*], то ў сучасным абрадзе яны згубілі сваё магічнае значэнне, набылі ўласна-эстэтычную функцыю і выкарыстоўваюцца, каб надаць караваю святочны выгляд. У рытуалах, звязаных з падзелам абрадавага хлеба, знік уласцівы ім містыка-магічны і рэлігійны падтэкст. Галоўная функцыя дзеяння – выказаць павагу да гасцей, прадставіць кожнага з іх, запрасіць на «каравай», заахвоціць даць «на каравай» больш грошай.

Песенны рэпертуар сучаснага жлобінскага вяселля даволі разнастайны. Разам з прафесійнымі ўжываюцца традыцыйныя вясельныя песні, функцыі якіх у наш час істотна змяніліся. Песні згубілі магічны і юрыдычны характар, вядучай стала мастацка-эстэтычная функцыя. Іншы таксама характар сувязі паміж песеннымі тэкстамі і абрадам. Напрыклад, высвятляецца, што некаторыя абрады засталіся без паэтычнага суправаджэння. Згадкі пра існаванне некаторых абрадавых дзеянняў, наадварот, захаваліся толькі ў песнях. Так, у паэтычных тэкстах з матывам збору дружыны маладога аднаўляецца карціна былых рэальна-сімвалічных дзеянняў, абрадавы эквівалент якіх знік нават з памяці цяперашніх выканаўцаў.

Перамены пахіснулі сувязь асобных абрадавых дзеянняў з канкрэтнымі момантамі вяселля. Так, запісы сведчаць, што завіванне нявесты, згубіўшы сувязь з абрадам, набывае гульнёвы характар і можа праводзіцца і ў хаце нявесты, і ў хаце жаніха падчас вясельнага застолля. Яму адводзіцца значна менш часу, чым у мінулым, хоць фармальна яно «разыгрываецца» па ўсіх правілах традыцыйнага рытуалу.

Адзначым, што такія рытуальныя кампаненты, як выкуп нявесты, сустрэча маладых у кажуху, падзел каравая і інш. пачынаюць ўспрымацца як вясёлая гульня, пазбаўленая старажытных вераванняў. Ператварыўшыся ў гульню, вясельныя дзеянні згубілі абрадавае прызначэнне і набылі эстэтычную функцыю. Гэта робіць вяселле яркім, маляўнічым, эмацыянальна насычаным відовішчам, прадаўжае жыццё многіх абрадавых дзеянняў, хоць і ў фармальным эквіваленце. Эстэтызацыя рытуальных дзеянняў, забяспечваючы вялікае эмацыянальнае ўздзеянне «сцэн» вясельнай гульні на ўдзельнікаў вяселля, спрыяе захаванню некаторых экспрэсіўных элементаў традыцыйнага вяселля. Разам з тым нельга не заўважыць рэдукцыйных з’яў, скарачэння інварыянтнай формулы традыцыйнай абраднасці на мікрарэгіянальным узроўні.

**ЛІТАРАТУРА**

1. *Довнар-Запольский М. В.* Белорусское Полесье. Сборник этнографических материалов // Университетские Известия. 1896. № 1.

2. Вяселле на Гомельшчыне: фальклорна-этнаграфічны зборнік. Мн., 2003.

3. *Иванов В. В., Топоров В. Н.* К семиотической интерпретации коровая и коровайных песен у белорусов // Ученые Записки Тартуского ун-та. Тарту, 1967. Вып. 198 (III).

4. *Никольский Н. М.* Происхождение и история белорусской свадебной обрядности. Мн., 1956.

5. *Сумцов Н. Ф*. Религиозно-мифическое значение малорусской свадьбы. Киев, 1885.

6. *Чубинский П. П.* Труды этнографическо-статистической экспедиции в Западно-Русский край. Материалы и исследования. СПб., 1877. Т. 4.

***Славяна Шамякіна***

## РЭЧАІСНАСНЫ КАМПАНЕНТ У СТРУКТУРЫ ВОБРАЗАЎ-ЛОКУСАЎ БЕЛАРУСКІХ ЧАРАДЗЕЙНЫХ КАЗАК

Пры даследаванні змястоўнай структуры вобразаў-персанажаў, вобразаў-локусаў і вобразаў-магічных рэчаў у чарадзейных казках мы імкнуліся высветліць, з якіх кампанентаў складаецца вобраз, якія прырашчэнні сэнсу павінны з'явіцца ў лексічнай адзінкі (зразумела, што кожны вобраз у казках абазначаны пэўнай лексемай), каб яна стала вобразам, а не проста словам з агульнапрынятым значэннем. Мы высветлілі, што адзін з такіх кампанентаў можна абазначыць як *культурна-рэчаіснасны*: гэта апора на паўсядзённую рэчаіснасць і шырокі культурны кантэкст, у які вобраз уключаны набор асацыяцый з разнастайных сфер культуры. Мастацкі вобраз пэўным чынам суадносіцца з рэчаіснасцю**.** Гэта і зразумела, бо псіхолагамі даказана, што чалавек не можа прыдумаць нічога, што не абапіраецца на яго свядомасць. Пры стварэнні мастацкага вобраза аўтар (ці мноства іх – калектыўны аўтар) пэўным чынам асноўваецца на тым, што яму вядома, – на сучаснай яму рэчаіснасці. Творы як фальклору, так і мастацкай літаратуры не прэтэндуюць быць адэкватнымі анталагічнаму быццю, «яны не абавязкова суаднесены з *наяўным* быццём. Але ў той жа час зыходзяць з яго як дадзенага ў слове» [2, *430*]**.** *Рэчаіснасны кампанент* у структуры

мастацкага вобраза аб'ядноўвае ў сабе непазбежна выяўленую паўсядзённую рэальнасць (большасць персанажаў казкі маюць мужчынскі ці жаночы пол, пэўны ўзрост і г. д.) і згадкі ў тэкстах казак разнастайных гістарычных асоб, рэальных геаграфічных аб'ектаў. Звернемся да праяў адзначанага кампанента ў структуры вобразаў-локусаў – ці прасторавых вобразаў.

Даследуючы казку бытавую і параўноўваючы яе з чарадзейнай, вучань і паслядоўнік У. Пропа Ю. Юдзін адзначае: «… у чарадзейнай казцы мы сустракаем той шырокі, сістэматызаваны і комплексны набор дагістарычных адлюстраванняў, якімі бытавая казка карыстаецца толькі часткова» [13, *156*]. Сапраўды, у чарадзейнай казцы знайшлі ўвасабленне шмат якія прыкметы і сацыяльныя інстытуты радавога і пераходнага ад радавога да класавага грамадства, а таксама пэўныя, характэрныя для архаічнага мыслення, уяўленні (татэмізм, анімізм, магія) і рытуалы (ініцыяцыя, шлюбныя). Прычым па меры функцыяніравання казкі ў часе шматлікія прыкметы дагістарычнага жыцця злучаюцца з элементамі далейшага сацыяльнага і бытавога вопыту народа, утвараючы своеасаблівы кангламерат, сінтэтычнае адзінства.

Звычайна ў казцы немагчыма вызначыць рэальнае месца дзеяння, таксама як немагчыма дакладна назваць гістарычных персанажаў – цароў і каралёў. Нават багі не названы, і па сутнасці іх цяжка ідэнтыфікаваць па адной-дзвюх прыкметах. Тым не менш інфармацыю пра пэўныя геаграфічныя ўяўленні нашых продкаў казкі даюць.

Уласна, усё, што не родны дом, не родны горад, названа «белым светам». «Еду ў белы свет», – кажа герой казкі «Браты-багатыры» [10, *36*], а таксама героі шмат якіх іншых казак. Сёння выраз «белы свет» з'яўляецца звычайным фразеалагізмам, аднак людзі, што прыдумалі словазлучэнне, мелі на ўвазе выявіць сваё стаўленне да жыцця ў ёмістай і вобразнай форме дзякуючы міфалагічнай семантыцы колеру «белы». Белы, як вядома, сінтэз усіх іншых – шасці – асноўных колераў [12, *937*]. Такім чынам, у казках гэта сімвал змяшэння, што перадае, можна меркаваць, колеравую разнастайнасць зямной прыроды. Адначасова «асацыіруецца з дзённым святлом, з жыццём і жыццёвай сілай…» [5, *23*] – у процівагу ночы, цемры, смерці. У той жа час даследчыкі-міфолагі адзначаюць пераходнасць колеру «белы»: «Ён – сімвал… пераходу паміж двума станамі ці двума момантамі; у антыч-

насці пераход ад юнацтва да сталасці падкрэсліваўся нашэннем белай тогі… гэта пераход ад жыцця да смерці» [1, *80*]. Такім чынам, фраза юнака, што едзе ён «у белы свет» ужо настройвала слухачоў казкі на ўспрыняцце адпаведных падзей і прыгод героя, бо ён павінен быў знаходзіцца ў прамежкавым, пераходным стане, што і адбывалася падчас ініцыяцыі, ды ўвогуле любых прыгод па-за межамі дома.

Мора ў беларускіх казках можна разглядаць як *міфалагему*, арыентуючыся не на беларускую міфалогію, а хутчэй на сусветную. У старажытных мовах, напрыклад, санскрыце, паняцце «вада» суадносіцца з паняццем «прастора» («war» – вада, але «vara» – прастора, і-е. «pag» – вада, але лац. «pagus» – мясцовасць [7, *265*]). Мора ў казках – аналаг касмаганічнага Акіяна, увасаблення Хаоса, з якога ўзнік свет у выглядзе вострава, сушы, зямлі. Ва ўсіх міфалагічных сістэмах свету востраў пасярод мора – Цэнтр Свету (напрыклад, Авалон, Востраў Блажэнных, індуісцкі Востраў Скарбаў – менавіта Цэнтр Свету [4, *371*]), на ім жа знаходзіцца і вось Свету – Дрэва (у беларускім казках, як і ў іншых індаеўрапейскіх, найчасцей – дуб) [8, *87*]. Але зусім верагодна веданне нашымі продкамі і рэальнага мора – можа быць, так званага «Мора Герадота» на месцы цяперашняй Прыпяцкай упадзіны, пра якое нагадаў А. Кіркор у энцыклапедыі «Живописная Россия». Магчыма, звесткі пра мора (Чорнае, Міжземнае) прынеслі і плямёны, што ішлі з поўдня, – крывічы, а пра Балтыйскае – тыя народы, што перасяляліся з захаду, – прусы, ліцвіны, яцвягі [6, *286*].

Шмат якія казкі ўзніклі яшчэ раней эпохі сярэднявечча. Але і ў эпоху архаікі насельніцтва тэрыторыі Беларусі не жыло ізалявана. Земляробы-скалоты, продкі, згодна Герадоту, славян, гандлявалі з грэкамі, калоніі якіх знаходзіліся на беразе Чорнага мора і ў Крыме. Плавалі яны да грэкаў па Дняпры, называючы раку «залатым шляхам» [3, *64*]. Праўда, у казках герой падарожнічае заўсёды па зямлі, а не плыве ў чоўне ці на караблі, хоць часам пераплывае ў іх мора. Продкі беларусаў у архаічным свеце актыўна кантактавалі з іншымі народамі: плямёны часта перамешваліся, асабліва падчас Вялікага перасялення народаў (IV–VI стст.), калі і прыйшлі ад мора на тэрыторыю Беларусі крывічы і радзімічы. Ад прадстаўнікоў плямёнаў-качэўнікаў маглі даведацца стваральнікі казак і пра горы.

Вельмі часта горы – канцавы пункт маршрута героя ў казках, каля гары ці на гары адбываецца сустрэча з антаганістам – Змеем, Цмокам, Кашчэем: «Пад'язджае да гары і бачыць… з-пад гары змей трохгаловы едзе» [10, *36*]. У беларускіх казках частыя вобразы гор шкляных ці крышталёвых, таму можна меркаваць, што гаворка ідзе пра горы паўночныя, або пра надзвычай высокія, пакрытыя снегам круглы год, таму што крышталь, шкло, хутчэй за ўсё, аналаг снегу, лёду. Вобраз гары ў казках – рэшткі ўспамінаў пра рэальна існуючыя горы. Дарэчы, большасць архаічных збудаванняў (піраміды, зікураты, ступы, курганы-валатоўкі) так ці інакш імітуюць гару. Шырокае распаўсюджанне курганоў на Беларусі – сведчанне добрага знаёмства нашых продкаў з самім прынцыпам, так бы мовіць, гары. Веданне адносна блізкіх да Беларусі Карпатаў, Крымскіх гор, Каўказа і Альпаў – зусім верагоднае.

Найбольш звыклае акружэнне для продкаў беларусаў – лес. Локус лесу і мужчынскага дому ў ім глыбока і дасканала вывучыў У. Проп. Заўважым, што зрэдку ў беларускіх казках прама ўказваецца на працэс навучання неафіта менавіта ў лесе. Гэта глыбокі архаізм: выхаванне жраца-вешчуна, знаўцы жыцця прыроды. У казцы «Тром сын Безымённы» герой не менш як дванаццаць гадоў навучаецца ў трох пустэльнікаў, што жылі ў лесе [10, *449*], прычым галоўная мэта мудрых пустэльнікаў – дамагчыся, каб іх выхаванец не проста быў адукаваны, відушчы і ўмелы, але і каб не быў карыслівы, хцівы на чужое дабро.

Вядома, што ў рэальных геаграфічных назвах, што згадваюцца ў творах народнай культуры, акадэмік А. Весялоўскі бачыў каштоўны паказчык тэрытарыяльнага распаўсюджання сюжэтаў. Ф. Буслаеў па змешчаных у былінах геаграфічных назвах прасочвае шлях рускага эпаса ад міфа да паэтычнага ўвасаблення ўсходнеславянскай гісторыі. Але выдатныя рускія даследчыкі вывучалі найперш быліны. А вось згадванне рэальных геаграфічных назваў у чарадзейных казках можна лічыць парушэннем іх жанравай характарыстыкі. Так, у казцы «Тром сын Безымённы», якая перадае дакладныя, уласцівыя радавому грамадству звычаі, раптам згадваецца горад «Піцербург», што ўзнік у 1703 годзе. У казцы «Пра трох братоў-ахотнікаў» побач з міфічным Вахрамеевым царствам названы Азія і Афрыка [10, *205*]. Апошнія прыўнесены, безумоўна, інфармантам Ю. Міхайлавым, ад якога У. Дабравольскі запісаў названую і яшчэ дзесяць цікавых казак.

У казках некалькі разоў успамінаюцца Карпацкія горы і рака Днепр, а ў казцы «Кіёчак» згадваецца Нёман. У казцы «Кацігарошак» – Гарадзілаўскі лес, а ў «Залатым пяры» – беларускі горад Сянно. Кіеў і Чарнігаў сустракаюцца неаднаразова. У казцы «Пра Івана бядняцкага сына» герой, адказваючы на пытанне гаспадара, прамаўляе з гонарам: «Я еўрапеец, з Еўропы» [11, *137*]. Але такога кшталту пасажы для чарадзейнай казкі як жанру абсалютна нехарактэрныя.

У той жа час справядлівымі застаюцца словы У. Пропа, што «тое, што ўяўляецца нам чыстай фантастыкай, узыходзіць да рэчаіснасці. Праўда, гэта не бытавая рэчаіснасць, якая адлюстравана, напрыклад, у рэалістычных раманах, гэта рэчаіснасць далёкага мінулага, змешаная з фантазіяй, якая, у сваю чаргу, таксама вытлумачваецца праз нейкія рэаліі» [9, *240*].

Такім чынам, аб’екты прасторы ў чарадзейных казках заўсёды пэўным чынам суадносяцца з рэчаіснасцю, але ў некаторых выпадках гэтыя вобразы настолькі цесна перапляліся з міфалагічнымі ўяўленнямі і іншымі з’явамі культуры, што ўяўляюцца нам амаль цалкам фантастычнымі (напрыклад, вобраз Крышталёвай Гары). У чарадзейных казках сустракаюцца таксама ўпамінанні рэальных геаграфічных аб’ектаў (назвы гарадоў, рэк, кантынентаў), але такія выпадкі можна лічыць парушэннямі жанру, унесенымі расказчыкамі ў апошнія стагоддзі.

**ЛІТАРАТУРА**


1. *Бенуас Л.* Знакі, символы и мифы М., 2006.

2. *Гей Н. К.* Некоторые неизученные аспекты стиля // Теория литературных стилей. Современные аспекты изучения. М., 1982.

3. Древние арийцы, славяне, русь // Асов А. И., Коновалов М. Ю., Ильин П. В. М., 2002.

4. *Керлот Х. Э.* Словарь символов. М., 1994.

5. *Коваль У. І.* Народныя ўяўленні, павер’і і прыкметы: даведнік па ўсходнеславянскай міфалогіі. Гомель, 1995.

6. *Курбатов В. А.* М., 2005.

7. *Маковский М. М.* Сравнительный словарь мифологической символики: Образ мира и миры образов. М., 1996.

8. *Ненадавец А. М.* Шанаванне дрэваў старажытнымі беларусамі // Міфалогія. Духоўныя вершы / А. М. Ненадавец, А. У. Марозаў, Л. М. Салавей, Т. А. Івахненка; Мн., 2003.

9. *Пропп В. Я.* Русская сказка. Л., 1984.

10. Чарадзейныя казкі: у 2 ч. / склад. К. П.Кабашнікаў, Г. А.Барташэвіч. Ч. 1. Мн., 1973.

11. Чарадзейныя казкі: у 2 ч. / склад. К. П.Кабашнікаў, Г. А.Барташэвіч. Ч. 2. Мн., 1978.

12. Энциклопедический словарь символов / Авт.-сост. Н. А. Истомина. М., 2003.

13. *Юдин Ю. И.* Дурак, шут, вор и черт (Исторические корни бытовой сказки) / Сост. В. Ф. Шевченко. М., 2006.

***Ганна Шваба***

## АТМАСФЕРНЫЯ З'ЯВЫ (НАВАЛЬНІЦА, ГРОМ, МАЛАНКА) У БЕЛАРУСКІХ ЛЕГЕНДАХ І ПАДАННЯХ: ФУНКЦЫЯ І СЕМАНТЫКА

Значная колькасць беларускіх народных легенд і паданняў мае этыялагічны, тлумачальны змест: яны па-свойму адказваюць на пытанні, што ўзнікалі на працягу жыцця чалавечага роду. Найбольш значную групу складаюць паданні тапанімічнага характару, звязаныя як з мясцовым ландшафтам (паходжанне мястэчак, вёсак, замчышчаў, гарадзіўшчаў, урочышчаў, азёр, рэк, крыніц, курганоў, камення і іх назваў), так і ўвогуле тэрыторыяй Беларусі.

На думку А. Цітаўца, «наяўнасць вялікай колькасці такіх «тлумачэнняў» можна лічыць адной з характэрных асаблівасцей беларускіх вусных паданняў»[8, *29*]. Ён адзначыў, што «ў радзе выпадкаў... праяўляецца ўласцівы даўнім народным вераванням дуалізм, сляды якога захаваліся і ў хрысціянстве. У той час як стваральнікам усяго прыгоднага на зямлі прызнаваўся Бог, тварцом усяго шкоднага і варожага чалавеку з'яўляўся чорт, д'ябал – крыніца зла па хрысціянскаму вучэнню»[8, *26*]. Разам з тым існуюць паданні («Заклятая рака ля Капыля», «Ад чаго высахла рэчка», «Як Люцынскае возера ўзнікла»), у якіх прычынай з'яўлення або знікнення водных аб'ектаў лічыцца гнеў чараўніц: так яны помсцяць за гібель сваіх дзяцей або за замах на ўласнае жыццё. Часам папярэднікам падзей служыць навальніца або яны суправаджаюцца бурай, громам, маланкаю, якія ўяўляюцца зброяй для справядлівага пакарання нябеснымі сіламі вядзьмарак, што служаць нячысціку. Так, у легендзе «Ад чаго высахла рэчка» расказваецца, што «ў адзін летні дзень, калі на небе з'явілася чорная хмара і грымеў гром, захацелася Мар'яну (сыну

чараўніцы) пакупацца і паказаць свой спрыт сябрам. Доўга ён плаваў, пакуль не папаў у вір. Раптам ён знік. Так і не дачакаліся, каб ён выплыў. Даведаўшыся аб смерці сына, маці пракляла гэту рэчку» [8, *387–388*].

Ідэалагічная падаплёка легенды становіцца зразумелай пры звароце да павер'яў. Згодна з імі Усявышні гневаецца за чалавечыя грахі («як грыміць, то гэта Бог грозіцца на людзей, каб яны пакаяліся да больш не грашылі» [7, *65*]) і карае («пярун... б'е... ліхіх людзей, калі на іх Бог абазлуе» [7, *66*]). Навальніца – вынік спрэчкі Госпада з чортам, які асмеліўся сцвярджаць, што Бог яго не заб'е, бо ён схаваецца, або «нячыстая сіла цвеліць Бога, а Бог тагды пасылае стралу» [7, *64*] (легенда «Чаго пярун» [8, *40*]). У беларускіх паданнях (перш за ўсё тапанімічных) і легендах гром і маланка, як і ў павер'ях, выступаюць у якасці зброі, адплаты. У першую чаргу гэта датычыцца выпадкаў, калі чалавек пачынае добраахвотна кантактаваць з чортам, каб дасягнуць пэўнай мэты. У паданні «Сцяпан і Вяльяна» пра паходжанне ракі Віліі распавядаецца аб тым, што ўсё было ў Сцяпана-краўца: і маладосць, і прыгажосць, і талент, і багацце – акрамя толькі жонкі. Таму «за прыхільнасць дзявочую пабажыўся Сцяпан душу хрышчоную аддаць нячыстаму» [8, *380*] і «крыж святы, што... бацька-кум надзеў пры хрысцільніцы... палажыўшы яго на жарнавы круг, пабіваці... каменем. ...Толькі ўзняў Сцяпан угару руку з каменем, і ўміг той сам стаўся каменем (ператварыўся ў тое, чым хацеў знішчыць святую рэч). А з нябёс грамавой стралой з громам-грукатам распластаў чорта неабачлівага, толькі серкі чад удушлівы закурэў з яго і паплыў па ваколіцы» [8, *381*].

Адносіны нашых продкаў да каменя ў сувязі з атрыбутамі навальніцы (громам і маланкай) былі амбівалентныя і залежалі ад прыватных акалічнасцей. Так, паводле народных уяўленняў, маланка каменная: «У хмурах на залатых ланцугах вісяць стралы каменныя, што сам Бог робіць» [7, *68*]. Адсюль вераванне: калі ўбачыш маланку і пачуеш першы веснавы гром, каб быць здаровым, трэба «схапіцца за камень, то будзеш такі здаровы, як і камень» [7, *70*]. Зусім іншая інтэрпрэтацыя ўласцівасцей каменя існавала ў сувязі з навальніцай у іншы час: нельга было мець дачыненне з гэтым локусам, ён небяспечны (легенда «Чаго пярун» [8, *40–41*]). Напрыклад, стаяць каля каменя або хавацца пад яго, каб маланка не забіла чалавека замест чорта, «бо там іх (чарцей) не мажэ дастаць страла, хаць яна і вытне камень» [8, *66*].

У легендзе «Пра змея» і паданні «Змяёў камень» гаворыцца аб тым, як звесці са свету змея-нячысціка: яго трэба раптоўна напалохаць, у прыватнасці, громам. Гэта ўдаецца дзяўчыне, да якой змей заляцаўся. Спачатку яна залашчыла змея, каб ён заснуў, а пасля падчас навальніцы разбудзіла. Спалоханы змей або не зможа больш ператварацца ў чалавека, або будзе забіты канчаткова, прычым у паданні «Змяёў камень» пярун тры разы б'е ў нячысціка, толькі на трэці забівае, але і гэтага недастаткова: «і трое сутак дождж ішоў пасля таго, пакуль яго найшлі. ...Ну, найшлі і закапалі яго. Та дождж і паціх. Але цераз суткі апяць ён наверсе. Так узнова дождж і пайшоў. І грымоты бальшыя: пярун уцяшаецца, пярэць у яго нежывога, – каб не джыў. ...Старыкі кажуць, што каб пагода пастаяла, дык ён аджыў бы. Ну, а Бог міласцівы так даваў, што сычас нацягнець хмара, і грымоты, і дажджы дужа пойдуць, і перуны паляць у яго. І дужа была вада вялікая: чуць зямлю не адтапіла» [8, *365*] (легенды «Пярун і змей», «Пярун і чорт»).

Са з'яўленнем назвы Перуноў мост звязаны два тапанімічныя паданні. Узнікненне наймення моста і вёскі ў іх падаецца па-рознаму. У першым выпадку назва быццам бы пайшла ад прозвішча Пюры (мост цераз дрыгву будаваў нібы ці то немец, ці то француз), якое было перайначана мясцовымі жыхарамі на прозвішча Пярун. У другім варыянце паходжанне назвы звязваюць з будаўніцтвам на працягу трох гадоў моста, але першыя два разы падчас навальніцы яго падпальваў пярун, толькі на трэці раз «пярун і скончыў выпрабоўваць цярпенне людское – больш не падпальваў. Вось той мост і празвалі Перуновым, а ад яго і вёска атрымала сваё імя...» [8, *319*].

Натуральным з'яўляецца бытаванне твораў народнай прозы з выразным сацыяльным зместам, у якіх навальніца, гром і маланка караюць ліхіх паноў за бясчынствы, здзекі над сваімі прыгоннымі, бо «...прыйшла мяжа цярпенню зямлі. У адну ноч пачалі біць шалёныя маланкі, грымець перуны, аж калацілася цвердзь, а замак і ўсё наваколле пачалі правальвацца ў воды возера» [8, *247*] (паданні «Пра князя Слуцкага і яго замак на Князь-возеры», «Перунова гара»). Сюды можна аднесці паданні, у якіх маланка і гром суправаджаюць гібель няшчасных закаханых, бо яны няроўныя па сацыяльным статусе («Адкуль Капыль»), або гібель княжны ад безвыходнай адзіноты і тугі («Навасадскае замчышча»).

На думку М. Я. Грынблата, «бытаванне легенд (і паданняў) аб боскім пакаранні за працу ў нядзелю і святочныя дні нельга лічыць выпадковай з'явай» [8, *27*]. Іх паходжанне звязана з рэальнымі ўмовамі жыцця сялянства, калі прыходзілася працаваць у забароненыя дні на ўласных надзелах, бо на тыдні адпрацоўвалі паншчыну, або на паншчыне падчас тэрміновых прымусовых работ. Даследчык робіць вывад, што такога тыпу легенды «маглі быць своеасаблівым праяўленнем сацыяльнага пратэсту, які прыняў рэлігійную форму» [8, *27*]. Так, у паданні «Тры камяні» люты князь загадаў сялянам працаваць у галоўнае хрысціянскае свята – Вялікдзень: тыя толькі выйшлі на поле, але працу не выконвалі. Тады «войт захацеў паказаць сябе перад князем, схапіў саху за рагач і пагнаў баразну. Але не дайшоў і да паловы баразны, як ударыў гром нябесны – і войт з валамі акамянеў. Так і стаяць яны да Страшнага суда» [8, *368*].

У паданні «Пра камень Гомсін» шавец не шанаваў свят, не хадзіў у царкву, а працаваў і зарабляў грошы. Таму за працу ў Вялікдзень ён быў пакараны: пасля нечаканай буры з громам і маланкаю аднавяскоўцы Гомсіна знайшлі «на тым месцы, дзе была хата... вялікі камень, як нямы сведка грознай падзеі ...» [8, *367*].

Асобнае месца ў беларускім фальклоры займаюць паданні, якія ўзніклі на аснове гістарычнай рэчаіснасці, звязаны з канкрэтнай мясцовасцю, яе гісторыяй, людзьмі, што пакінулі свой след у памяці народа. Напрыклад, паданне «Пра бярозу Міцкевіча». «Развітваючыся з Марыляй, Міцкевіч пасадзіў у Тугановіцкім парку бярозу: «Няхай расце на памяць аб тым, што былі часы, калі дзяўчаты выходзілі замуж не па любові». Марыля палівала гэту бярозку слязамі тугі. Дзерава вырасла стромкае. Аднойчы ноччу гэту бярозу пашчапала маланка. Дзяўчаты з навакольных вёсак вераць, аднак, што бяроза жыве. І той дзяўчыне, якая знойдзе яе, бяроза прынясе шчасце і сына-паэта. На Купалле замест таго, каб шукаць кветку папараці, дзяўчаты з навакольных вёсак шукаюць бярозу Міцкевіча» [8, *273*]. Гэта паданне выразна адлюстравала народныя ўяўленні пра цудадзейную моц дрэва, у якое патрапіла маланка. Дрэва лічылася бяспечным і яго можна было выкарыстаць у магічных мэтах. Так, калі яно не засохла пасля ўдару маланкі, можна было трымаць кавалачак ці трэсачку, каб засцерагчы дом ад udараў маланкі, бо чорт уцёк ад грамавой стралы (згадваецца А. Афанасьевым

[2, *266*]). Лічылася, што «разбітага маланкай дрэва чэрці баяцца «як свянцонай вады» [7, *67*]: па павер'і, у ствале такога дрэва (або паблізу яго) можна знайсці кавалак жалеза (жалезнай кулі). Трэба думаць, што чэрці баяцца і засохлага дрэва, і незасохлага, бо гэта дрэва, засланіўшы нячысціка, амаль стала месцам пакарання, толькі на гэты раз засланіўшы нячысціка. Таму зразумела, чаму кавалачкам незасохлага ад удару маланкі дрэва можна «абараніць» ад яе дом: бліскавіца не патрапіць у будынак, бо нячысцік не будзе каля яго хавацца.

Асобны цыкл складаюць паданні пра зачараваныя скарбы, але стаць іх уладальнікам немагчыма, бо яны ахоўваюцца звышнатуральнымі сіламі. Напрыклад, паданне «Заклятая магіла волата», у якім з'яўленне і знікненне перад вачамі полацкіх смельчакоў загінуўшага воіна суправаджаецца бліскавіцамі і грымотамі: «...раптам бліскавіца асвяціла ўзгорак, і бачаць: стаіць агромністы асілак у жалезным панцыры і трымае востры меч над іх галовамі. Трывога праняла іх сэрцы, грымоты ўзрушылі зямлю, і асілак прамовіў: – Нікчэмныя! Золату і серабру прадалі ўсе пачуцці вашы, толькі ў багацце ўклалі свае надзеі, не ўшанавалі прах волата, які з годнасцю скончыў тут жыццё... Загрымела ў аблоках, і асілак знік з вачэй... Пры святле бліскавіцы ізноў убачылі перад сабой засыпаную пяском яму, і падалося ім, што на тым месцы зямля някранута была...» [8, *429*].

У разгледжаных паданнях і легендах навальніца, гром і маланка ажыццяўляюць пакаранне нячысцікаў, паноў-прыгнятальнікаў, людзей, якія добраахвотна звязаліся з цёмнымі сіламі або працавалі ў царкоўныя святы. Семантыка атмасферных з'яў (асабліва маланкі) як зброі пакарання супадае як у хрысціянскай, так і язычніцкай інтэрпрэтацыі падзей. У легендах і паданнях з'яўленне сацыяльных матываў сведчыць аб творчым падыходзе фальклорных аўтараў да выкарыстання традыцыйных клішэ ў новых ідэйных мэтах, больш блізкіх да праблем рэальнага жыцця.

**ЛІТАРАТУРА**

1. *Антропаў М.* Гром // Беларускі фальклор: энцыкл.: у 2 т. Мн., 2006. Т. 1.

2. *Афанасьев А.* Поэтические воззрения славян на природу: в 3 т. М., 1895. Т. 1.

3. *Валодзіна Т.* Прыкметы і павер'і // Малыя жанры. Дзіцячы фальклор / Т. В. Валодзіна [і інш.]. Мн., 2004 (Беларускі фальклор: Жанры, віды, паэтыка; Кн. 6.)

4. Зямля стаіць пасярод свету... Беларускія народныя прыкметы і павер’і: у 3 кн. / укл. У. Васілевіч. Мн., 1998. Кн. 1.

5. Легенды і паданні / Склад. М. Я. Грынблат, А. І. Гурскі. Мн., 2005.

6. *Ненадавец А.* Маланка // Беларускі фальклор: энцыкл.: у 2 т. Мн., 2006. Т. 2.

7. *Ненадавец А.* Навальніца // Беларускі фальклор: энцыкл.: у 2 т. Мн., 2006. Т. 2.

8. *Цітавец А.* Няказкавая проза // Народная проза / К. П. Кабашнікаў [і інш.]. Мн., 2002 (Беларускі фальклор: Жанры, віды, паэтыка; Кн. 4).

***Вольга Корсак***

## АСАБЛІВАСЦІ МІФАРЫТУАЛЬНЫХ ПАВОДЗІНАЎ У СТУДЭНЦКІМ АСЯРОДКУ

Гарадскі фальклор поўніцца разнастайнымі формамі. Жыццё ў мегаполісах абумоўлівае страту некаторых нагод для абярэгаў, напрыклад, звязаных з раслінаводствам і жывёлагадоўляй. З’яўляюцца новыя, чыста гарадскія спосабы выканання аберагальных дзеянняў. Напрыклад, на дысплэй мабільнага тэлефона змяшчаецца выява магічнай фігуры, якая нібыта «ахоўвае» ўладальніка ад розных няшчасцяў. На лічбавыя фотаздымкі, змешчаныя ў інтэрнэце, «прымацоўваюцца» знакі, выявы, каб адвярнуць сурокі тых, хто гэтыя фотаздымкі праглядае, і г. д.

З'яўляюцца своеасаблівыя абярэгі, якія «дапамагаюць» гараджаніну адчуваць сябе больш упэўнена ў крытычныя моманты. Сярод моладзі вельмі папулярны разнастайныя тканыя навязкі, якія вырабляюцца самастойна або набываюцца дзеля засцерагання ад розных шкодных уплываў. Навязкі носяць на шыі, руках, прымацоўваюць да адзення, сумак, заплечнікаў.

Але нідзе, бадай, так не распаўсюджаны абярэгі, як у студэнцкім асяродку. Навучэнцы выконваюць разнастайныя дзеянні, якія дапамагаюць ім адаптоўвацца ў навучальным працэсе. Сітуацыя экзаменацыйнай сесіі, якая стварае значную напружанасць і стан няпэўнасці ў студэнтаў, садзейнічае актывізацыі магічнага мыслення і распрацоўкі рытуалаў. Калі сувязь «выканаў пэўныя дзеянні – атрымаў станоўчую адзнаку» фіксуецца ў свядомасці, то рытуалы паўтараюцца кожны раз, каб зняць псіхалагічнае напружанне і адчуваць сябе больш упэўнена перад выпрабаваннем. Так аберагальныя дзеянні становяцца рэгулярнымі рытуаламі.

Усе фальклорныя тэксты, што прыводзяцца ніжэй, з'яўляюцца ўласнымі запісамі аўтара. Было апытана больш за 100 студэнтаў Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка, а таксама знаёмыя аўтара, якія скончылі іншыя ВНУ г. Мінска.

Студэнцкія абярэгі выяўляюць дакладную паэтапную распрацаванасць па меры набліжэння кульмінацыйнага моманту ўсяго навучання – экзамену. **Час** іх здзяйснення: перад навучаннем, перад сесіяй, ноч перад іспытам, падчас сесіі на поўню, зранку, за гадзіну да іспыта, падчас дарогі на іспыт, у будынку, дзе будзе праходзіць здача, перад аўдыторыяй, на ўваходзе ў аўдыторыю, перад выцягваннем білетаў. **Месцы** выканання аберагальных дзеянняў: пакой, кухня, вокны, балконы, форткі, калідоры, прыбіральні, дарога на іспыт, каля дзвярэй аўдыторыі, дзе будзе іспыт, сама аўдыторыя, месца, дзе ляжаць білеты, а таксама культавыя ўстановы (царква, касцёл).

**Аб'ект** абярэга – сам студэнт і заліковая кніжка: «*Перад аўдыторыяй на паперы малюецца падкова дугою ўніз. Неабходна, каб першы чалавек, які заходзіць здаваць, пастаяў на гэтым аркушыы*», «*Класці ў залікоўку зерне*».

**Агрэсіўны агент** у студэнцкіх абярэгах не яўны, збольшага не мае канкрэтнага вобразу. Ім амаль заўсёды з'яўляецца сама небяспечная і малапрадказальная сітуацыя: г. зн. час заліку, іспыту, сесіі, усяго навучання і адпаведныя месцы. Напрыклад: «*Калі студэнт выйшаў на іспыт, то мама, ці сястра, ці іншыя члены сям'і пераварочваюць венікі*», «*Заходзіць у аўдыторыю, дзе здаецца іспыт, з левай нагі, цягнуць білет левай рукой*».

Бывае, што небяспечным уяўляецца выпадковы чалавек, сустрэчны, аднагрупнік, сваяк, як у выпадку, калі ён зазірае ў залікоўку, размаўляе са студэнтам ці навучэнцам, г. зн. можа яго «сурочыць»: «*Як ідзеш на іспыт, забараняецца размаўляць. Калі хтосьці спыніў, звярнуўся, то на іспыце будзе туга*». Вельмі небяспечнай перад іспытам лічыцца сустрэча са зграяй варон – птушак, якія лічацца прыналежнымі тагасвету: «*Калі ляціць зграя варон, як ідзеш на іспыт, трэба сесці і прытрымаць кішэні, ці засунуць туды рукі, каб двойку не атрымаць*». Цікава, што ніводны інфармант не назваў у якасці агрэсара выкладчыка.

**Суб'ектам** аберагальнага дзеяння найчасцей выступае сам навучэнец або некалькі чалавек (напрыклад, пры выкліканні нячыстай сілы),

зрэдку – цэлая група (як пры вырабленні пояса), курс (пры спальванні ці выкіданні канспектаў). Часта аберагальныя дзеянні выконваюць блізкія сваякі студэнтаў, у пераважнай большасці жанчыны: маці, бабуля, якія ставяць за яго свечкі і якія падчас іспыту пераварочваюць крэслы, жанчыны, якія моляцца за студэнта. Суб'ектамі з сакральным статусам, да якіх звяртаюцца па дапамогу, з'яўляюцца Бог, святыя, анёлы, а таксама звязаныя з іншасветам – чорт, халява. Напрыклад: «*Каб пасняхова здаць, трэба маліцца, прасіць за сябе перад іконай св. Мікалая*»; «*На іспыце, кантрольнай патрымацца за сучок на парце і сказаць:«Чорт, чорт, памагі! Чорт, чорт, адвраці!»* .

Сярод студэнцкіх ёсць такія абярэгі, якія вельмі нагадваюць традыцыйныя. У абярэгах акцэнт надаецца **сродку**, які выкарыстоўваўся і ў іншых небяспечных сітуацыях. Так, часта ў тэкстах называлася хрысціянская атрыбутыка – крыж, свечкі: «*Перад тым, як цягнуць білет, перакрыжаваць вачыма усе білеты*»; «*Свечкі ў царкву ставіць. Трэба рабіць і да, і пасля іспыта*». На адзенне студэнта прымацоўваецца шпілька, каб адпалохаць небяспеку. Тую самую семантыку маюць ножкі перакуленых крэслаў, якія нібыта ствараюць «рогі». Пры змяшчэнні залікоўкі ў лядоўню быў выкарыстаны холад – прызнак тагасвету.

Некаторыя сродкі абярэгаў падкладаюцца ў залікоўку, напрыклад, зерне, малыя грошы. Рытуал змяшчэння 5 капеек у шкарпэтку пад пятку левай нагі знік з-за адсутнасці манет сярод сучасных грошай.

У студэнцкіх абярэгах ужываюцца як матэрыяльныя, так і сімвалічныя сродкі – у выглядзе магічных лічбаў. Называліся трохразовыя дзеянні, падкладанні ў заліковую кніжку *10* і *20* рублёў, *10* даляраў, дзеянні выконваюцца ў *12* ночы, называліся *першы*, хто сустрэнецца, *першы*, хто увойдзе ў аўдыторыю.

**Магічна-рытуальныя аберагальныя дзеянні** ўражваюць сваёй распрацаванасцю. Адны з іх выконваюцца з прыцягненнем сакральных сіл і сродкаў, другія – звязаны з пазабаковым светам.

Значная група абярэгаў скіравана на ачышчэнне ў шырокім сэнсе слова. Так, навучэнцы іспытам «прыцягваюць» чыстыя, светлыя сілы, ачышчаюць сябе і прастору, прыбіраюць, не пакідаюць бруднага посуду, ставяць посуд на месца, засцілаюць ложак, мыюцца і апранаюць новыя рэчы. Характэрнымі дзеяннямі з'яўляюцца маленне, жагнанне. Забараняецца заклікаць нячыстую сілу, дазваляецца звяртацца толькі

да вышэйшых хрысціянскіх сіл – хрысціянскага Бога. Малітвы, замовы часта маюць акрэслены змест, але могуць прамаўляцца і ў адвольнай форме. Змест тэксту – пажаданне паспяховай здачы: «*Наліваць у празрыстыя шклянкі ваду да самых краёў. Калі наліваеш, казаць: «Госпадзі, дапамажы здаць!»,«Акуратна несці шклянкі да вакна, праліваць ваду нельга, бо дрэнна здасі. Чым больш нальеш шклянак, тым лепш*»; «*На гарбату, на ваду загаворваць жаданні адносна іспыту*».

Рухі ў такіх абярэгах часта здзяйсняюцца з правай нагі, правай рукі, што тлумачыцца жаданнем, каб усё было «правільна»: «*Перад іспытам ўсю вопратку, абутак апранаць, абуваць з правай рукі, нагі*». Сыход на здачу ўпотайкі, не развітаўшыся, забарона спяваць, слухаць музыку паказваюць на імкненне не забрудзіць гукам сакралізаваную прастору. Каб захаваць сваю прастору чыстай ад староніх людзей, таксама непажадана аддаваць свае рэчы аднагрупнікам, нешта запытвацца ў тых, хто здаў іспыт, залік.

Заліковая кніжка мае недатыкальны статус: яе перавязваюць, хаваюць у пакеты, не адкрываюць падчас сесіі. Групавое выкіданне тэхнічных прылад, слоікаў, спальванне канспектаў вельмі нагадваюць ачышчальныя рытуалы на Каляды, Чысты чацвер, Купалле і інш.: «*Студэнты калектыўна зносяць усе свае канспекты і паляць на вогнішчы, якое разводзяць у двары інтэрната, на пустыры, у лесе*».

Вялікая група сабраных абярэгаў накіравана на ўступленне ў хаўрус з нячыстай сілай. Фіксаваліся звароты да яе дзеля спрыяння на экзамене: «*У дванаццаць ночы тры разы крычаць на балконе: «Халява, прыйдзі!» Хутка зачыніць залікоўку, перавязаць яе вяровачкай чырвонага колеру, пакласці ў лядоўню. Толькі выкладчык мае права развязаць вяровачкі*».

Часта ў абярэгах з прыцягненнем нячыстай сілы акцэнтуюцца левыя і ніжнія часткі цела і прасторы: «*Перад тым як увайсці ў адыторыю, дзе праводзіцца іспыт, нельга, каб залікоўка падала. А калі ўжо ўпала, трэба хутка на яе сесці, тры разы папляваць налева, левай рукой аб сябе абцерці, толькі тады ісці здаваць*». Тлумачэнне даецца ў наступным павер'і: «*Раняць залікоўку нельга, бо выцягнеш дрэнны білет, будзе дрэнная адзнака*». Даваліся парады «стаць нячыстым» самому студэнту: не мыцца, не галіцца, не рэзаць пазногцяў, не прыбіраць, наўмысна забруджваць пальцы ў чарніліцы, ствараць хаос, рабіць бяс-

чынствы, наладжваць шабасы, г. зн. прыпадабняцца нячыстай сіле. Забараняецца апранаць новыя рэчы, адзенне трэба апранаць навыварат, здзяйсняюцца акты пераварочвання розных прадметаў.

Робяцца і розныя непрыстойныя дзеянні, напрыклад, складванне фіг, прычым іх хаваюць за спіной, у кішэні, апускаюць долу: «*Калі ў чалавека адказнае мерапрыемства, маці ў кішэні мусіць трымаць фігу*». Цікавай падаецца парада: «*Перад іспытам не абыходзіць лужы, а пераскокваць*». Тут лужа з'яўляецца аналагам люстэрка, праз якое можна патрапіць у іншасвет. Пераскокнуць – г. зн. толькі крыху, без вялікай небяспекі спрычыніцца да «нячыстых» сіл.

Бывае, што сакральнае і іншасветнае ў студэнцкіх абярэгах спалучаецца, напрыклад, пры выбары білета стаяць на левай назе, а білет цягнуць правай рукой і г. д.: «*Заходзіць у аўдыторыю з левай нагі. Калі адчыняеш дзверы, сказаць: «Ангел мой, ідзі са мной, ты ўперадзі, а я за табой!»*». Такія абярэгі сярод традыцыйных выкарыстоўваліся ў час найвялікшай небяспекі.

У сучасным студэнцкім фальклоры сустракаюцца прыклады магіі, варажбы, прыкмет і павер'яў. Прыклад магіі: «*Перад тым як выцягнуць білет стаць на правую нагу, а цягнуць левай рукой. Пра сябе сказаць: «Цягні, мая рука, што ведае мая галава»*». Варажэнні на будучую ацэнку і нумар білета выконваюцца на любым этапе. Напрыклад: «*Для таго, каб даведацца будучую адзнаку, скласці лічбы на нумары машыны, якая першай патрапіцца зранку на вочы*»; «*Пасыпаны цукрам хлеб намачыць вадой. Пакласці ў талерку, талерку паставіць пад ложак. Зранку перад іспытам па адбітках цукру глядзець нумар білета*». Прыклады прыкмет: «*Якое пытанне не паспееў вывучыць, тое і выцягнеш*»; «*Калі вучыў ноччу і заснуў на пэўным білеце, тое і патрапіцца*» і павер'яў: «*На ўсе экзамены хадзіць у адным і тым самым адзенні, не мяняць адзення*»; «*Прайсці тым самым маршрутам, наступіць на тыя самыя месцы, на якія наступаў у той дзень, калі атрымліваў высокую ацэнку*».

Першыя вынікі вывучэння студэнцкага фальклору паказваюць, што ў ім знаходзіць выражэнне сістэма старажытных уяўленняў і вераванняў, якая ўвасабляецца ў падобных да традыцыйных рытуальных дзеяннях. Большая частка магічных рытуалаў выконваецца студэнтамі ў жартаўлівай форме.

***Вера Арлова***

# МАТЫЎНАЕ ПОЛЕ БЕЛАРУСКІХ І ВЕДЫЙСКІХ ЗАМОЎ АД КРЫВАЦЁКУ

Лічыцца, што ў гісторыі самых розных фальклорных традыцый першыя дакладна аформленыя тэксты ўзыходзяць да магічнай практыкі, якая дае два полюсы – бытавы і прафесійны. Гэтыя магічныя тэксты добра вядомы ўсім, частка іх адносіцца да маўленчых жанраў, сярод якіх вылучаюцца выслоўі. Іншая справа замовы. Іх нельга аднесці да шырокай фальклорнай творчасці, паколькі сфера бытавання замоў абмежаваная (дастаткова параўнаць яе са сферай абрадавых песень – каляндарных і сямейных), ды і паходжанне іх цьмянае. У дадзеным выпадку нельга выключаць фактаў індывідуальнай творчасці, хаця трэба мець на ўвазе, што гэта творчасць адбывалася ў межах папярэдняй традыцыі. Вось толькі якой?

Адказ на гэтае пытанне дае параўнальна-гістарычнае вывучэнне замоў. Наогул параўнанне – такі метадычны прыём, які можа быць выкарыстаны з рознымі мэтамі і ў рамках розных метадаў, аднак з’яўляецца зусім неабходным для даследавання ў галіне фалькларыстыкі. Параўнанне не здымае нацыянальнай спецыфікі замоў, а дазваляе ўстанавіць яе з большай канкрэтнасцю на аснове падабенстваў і адрозненняў паміж з’явамі [3, *185*].

Высвятляецца, што замовы розных народаў, якія жылі ў зусім розныя эпохі, маюць тым не менш агульныя рысы. Мы спынімся толькі на адной групе замоў – ад крывацёку – і параўнаем беларускія замовы і замовы ведыйскай эпохі. Наш выбар невыпадковы. Параўноўваючы беларускія замовы з замовамі іншых славянскіх народаў, можна апрыёрна чакаць пэўную колькасць сыходжанняў у межах адной функцыянальна-тэматычнай групы. А вось у якой ступені будуць прысутнічаць агульныя ментальныя ізаглосы (тэрмін Ю. Сцяпанава) у беларускіх і ведыйскіх замовах?

Замовы ад крывацёку з’яўляюцца, на нашу думку, найбольш архаічнай часткай традыцыйнай культуры. Практыка прымянення гэтых замоў бярэ свой пачатак у старажытнасці, бо здаўна, і, здаецца, без выключэнняў, кроў лічылася субстанцыяй жыццёвай сілы, а крывацёк разумеўся як яе страта і патрабаваў неадкладных дзеяннняў – практыч-

ных і магічных. Асноўная частка беларускіх замоў ад крывацёку была запісана ў XVIII–XX стст. Тым не менш зразумела, што яны існавалі і задоўга да пісьмовай фіксацыі.

Пра высокае значэнне, якое надавалася замовам у старажытных арыяў, можна меркаваць на той падставе, што ведыйскі корпус уключае ў сябе разам з «Рыгведай» («веда гімнаў»), «Яджурведай» («веда ахвярных формул») і «Самаведай» («веда напеваў») яшчэ і «Атхарваведу» – «веду атхарванаў», ці «веду замоў». Яна датуецца I тысячагоддзем да н. э. і ўключае ў сябе галоўным чынам замовы паўсядзённага, побытавага характару. Напрыклад, супраць пажару ў хаце: «Гэта сцёк для вод, // Жыллё для мора, // Пасярод сажалкі наша хата» [1, *158*]. Ці на рост ячменю: «Дзе мы заклікаем цябе, // Усёмагутнага бога-ячменя, // Падыміся там, як неба! // Будзь багатым, як акіян!» [1, *209*].

Перш за ўсё трэба адзначыць, што беларускія і ведыйскія замовы ад крывацёку адзінай кампазіцыйнай схемы не маюць. У традыцыйных беларускіх замовах дастаткова ўжывальным з’яўляецца малітоўны ўступ: «Ва імя Атца і Сына і Святога Духа. Амін». У ведыйскіх замовах падобных зваротаў няма. Яны, здаецца, нічога не маюць агульнага з беларускімі замовамі, хаця канчатковая мэта абсалютна зразумелая – спыніць крывацёк, аднак лічым, што параўнальны аналіз мэтазгодна ў гэтым выпадку праводзіць на ўзроўні матываў. На аснове матыўнага аналізу можна меркаваць аб міфалагічных уяўленнях ведыйскіх арыяў і нашых продкаў. Акрамя таго, на думку У. Іванава, «старажытнаіндыйскія і еўрапейскія замовы, якія належаць да адной старажытнай традыцыі, адлюстроўваюць у вышэйшай ступені архаічныя «міфапаэтычныя» ўяўленні і дазваляюць ставіць пытанне аб рэканструкцыі па крайняй меры фрагментаў агульнаіндаеўрапейскага тэксту» [5, *176*]. Калі структурная паэтыка арыентуецца на вызначэнне іерархічных узроўняў структуры тэксту, то матыўны аналіз (тэрмін прапанаваны Б. М. Гаспаравым) прадугледжвае наступную якасць матываў: «яны, будучы кросузроўневымі адзінкамі, паўтараюцца, вар’іруючыся з іншымі матывамі ў тэксце, ствараючы яго непаўторную паэтыку» [6, *256*]. Кожны тэкст або група адпаведных функцыянальна-тэматычных тэкстаў замоў мае сваё матыўнае поле. Пад матыўным полем мы разумеем унутраную сэнсавую сувязь адных матываў і адсутнасць такой сувязі паміж іншымі, разам гэта дае пэўны малюнак. Такім чынам,

паводле мінімальнага кампаненту замоў, якім з'яўляецца матыў, матыўны аналіз можа прымяняцца для рэканструкцыі першапачатковай формы сюжэта і прасочвання яго трансфармацыі.

У беларускіх і ведыйскіх замовах ад крывацёку выяўляюцца наступныя кросэтнічныя матыфемы:

- лікавая;
- колеравая;
- дзеянне.

У беларускіх і ведыйскіх замовах ад крывацёку ўжываецца лік тры. У беларускіх замовах гэта тры сястрыцы (сяструшкі), тры ракі, тры калекі, тры дзякі, тры папы, тры паны, тры дзеўкі, тры вараны, тры браты, у ведыйскіх – тры бязбратнія сястры, тры жанчыны.

Характэрным для ведыйскіх і беларускіх замоў ад крывацёку з'яўляецца матыў чырвонага колеру. У ведыйскіх замовах: *«Прэч уходзяць жанчыны – // Вены – у чырвоным адзенні»* [1, *169*]. У беларускіх замовах: *«Ішла Прасвятая маць Бугуродзіца па калінавым мосту, у красных чаравічках, з краснай трасцінай, з святымі апосталамі»* [4, *160*], *«...за тымі за сталамі дубовымі, за ніцясовымі сядзяць тры сястрыцы, і дзявіцы-красавіцы, і прадуць красны разны шоўк»* [4, *155*]. Чырвоны колер – адзін з дамінантных у традыцыйнай культуры беларусаў. Шматлікія рытуальныя кантэксты, атрыбуты найважнейшых каляндарных і сямейных абрадаў, вырабы ткацтва і творы дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва даюць падставы сцвярджаць, што чырвоны колер сімвалізаваў жыццё ў самым шырокім сэнсе гэтага слова: як нараджэнне, якому спадарожнічала кроў, як перанараджэнне маладой у першую шлюбную ноч (пра што можа сведчыць рытуальная песня «Каліна», якую спявалі цнатлівай дзяўчыне), нарэшце, як перанараджэнне або ўваскрэсенне (сімвалам «другога нараджэння» Ісуса Хрыста стала чырвонае велікоднае яйка) [2, *360*]. Такім чынам, атрыбуты чырвонага колеру ў беларускіх замовах выконваюць засцерагальна-прадукавальную ролю.

«Скразным» матывам у беларускіх і ведыйскіх замовах ад крывацёку з'яўляецца матыў дзеяння, які раскрываецца праз матывы супынення і змацавання (сашчэплівання).

У беларускіх замовах супыненне крывацёку атаясамліваецца з супыненнем чорнай каровы, Ісуса Хрыстоса ў Іардані, а ў ведыйскіх –

з супыненнем трох бязбратніх сясцёр: «Прэч уходзяць жанчыны – // Вены – у чырвоным адзенні, // Як бязбратнія сёстры, // Няхай спыняцца яны з разбітым бляскам!» [1, *69*]. Тут варта засяродзіць увагу на актарах. Актар – найбольш абстрактнае паняцце рэалізатара функцыі дзеяння і найбольш абстрактная функцыянальная сутнасць асобы [7, *13*]. У ведыйскіх замовах актарамі з'яўляюцца тры бязбратнія сястры, і тым самым абазначаюць вены. Згодна з індыйскім звычаем, калі ў бацькоў была толькі дачка і ніводнага сына (сітуацыя бязбратняй сястры), то, калі дачка выходзіла замуж, яна павінна была застацца ў бацькоўскай хаце. Таму семантыку замоўнага вобраза магчыма патлумачыць пабытавым значэннем: дачка выходзіць замуж і павінна застацца дома ў бацькі – кроў, што выцякае з вены, не павінна спыніцца.

Частка беларускіх замоў ад крыві мае функцыянальным ядром матыў зашывання. Славесны выраз дае малюнак, пабудаваны на паняцці «зашываць»: тут згадваюцца і іголка, і нітка, і асоба, якая шые, галоўным чынам дзяўчына (часам тры). Яна знаходзіцца дзесьці на морыакіяне, на востраве-буяне, на незвычайным крэсле і прадзе незвычайную нітку. Нараўне з вобразам дзяўчыны, якая прадзе, у замовах з'яўляецца вобраз дзяўчыны, якая шые, зашывае рану або дае нітку для зашывання. Усталяваны ў замове вобраз ніткі захаваў гледжанне на яе як на магічны сродак. У замове не толькі ў сілу закона перабольшвання ўпрыгожванне кудзелі і ніткі часта паказваецца залатым. У адрозненне ад беларускіх замоў у ведыйскіх замовах няма матыву зашывання.

Шматлікія беларускія замовы ад крывацёку грунтуюцца на матыве разліцця вады. Слоўнае выражэнне апелюе да карціны, пабудаванай на паняцці «разліць ваду», дзе ўпамінаецца жбан вады. Напрыклад: «*Ехаў Даніла на сівой кабыле і вёз жбан вады. Жбан атарваўся, вада разлілася*» [4, *153*]; «*Ішла святая Прачыстая матка Хрыстова гарою, нясла ваду дугою. Дуга, разагніся, вада разалліся!* » [4, *154*]; «*Несла баба воду, зачапілась за калоду. Вада разлілася – каб кроў запяклася*» [4, *154*]; «*Шоў дзяк чэраз масточак, нёс вады цэлы клечычак. Вада разлілася – кроў унялася*» [4, *154*]. Такі матыў у замовах ведыйскай культуры адсутнічае.

Характэрным для абодвух тыпаў замоў матывам з'яўляецца матыў змацавання (сашчэплівання). Напрыклад, у беларускіх замовах: *«У полі пад дубам стаяла баба з тлубам – жылкі зжывацца, суставы*

*сустаўляцца»* [4, *162*]. У ведыйскіх замовах змацоўваюцца вены: *«З сотні сасудаў, // З тысячы вен // Вось супыніліся гэтыя сярэднія. // Сашчапіліся адзін з адным канцы»* [1, *69*].

Нават на падставе невялікага матэрыялу ведыйскіх замоў ад крывацёку (значна колькасна іх перавышаюць замовы ад змей, ад чарвей, супраць злых калдуноў, нячыстай сілы, дэманаў) мы паспрабавалі паказаць, што ўсе яны маюць агульныя сэнсавыя элементы з беларускімі (лікавыя, колеравы, дзейсныя). Такім чынам, змястоўныя элементы замоў адной культуры суадносяцца з пэўнымі элементамі замоў другой культуры, можна прызнаць іх тыпалагічнае падабенства. Матыўнае поле для беларускіх і ведыйскіх замоў ад крывацёку, з аднаго боку, грунтуецца на інварыянтных матрыцах структурыравання сэнсаў і форм, а з другога, у ім выяўляецца ўзровень этнічных дэтэрмінацый, якому адпавядае тое, што называецца нацыянальнай псіхалогіяй. Яны адносяцца да базавых узроўняў нацыянальнай культуры і ўстойліва ўзнаўляюцца фальклорным мысленнем.

**ЛІТАРАТУРА**


1. Атхарваведа. Избранное. М., 1977.
2. Беларуская міфалогія. Мн., 2006.
3. *Жирмунский В. М*. Сравнительное литературоведение. Л., 1979.
4. Замовы. / уклад. Г. А. Барташэвіч. Мн., 2000.
5. *Иванов В. В*. Низшая мифология. // Мифы народов мира. Энцикл. в 2 т. М., 1988. Т. 2.
6. *Руднев В. П.* Энциклопедический словарь культуры XX века. Ключевые понятия и тексты. М., 2001.
7. Современное зарубежное литературоведение (страны Западной Европы и США): концепции, школы, термины. Энцикл. справочник. М., 1999.


***Алеся Яўных***

## РЭГІЯНАЛЬНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ НІЖЭЙШАЙ МІФАЛОГІІ ГОМЕЛЬШЧЫНЫ

Вышэйшая міфалогія ў беларусаў не паспела сфаміравацца, затое ніжэйшая – багатая, разнастайная, разгалінаваная. Яе аснову складаюць духі прыроды, яе пэўных локусаў, і духі культурнай прасторы. Уяўленні пра іх на тэрыторыі беларусаў тыпалагічна падобныя, але

ў кожнай мясцовасці персанажы ніжэйшай міфалогіі надзяляюцца адметнымі рысамі, асабліва гэта тычыцца знашняга выгладу міфалагічных істот. З імі звязаны два віды фальклорнай прозы. Першы – наратыўныя аповеды аб нейкім выпадку, здарэнні з удзелам таго ці іншага персанажа і чалавека. У рускай фалькларыстыцы яны называюцца *былічкамі*, а ў беларускай апошнім часам даследчыкі схіляюцца да тэрміна *прымхліцы*, прапанаванага Н. Гілевічам. Другі від прозы – бессюжэтныя паведамленні-апісанні, змест якіх – партрэт персанажа ніжэйшай міфалогіі, месца яго пражывання, стаўленне да людзей, характар, станоўчыя і адмоўныя рысы, павер'і, звязаныя з функцыямі той ці інша дэманічнай істоты, правілы паводзінаў людзей у дачыненні да яе, звычайныя ахвяраванні, абярэгі, прыкметы і да т. п.

Нашы сучаснікі па-рознаму ставяцца да персанажаў ніжэйшай міфалогіі. Некаторыя абсалютна ў іх не вераць. Так, напрыклад, фальклорная памяць вельмі кансерватыўная. Вераць людзі ў іх існаванне або не вераць – не так ужо істотна. Фальклорная памяць яшчэ доўгі час будзе захоўваць інфармацыю, якая супярэчыць навуковаму светаразуменню, бо яна тычыцца *незвычайнага, таго, што бударажыць фантазію.* Патрэбнасць у цудоўным, што здзіўляе і ўражвае сваёй незвычанасцю, – спадарожніца антагенезу і ўмовы доўгага жыцця ўяўленняў пра персанажаў ніжэйшай міфалогіі. У межах лакальна-рэгіянальнай традыцыі міфалагічная проза вызначаецца стракатасцю формы і зместу. Звернемся да канкрэтнага матэрыялу і пачнём з народнай характарыстыкі духа, найбольш блізкага да людзей – дамавіка.

Зінаіда Афанасьеўна Анісімава (1935 г. н.) з в. Сямёнаўка Буда-Кашалёўскага раёна выказалася так: «Это, знаешь, сказки, которые придумали себе люди и верят в это. Не бывает никаких русалок там, чортиков всяких». Чаму ж тады амаль на ўсёй Гомельшчыне да нашага часу можна запісаць звесткі пра міфалагічных істот?

Дамавік-дух, які жыве ў доме, «ета такі маленькі чалавечак, ён стары і пахожы на дзеда, у яго чорная барада, ростам малы, такі, як кукалка» [*5], «он бывает катом, бывает ціпа чорцікаў, а бывае і чалавекам» (запісана ад Галіны Васільеўны Філіпавай, 1941 г. н.). Нехта бачыў яго ў выглядзе шэрага ката, нехта казаў, што ён падобны на гаспадара ці гаспадыню дома. У в. Пракісель Рэчыцкага раёна дамавога апісвалі так: «Маленькі такі, лахматы. Смешны, калі вясёлы, можа і пашуціць».

Паводле паведамленнў жыхароў г. Ветка, дамавік выглядае наступным чынам: «Ён бландзін, яму гадоў 25, галава пастрыжана каротка, пабрыты, гладзенькі», «на ём была такая шалуха, как на рыбе і ўсё ў ево было квадратное», «што ён з’явіўся з гліны, а нехта, што дамавік пахож на памёрлых родственнікаў» [*3]. Гавораць, што калі чалавек добры, тады і дамавы такі ж самы, а калі злы, то дамавік таксама зла наробіць гаспадарам. М. І. Калеснікава ўпэўнена ў наступным: «О, ён жа не ўсем кажацца, не ўсем, гэта ж толькі можа шчасліўчыкі ўбачыць, а так не». [*4]. А каб дамавы не пужаў, «трэба зранку пасыпаць вуглы ў хаце макам і пабрызгаць свяшчонай вадой». У в. Хутар Светлагорскага раёна кажуць, што «трэба абязацельна на стале астаўляць скібачку хлеба, пасыпаную сахарам ці соллю. Нада ставіць варэнне, каб задобрыць яго. Ён любіць варэнне».

Інфармантка з Петрыкава паведаміла, што, на яе думку, дамавік – «стары дзед. Бываюць типа ангела. Если в хаце есть дамовой, всегда будет вестись хранитель ангела. Но бывает и злой домовой». [*2]. Свякроў ёй калісьці расказвала пра жанчыну, у якой быў дамавік у выглядзе змея. Яна яго забіла. І быццам бы ёй прысніўся сон, дзе ёй казалі: «Зачем убила кутового? Не будет тебе дворового!» Гэта значыць, што ў двары нічога не будзе весціся.

Як бачым, уяўленні жыхароў Гомельшчыны пра дамавіка даволі разнастайныя, што тлумачыцца іх шырокай геаграфіяй і лакальна-рэгіянальнымі асаблівасцямі.

Наступны міфалагічны персанаж – гаспадар лазні, лазнік, ці, як яго яшчэ называюць, баннік. Яго адносяць да злосных духаў. Звычайна ён знаходзіцца на печцы-каменцы ці на «палку», хаваецца ў веніках. Лічылі, што ён мае выгляд старога дзеда з вялікай сівой барадой, які любіць мыцца і парыцца (в. Бабоўка Жлобінскага раёна). Асаблівых разыходжанняў у апісанні лазніка не выяўлена. Амаль усе інфарманты адзначылі, што забаранялася хадзіць у лазню ў трэці пар. Пры гэтым пужалі лазнікам, які быццам бы прывяжа да лаўкі і паб’е бярозавым венікам, пакуль скуру не здзярэ (менавіта бярозавым, а не іншым!).

У Петрыкаўскім раёне лічылі, што лазнік – гэта «банный дух, которого в старые времена первым испеченным хлебушком угощали, чтобы легкий пар был. Если в этой бане потом попаришься, то даст здоровье. От тепла пара, можно услышать его вздохи. В первую очередь надо

задобрить ево: носить квас, не снимать нательный крест». Лазнік мае сілу не толькі даць здароўе, але і забраць яго. [*2]. Каб засцерагчыся ад шкоднага ўздзеяння лазніка, трэба не парушаць пэўных патрабаванняў, якія датычаць часу знаходжання ў лазні.

Адным з важнейшых прадстаўнікоў беларускай дэманалогіі лічыцца вадзянік. «Ён такі страшны, касматы, з барадой зялёнай. Цела ў яго ў слізі. Хвост ён імее, як у рыбы, і чушуёй пакрыты. А рукі, як у гуся лапы, штоб лучшэй плаваць. Увесь ён такі сіні, наверна ад холаду, і ў пупурышках»; «ён любіць жыць ля млыноў, пад шлюзамі» (в. Шырокае Буда-Кашалёўскага раёна); «вадзянікі – гэта мужчыны, якія ўтапіліся або іх утапілі сілком» (в. Пераалока Рэчыцкага раёна).

Лічылі, што вадзянік мог жыць і ў калодзежы. Бывала, што ён дапамагаў рыбакам, заганяў рыбу ў сеці, але і шкодзіў чалавеку, «тапіў людзей, асабліва тых, хто заходзіў у ваду без крыжа, і тых, хто ўмешваўся, імкнучыся выратаваць тапельца» (в. Бялёў Жыткавіцкага раёна). Паводле ўяўленняў жыхароў Рэчыцкага раёна, «ён у вадзе жыве, камандуе русалкамі. Тоўсты, бальшы, з дліннай барадой, валасамі, без адзежы. Еслі да пераплаўнай у ваду палезеш, утопіць, забалееш сільна. На мельніцах тожа жылі раней. Хазяіну там памагалі.Той ім смачнае насіў».

Па народных вераваннях, ён тапіў не толькі людзей, але і скаціну. Казалі, хто да яго прыйдзе, назад ужо не вернецца. Цікавыя звесткі былі запісаны ў в. Рэпішчы Чачэрскага раёна: «Як у прэзідэнта міністры, так у Бога пракрокі. Бог распрадзяліў абязаннасці, каму за чым глядзець. Вось вадзяніку паручыў за вадой глядзець. Вадзянік аказаўся сільна жадным. Людзі ж раней піталіся рыбай. І вот калі яны бралі штосьці з мораў ці рэк, то вадзянік сільна за ета мсціў у дзесяці пакаленнях. За ета ён сільна наказваў: тапіў караблі, лодкі, людзей. За такоя павядзенне вадзяніка Бог ад яго адказаўся. Вадзянік стаў прыслугай нячыстай сілы. Ён забіраў сабе дзевак, якіх насільнічалі, і якія самі тапіліся. Ета была яго дабыча. Вадзянік здзелаў етых дзевак напалавіну рыбай, напалавіну людзьмі» [*6].

Побач з вадзянікам жывуць русалкі. У мясцовых міфалагічных традыцыях «гэта прыгожыя дзяўчаты, якія ўтапіліся ці якіх патапіў вадзянік»; «русалкамі станавіліся незамужнія дзяўчаты», «дзеці, памёршыя нехрышчонымі». Вылучаецца асобная група павер’яў, згодна з якімі паходжанне русалак звязваецца з дзяўчатамі, якіх яшчэ ва ўлонні пракляла маці.

Інфармантка з Петрыкава распавядала, што «русалка живёт в воде, как водяная фея. Бывает, что русалки топят, а бывает и спасают. Русалок боятся. Помогали русалки рыбакам: загоняли в сети рыбу. Было и поверье, связанное с русалкой: если русалка влюблялась в рыбака, то помогала ему, а затем утягивала на дно». Прааналізаваўшы запісы па раёнах, мы заўважылі, што вялікіх разыходжанняў у апісанні русалкі няма. Большасць інфармантаў сцвярджала, што русалка – гэта «паўжанчына-паўрыба». Амаль усе адзначалі амбівалентнасць русалак, якія ўяўляліся і злоснымі і добрымі.

Вампір («вупыр») – міфалагічны персанаж, вядомы ў традыцыях усіх славянскіх народаў: гэта «нябожчык, які ўстае ноччу з магілы, ён шкодзіць людзям і жывёле, п’е іх кроў, наносіць шкоду гаспадарцы» [1, *33*].

Паводле ўяўленняў жыхароў Гомельшчыны, вампір – «чалавек, якога закапалі ў зямлю жывым»; «мяртвец, каторага чорная кошка перапрыгне»; «нябожчык, які выходзіць ноччу з магілкі; ета прывід. Імі становяцца людзі, якія пры жызні з нечысцю вадзіліся». «Вампіры ўстаюць ноччу з магіл і сасуць у людзей кроў, асобенна любяць яны дзецкую кроў, таго што яна дае ім сіл і яны маладзеюць ад яе» (в. Рагінь Буда-Кашалёўскага раёна). Вераць, што людзі, якіх укусіў вампір, самі становяцца вампірамі. Вампіра можна вызначыць па чырвоных вачах і вялікіх зубах.

Лічылі, што ўсцерагчыся ад вампіраў дапамагае часнык, розныя крыжы. Жыхары Гомельшчыны засцерагаліся ад вампіраў рознымі шляхамі: пры дапамозе агню, вострых прадметаў, раслін-апатрапеяў, часныку, спецыяльных заклінальных формул. Існуе ўяўленне, што «ў вампіраў вечная жізнь, но еслі ім в сердце вбіць асінавы кол, то оні памрут» [*2].

Адзін з галоўных персанажаў ніжэйшай міфалогіі славянскіх народаў – ведзьма. Гэта рэальная жанчына (знаёмая, суседка, родзічка) з дэманічнымі якасцямі. Лад жыцця ведзьмы адрозніваецца ад звычаяў астатніх людзей.

На Петрыкаўшчыне зафіксаваны наступныя звесткі: «Ведзьма не ходзіць у царкву, баіцца крыста, ніколі сама не крэсціцца. Ведзьма – это тот самый дьявол. Если хрещенный человек, то когда общается с ведзьмой, то чувствуешь тяжесть. В глазах может показацца казой, сабакай, змяёй». Кажуць, што быў такі выпадак: «Ездили на экскурсію ад цэрквы, ведзьма подошла к батюшку пакрэсціцца іператварылась она

в невідімаго. Так она ушла і не відел ее больше ніхто». Ведзьма звязана з д'яблам, яна робіць толькі зло.

Палеская ведзьма паўстае пераважна ў антрапаморфным выглядзе, але можа набываць і зааморфны воблік, ператварацца ў жывёл і птушак, паўставаць у выглядзе прадметаў. Жыхарка в. Пакалюбічы Гомельскага раёна ўдакладніла, што ведзьмы маглі ператварацца ў ката, казу, свінню, сабаку. Некаторыя жыхары Гомельшчыны лічылі, што ведзьма здольна станавіцца колам ці капой сена, варонай ці вужом, кабылай. Вядзьмарскія якасці ўласцівы як мужчыне, так і жанчыне, лічылі ў Хойніцкім раёне. «Ведьма – это женщина, которая не имеет возраста. Благодаря своим колдовствам она может превращаться из старухи в молодую девицу. У неё длинные чёрные волосы и хвост, который она прячет под длинной юбкой» (Казачэнка Зінаіда Васільеўна, 1934 г. н., г. Гомель).

У в. Шырокае Буда-Кашалёўскага раёна ведзьму ўяўлялі наступным чынам: «Ведзьмай становіцца жэншына, каторая знаецца з нячыстай сілай. Яна ўрадзіць людзям і эта смысл яе жызні. Чула, што як толькі яна стане ведзьмай, у яе хвост адрастае і са ўрэменем становіцца, як у сабакі. Ведзьма спасобна прыўрашацца ў чорную кошку, сабаку ілі курыцу. Яна ў асноўном насылае порчу, балезні і дажа смерць». А яшчэ жыхары Гомельшчыны лічылі, што ведзьма можа зрабіць так, што «даждзя долга не будзе ілі карова малако пацірае, а свіння расці не будзе, у куры яіц не будзе» (Буда-Кашалёўскі раён, Марозава Вольга Пятроўна, 1939 г. н).

Для засцярогі ад ведзьмы «в косяк дверi нужно воткнуть нож ілі іглу, освецоную в святой водзе бацюшком» (г. Гомель ). У в. Малевіцкая Рудня, што на Жлобіншчыне, лічылі, што ведзьмы і ўсякая нячыстая сіла баяцца грамнічных свечак. Іх вешалі ля ўвахода ў хлеў, каб ведзьмы не адбіралі малако ў кароў і каб коней не чапалі. У Рэчыцкім раёне верылі, што ведзьмы «баяцца купальнай травы, крапівы, дзядоўніка». У в. Шырокае адзначалася: «Штоб ведзьма не залезла ў хату ілі сарай, нада штоб у дварэ абязацельна сабак-первак быў». А вось у в. Сямёнаўка Рэчыцкага раёна ўвогуле існавала спецыяльная засцерагальная замова ад ведзьмы: *«Хрыстом хрышчуся, // Хрыстом воскрешаюся. // Крыў Бог зямлю бравою, // Дзерава карою, // Рыбку лускою. //Так пакрой, Госпадзі, мяне // Рызай святой. // Амінь»*.

Як бачым, уяўленні жыхароў Гомельшчыны пра персанажаў ніжэйшай міфалогіі даволі аб'ёмныя і разнастайныя. Навуковую цікавасць уяўляе аналіз поглядаў людзей з розных куткоў Гомельшчыны: калі ў адных вёсках міфалагічная істота ўяўлялася ў антрапаморфным выглядзе, то ў іншых – у зааморфным. Адны лічылі дамавіка добрай істотай, другія – шкоднай. Разам з тым, нягледзечы на разыходжанні ў меркаваннях, заўважаюцца і крослакальныя сыходжанні ва ўяўленні жыхароў Гомельшчыны пра персанажаў ніжэйшай міфалогіі.

### ЗАЎВАГІ

У артыкуле выкарыстаны матэрыялы фальклорнага архіва вучэбна-навуковай лабараторыі фальклора ГДУ імя Ф.Скарыны і ўласныя запісы аўтара, зробленыя ў г. п. Петрыкаў ад Ганны Мікалаеўны Закрэўскай, 1921 г. н.

### СПІС ІНФАРМАНТАЎ

*1. Анісімава Зінаіда Афанасьеўна, 1935 г. н., в. Сямёнаўка Буда-Кашалёускага раёна.

*2. Закрэўская Ганна Мікалаеўна, 1921 г. н., г. п. Петрыкаў Гомельскага раёна.

*3. Іванова Тамара Мікалаеўна, 1922 г. н., в. Каромка Гомельскага раёна.

*4. Калеснікава Марыя Іванаўна, 1932 г. н., в. Макрэц Брагінскага раёна.

*5. Лебедзь Аляксандра Львоўна, 1935 г. н., в. Шырокае Буда-Кашалёўскага раёна.

*6. Патапенка Ганна Пятроўна, 1932 г. н., в. Рэпішчы Чачэрскага раёна.

### ЛІТАРАТУРА

1. Міфалогія беларусаў: вуч. дап. для студэнтаў філалагіч. спец. ВНУ / В. С. Новак. Гомель, 2005.

***Яўген Есіс***

## РЫТУАЛЬНА-МАГІЧНЫ КОМПЛЕКС КУПАЛЬСКАГА СОНЦА (ФАЛЬКЛОРНА-ЭТНАГРАФІЧНЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ МАЗЫРШЧЫНЫ)

Купалле – старажытнае народнае свята, звязанае з летнім сонцастаяннем. Яно з'яўляецца надзвычай важнай часткай каляндарна-абрадавага цыкла. Купальскія вобразы-сімвалы, сярод якіх цэнтральным з'яўляецца сонца, дапамагаюць нашчадкам лепш зразумець

светапогляд продкаў, іх духоўныя памкненні. Фальклона-этнаграфічныя матэрыялы, сабраныя ў в. Вялікі Бокаў Мазырскага раёна, сведчаць, што рытуальна-магічны комплекс купальскага сонца складаецца з дзвюх узаемазалежных частак – шлюбнай і аграрна-магічнай.

Найбольш яскрава аграрна-магічны бок сонечнага культа бачны ў абрадзе сустрэчы раніняга сонейка пасля купальскай ночы. Інфарманты вельмі ўпэўнена тлумачылі сэнс дзеянняў, даволі падрабязна акрэслілі міфалагічную семантыку сонца, яго атрыбуты.

Абрад сустрэчы «*йваноўскага сонца*», як зазначаюць інфарманты, пачынаецца «*с самога ранечку 24 чэрвеня й 7 ліпеня*» і з'яўляецца галоўнай рытуальна-магічнай дзеяй ва ўсім купальскім абрадзе, бо лічылася, што «*трэ було назыраці за ўзыходжаннем сонца на лепшы й час*» [2].

Паводле сведчанння Г. С. Царэнка, сонца ў гэты ранак «*йграе – то двоіцца, то троецца, пераўвасобліваецца ў шматлікіе мноствы, екі круціецца адно коля другого і трэцего, то могуць разбігацца і з'ядноўвоцца, то ўзныміцца ўгору, то набудзе розные колеры, то так павілічыцца, то станйе вопшчэ моліньскім, еко ніхто не можа було пабачыці*» [2]. Згодна з народнымі меркаваннямі, сонечнае іграннe на досвітку чароўнай купальскай ночы, прадвяшчае шчасце тым, хто яго пабачыў. Рознакаляровы яго бляск уяўляўся не проста яскравым відовішчам, а звязваўся з прадказаннем добрага ўраджаю. А. М. Царэнка паведаміла наступнае: «Яснае ўзыходжаніе сонца ды й шчэ с пераліўным блікам счыталы добрым знакам на ўраджай. Запалівалы грамнічны свэчкы, тройчы ўшэпталы й «Сонца поможы!», цалавалы пшанічные блінцы, ходзілі кідаці іх ў возіра ці на пераскрыжаванне дарог, расцылалы й вытканы ручнік, лігалі на его і назыралі за поводзінамі сонца. Пасля его ўзыходжання бралы свой ручнік і йшлы з гарэвшой свэчкой додому, ручнік вешалы й на ганку, кеб отогнацы й нічытае дзеянне, а з грамнічнай свечкой, абуходзылы свою гасподарку, хатню жывёлу і свое палеткі, а ў поўноч наступну ее тушылій» [3]. Абрад сустрэчы купальскага сонца суправаджаўся песнямі, пераважна заклінальнага характару замовамі, павер'ямі, прыкметамі, варажбой. Так, рытуальна-магічная дзея ля возера пачыналася і заканчвалася наступнай песняй:

*Ой, на Йвана , ой, Купалу,*
*Ды й ранэнько сонэйко йграло й,*

*Ой, на лепшуе годы, ой, Йванко,*
*Ой, на лепшу дольку, ой, Купалко,*
*Ат на цёплы росы, ой,*
*Ой, на цёплы росы,*
*Ды й на хлэба-ўроджай,*
*Ды й на ленок-ўроджай,*
*Ды й на канопелькы* [3].

У асяродку вялікабокаўскіх жанчын існавала яшчэ павер'е, што на Купалле «сонца ездзіць на тройке каней – ето булі Вялікдзэнь, Добравэшчанько,Улянка ці Алена, Ілля, Маковы, Мэдовы й Яблучны, дажынкы, якія прыпадаюць на жнівень, Уздзвіжанне, Пакровы й Пыліпоўку» [3]. У дадзеным выпадку Аўдоцця Міканораўна Царэнка мела на ўвазе Спасы – макавы, мядовы і яблычны, менавіта ў Іванаў дзень прыкмячаюць, як сонца паварочваецца на зіму. Лічыцца, што яно выязжае на «трох конях – белым, чорным і срэбраным» [2]. Назіранне за сонцам працягвалася і пасля Купалля, падчас народнага прысвятка Пятра, калі жанчыны сачылі, як праходзіць усход сонца: «Ено то ўзнімаецца ўверх, то раптоўно спускаецца ўніз, то блішча living рознымі пераліўнымі колірамы – чірвоным, біленькім, сінім, то ено так ярчэнька ўспыхвое, шо людскі вочы не вытрэмліваюці, толькі знахарак і ведзьмарак» [2].

Інфарманты даюць канкрэтны адказ на пытанне аб асаблівасцях руху і колеравай гамы купалькага сонца. Так, па словах Г. С. Царэнка, «сонца ў еты дзэнь ўсходзіці ж трайной: спачатку вогненае – его завуць йваноўскае, потым зяленае – его називаемо ліечэбна, а толькы после жоўтае – его назувалы пшанічна» [2]. А. М. Царэнка дадала, што «ено пры ўсходзе спачатку павінно було танчыць, затым вагацца, тройчы па тройчы ето дзевяць разоў скакнуці й» [3]. З узыходам сонца была звязана шматлікая варажба жыхароў в. Вялікі Бокаў. Інфарманты казалі, як «па ўзыходжанню й сонійка варажылі на будучае й жыццё, ето значыць колі буў ціень бесголову – то значыць була ў таго чалавіка ці жынкі хутка смерць, бес ўсялякае хвары» [2, 3].

Асноўная рытуальная функцыя сонца ў купальскім абрадзе – шлюбная. Згодна з мясцовымі павер'ямі, у гэты час адбываецца вяселле, «Сонэйка і Зараночкы» [2, 3], што знайшло адлюстраванне ў адной з песень:

*Йграй, Сонейко,*
*Йграй, молодзенечко й,*
*Ды й глядзі на Зораначку,*
*Нашу лепшу прыродну паночку й,*
*Йграй, сонэйко, ой, с Зараночкой й* [3].

Купальская абрадавая і падобныя з'яўяюцца прататыпам вясельных песень з іх камалагічнай сімволікай жаніха і нявесты. З другога боку, у купальскай абраднасці скандэнсаваны ўяўленні аб сакральнай узаемасувязі паміж расліннасцю, агнём, вадой і каханнем у межах рытуальнага часу: «Екі колі сыходзецца разамо, то праходзіці веліка кахання для ўсего жывога й людзей» [2]. Здаецца верагодным, што ідэя нябеснага шлюбу ў вялікабокаўскай традыцыі – вынік сутыкнення беларускай і цыганскай культур. Можа, вялікабокаўскія жанчыны-цыганкі таксама паўплывалі на цікавую мясцовую інтэрпрэтацыю шлюбнага міфа. Паводле ўспамінаў А. М. Царэнка: «Було вільмы шмат імен нэбэсных шлюбных пар, іх назувалы па-розному: то Сонцэ і Зара, то Сонцэ і Зімла, то Неба і Месец, то Месец і Сонца, то Месец і Зорко – ета була одна толькы пара – Сонцэ і Зараночка» [3]. Сонцам і Зараночкой называлі закаханых у цыганскім табары, калі «дзеўчына була цыганко, а малец нашанскі» [3].

У энцыклапедычным слоўніку «Беларуская міфалогія» згадваецца пра Сонца і Месяц: «Цэнтральны, і, відаць, досыць архаічны міф з удзелам Сонца атрымаў назвы «Нябесная сям'я» і «Нябеснае вяселле». У ім Сонца і Месяц увасабляюць ідэальную шлюбную пару: нявесты і жаніха і жонкі і мужа, дзе Сонца ўвасабляе жаночы пачатак, а Месяц – мужчынскі» [1, *479*]. І далей увага звяртаецца на ролю пераменлівага Месяца, «які заляцаўся да Заранкі/Вечарніцы (Венеры), за што быў сурова караны Перуном (Юпітэрам)» [1, *479*]. Вялікабокаўская традыцыя не ведае гэтага павароту міфалагічнага сюжэта і ўстойліва звязвае з Заранычкай толькі Сонца.

Выкарыстанне вады ў вялікабокаўскім вяселлі з'яўляецца рытуальна-магічнай дзеяй, семантычна звязанай з дадзенай міфалагічнай парай. Так, А. М. Царэнка згадвае: «Колі раніцай после першой шлюбной ночы було бачна, шо нівэста цнатлыва, то й молодым прыносылы воду й ручнічок тканы мужу, а вышыты – жынке, і ены после муліса» [3]. Сярод вялікабокаўскіх жанчын бытавала меркаванне, што цнатлівую

нявесту і нячэсную тэба мыць па-рознаму, але функцыя вады ад гэтага не змянялася: «Раніцою ў аўторак, ето другі дзень тыдня, баба-павітуха, хросна й маці, а шчэ й сваці мулі нівесту ля колодзэжа ды й ўважліва глідзелы: колы ена цнатлыва, то вэльмі асцярожна, а колы прагуленайя – аблівалі ее водой, екой мулі, а после і свічаной, тройчы абходзылі ее з запалінае грамнічной свечой і нічога ні козалі. Етаксама робілі й з мальцэм, толкі з его бацько, хросны й сват снымалы й наговіцы і падпальвалы іх грамнічною свічкой. После чаго шчыталоса, шо дзэўка й малэц ні могуць жыць одзын без другога – ек Сонца й Зараночка ў водзэ» [3].

Па словах Г. С. Царэнка «купанне сонейка було адным з актаў чалавэчага шлюба» [2]. Тым самым інфармантка хацела сказаць аб тоеснасці чалавечага ўлюбу, міфалагінага, рытуальных вытоках вясельнага абмывання і купальскага купання моладзі, іх вызначальным характары для ўсіх сямейных абрадаў, звязаных з нараджэннем і хрышчэннем дзіцяці, пахаваннем нябожчыка. Рытуал абмывання пачынаецца з вясельнага абраду і павольна пераходзіць ў іншыя сямейна-абрадавыя дзеі – нараджэння і хрышчэння дзіцяці, пахавання. У жаночым вяліка-бокаўскім успрыманні купанне сонца ў вадзе з’яўляецца магічна-абрадавым актам «йваноўскага вэсілечко спадара Сонца с спадарынёю Зараночкой”»[2]. Гэта вяселле здзяснялася ў зямных водах, а не ў блакітным паветры, то «ено, вэселечко, і становіласа адным цэлым: адзыным нябесных і земных сіл» [2]. Невыпадкова верылі, што сакральнае вяселле Сонца і Заранaчкі ў зямных водах садзейнічае павелічэнню прыродных сіл. Акрамя таго, яно было рэгулятыўным абрадавым фактарам. Па словах А. М. Царэнка: «Вэсэлічічко Сонца і Зараночкы станавілася дазволам працягу чаловэчага роду» [3], асвячала свабоду інтымных адносінаў у «йваноўску ноч» [3]. Купальская песня, якую спявалі перад уваходам у лазню, сведчыць аб пераасэнсаванні абрадавага звычаю:

*Ой, на дзярэўную навіночка, шчэ ека, а:*
*Сама маці Купалочку,*
*Йваноўскым віночкам,*
*Ой, дачошку свою й была,*
*Ды й пры гэтым путуласа, бэдна:*
*– Дзэ й ты, шэльмачко, віночак дзэла ?*
*С кім ты, шэльмочка, его зніла*? [3].

У гэтай песні страта дзяўчынай купальскага вянка як сімвала цнатлівасці, выклікае гнеў маці. Трэба адзначыць, што падчас Купальскага свята яго ўдзельніцы містычна атаясамліваліся з Купалачкай, дачкой Купалы. А. М. Царэнка адзначыла, але не патлумачыла наступнае: «Любоўные сувязі йваноўскага абраду й находзілі свое адлюстрованіе і шырокі працяг у другіх семейных абрадох – народжэнні дзіцяці, весільных дзеях і, ек не странно, пахаванні чаловэка» [3].

Як бачым, сведчанні інфармантаў надвычай важныя для ўдакладнення рытуальна-магічнай функцыі купальскага сонца, яго семантыкі і ролі купальскага міфа ў фарміраванні асобных звёнаў абраду, песенных матываў і сітуацый.

**ІНФАРМАНТЫ**

1. Царэнка Ганна Сілічна, 1927 г. н., в. Вялікі Бокаў Мазырскага раёна (запіс 2006 г.)
2. Царэнка Аўдоцця Міканораўна, 1929 г. н., в. Вялікі Бокаў Мазырскага раёна (запіс 2006 г.)

***Пятро Цалка***

## ВЯСЕЛЬНЫЯ ТРАДЫЦЫІ МАЁЙ РОДНАЙ ВЁСКІ

Вясельны абрад мае адметны характар у кожнай вёсцы, таму адной з задач фальклcarыстыкі з'яўляецца вылучэнне і асэнсаванне лакальных элементаў. Мая праца прысвечана характарыстыцы вясельнай традыцыі ў роднай вёсцы Сіманічы Лельчыцкага раёна. Надзвычай важнай яўляецца нам ацэнка той ці іншай фальклорнай з'явы знутры, з пункту гледжання саміх носьбітаў. Менавіта на гэты бок звярталася асаблівая ўвага падчас збірання матэрыялаў па вясельнай абраднасці. Згодна з паведамленнямі інфармантаў, мясцовае вяселле характарызуецца добрай захаванасцю традыцыйных абрадавых момантаў, пры гэтым адметныя лакальныя рысы арганічна накладаюцца на агульнаэтнічную аснову.

Пра характар беларускага вяселля сведчыць унутраная форма тэрміна, якая асабліва выразна высвечваецца пры параўнанні з рускім пазначэннем абраду – *свадьба* з іншай акцэнтацыяй яго зместу. І сапраўды, на вяселлі не змаўкаюць песні, музыка, жарты, віншаванні і пажаданні, не спыняюцца танцы, тэатралізаваныя сцэнкі і г. д. Яно і

зразумела: жаніцьба – важная падзея не толькі ў жыцці маладых, але і двух радоў. Вясельная абраднасць нагадвае своеасаблівы спектакль, дзе ёсць сюжэт, інтрыга і мірнае вырашэнне першапачатковага канфлікту. Праз прыгажосць вясельных звычаяў надзвычай ярка раскрываецца душа народа, а паэтыка абрадавых песень – найлепшае сведчанне яго тонкага мастацкага густу, псіхалогіі. Вясельная абраднасць дае яскравае ўяўленне пра сямейны лад беларусаў, характэрныя вераванні, маральныя, этычныя і эстэтычныя погляды.

**Сватанне** – самы першы і вельмі важны этап вясельнай абраднасці, ад якога залежыць ход наступных частак вяселля. Вось як яно адбывалася ў в. Сіманічы: «Раньшэй перад вяселлем заўсёды хадзілі ў сваты. Хадзілі абязацельно ў мясаед, а не ў пост. Обычно вечаром, як ужо сцямнее. Збіралі самух раднейшых і абязацельно хросного з хросною, бо без іх ніяк хлопец не мог пайці ў сваты до дзеўкі. Збіраюцца яны ўсе гуртом, бяруць з сабою пірага з гарэлкаю і ідуць у хату да молодое. Заходзяць у хату як будто не сватацца, а просто так, по дзелу, і пачынаюць размову:

– *Добры вечар!*

– *Добрэ здороўе! А чаго ж ву к нам завіталі?*

– *А му чулі, шо ву прадаеце сваю целічку.*

– *Ой, да яна ў нас яшчэ малада, хай яшчэ паходзіць, папасецца.*

– *Ну... як не хочаце прадаць целічку, то раз му ўжэ прыйшлі, то мо ву сваю Ганночку за нашого Іванка замуж аддасце?*

І потым ужэ пачынаюць гаварыць пра маладых.

Затым хлопец налівае чарку гарэлкі, кідае туды капейку і пудносіць да молодое. Калі вона согласна, то бярэ чарку і прыгублівае з яе трохі гарэлкі. Затым нясе яе бацьку, а затым мацер, каб яны благаславілі, потым усе сядалі, елі-пілі і абгаворвалі, калі і як будуць вяселле гуляць.

А калі дзеўка не согласна була ісці за хлопца замуж, то нічога не кажучы, чы вон хорошы, чы не, а моўчкі вуносіла гарбузу. А хлопец, калі дзеўка яму адмовіла, браў у хаці з кутка кавеню і круціў яе, шоб дзеўка замуж не пайшла».

**Зборная субота.** Перад самым вяселлем у суботу зранку ў маладой збіраліся яе сяброўкі, адсюль і назва. Зборная субота – своеасаблівае развітанне нявесты са сваім дзявоцтвам, з сяброўкамі, з якімі пасля замужжа яна ўжо не мела права хадзіць на гулянні. Згодна з паведам-

леннем, «*у суботу раніцаю малада збірала подружак. Яны збіраліся і плялі вянок для маладой. Калі вяселле було ўлетку, то яго плялі з самых прыгожых кветак. А калі зімою, то рабілі кветкі з паперы, якую красілі. Да вянка прывязвалі шмат доўгіх рознакаляровых каснікоў і спявалі песні:*

*– Маладая ты, Ганночко,*
*Ці ўсе сады аблятала,*
*Ці ўсе сады абкавала.*
*Мо которы міновала?*
*– Не, усе сады аблятала,*
*Усе сады абкавала.*
*– Маладая ты Ганночко ,*
*Ці ўсіх дружок позбірара?*
*– Усіх дружок позбірала,*
*Толькі ту міновала,*
*На котору злобу мала».*

**Каравай.** Звычайна з замешвання цеста на каравай і яго пячэння пачыналася ўласна вяселле. Вось як распавядаюць аб гэтым дзеянні ў Сіманічах: «Ні адно вяселле не абуходзіласа без каравая. Раней каравай заўсёды пяклі ў сваёй печы. Вот збірала маці маладой суседак і не абы якіх, а самых лепшых: хто добра жыў, было ў іх усё ў дастатку, былі замужнія, а не ўдовы. І яшчэ булі са сваім первум чалавекам і не разводныя. Як збіраліся ўсе суседочкі, то спявалі:

*– Ох, Ганноччына ж маці,*
*Ох, Ганноччына ж маці,*
*По суседочкам ходзіць*
*По суседочкам ходзіць*
*Да суседочок просіць:*
*Ох, суседочкі ж мое,*
*– Ох, суседочкі ж мое,*
*Да ходзеце ж ву ко мне,*
*Не ко мне, а к дзіцяці,*
*Не ко мне, а к дзіцяці,*
*Каравай у печ саджаці.*

Затым пачыналі рашчыняць каравай. Бралі муку самого вусшого сорту, туды білі яйкі, обязацельно парную колькасць. Дабаўлялі смятану, масло, дрожджы. Каравай обязацельно доўжон буць вялікім, коб хваціло на ўсіх госцей.

Потым каравай упрыгожвалі шышачкамі, розачкамі, зорачкамі, якія рабіліся з той жа мукі. Ставілі каравай у печ, ён пачынаў падыходзіць. І калі вон ужэ рос вельмі вялікі, то шоб вон не вулез з міскі, вурэзвалі з лазы шыроку палоску і абкручвалі вакол каравая. За караваем вельмі ўважліва сачылі, каб ён не пашкодзіўса, бо гэта було к бядзе.

Калі каравай ужо спёкся, то яго выймалі з печы і мазалі яго яйцэм, збітым з сахаром, каб ён вельмі хорашэ блішчаў.

А яшчэ разам з караваем і ў маладого, і ў маладое пяклі па маленькому піражэчку. Гэтыя піражочкі пякліся з таго ж цеста, шо і каравай.

Калі малады ўжо прыяжджаў по молоду, то яны етые піражочкі звязвалі ў адну хустачку і пасля вяселля абавязкова павінны былі з'есці іх саміе, не даваць яго нікому». Каравай на вяселлі ўсведамляўся як сімвал шчасця, дабрабыту, трывалага шлюбу маладых.

**Выезд дружыны жаніха да нявесты.** Хлопца дома сустракаюць, там ужо п'юць і гуляюць, а ўжо як сцямнее, то позно ноччу ехалі по молоду. Малады збіраў маршалкаў і яны садзіліся ў тры карэты, але перад етым бацько вуносіў пірога і абуходзіў з гэтым пірогом подводу з канём, у якой сядзеў малады. Пры гэтым спявалі:

*– Ох, ворогі, ворогі,*
*Да не перэходзьце дорогі,*
*Да нехай перойдзе господ Бог,*
*Да мой бацюхно наперод,*
*Да нехай перойдзе матка моя,*
*Шоб наша дорога гладкой була,*
*Да нехай перойдзе родзіна,*
*Шоб на дорога шчаслівa була».*

**Прыезд дружыны жаніха па нявесту:** «Да молодое звычайно ўжо прыязджалі апоўначы, каб було цёмно і ніхто не назурочыў. А яшчэ, каб молодого не назурочылі, то яму ззаду к пінжаку, на шыі прычаплялі іголку з краснаю ніткаю. Ну, вось едзе молоды ўжо по молоду, а ў молодое коло хаты ўжо павінны былі гарэць вогнішчы.

Маршалкі прыязджаюць да двара молодое і пачынаюць прасіцца ў хату:

*– Ой, сваткі, ой, сваткі,*
*Да пусціце ж нас у хатку*
*Хаця ручкі пагрэці,*
*Хаця ручкі пагрэці,*
*На невесту пагледзеці.*

Раней подружкі обязацельно для маршалкаў вушывалі платочкі з кветачкамі. Кожны маршалак выкупаў сваю дружку разам з платочкам і кветачкаю. А яшчэ дружкі перод вяселлем ішлі ў лес і там знаходзілі самую прыгожую ёлачку і прыносілі яе дамоў. Там яе ўжэ нараджалі ўсякімі кветкамі, якія рабілі самі з каляровай паперы. І так упрыгожаць елачку, што яна аж ззяе. Наверсе елкі вешалі цану, колькі елка каштуе. Калі ўжо прыходзіў чарод выкупляць елку, то дружкі пачыналі спяваць:

*Ой, ёлка, ёлка кучэрава*
*У бору стояла – шумела,*
*У бору стояла – шумела,*

*Дорогою йшла – звінела,*
*Дорогою йшла – звінела,*
*На столе стала – заззяла,*
*Ой, да наша ёлачка кучэрава.*

Ёлку павінны былі выкупіць маршалкі ўсе гуртом. Ек маршалкі дающь мало грошай, то дружкі спявалі:

*– Хваліліся, шчо богатые,*
*Хваліліся, шчо богатые,*
*Аж воны скуповатые.*
*По смеццю ходзілі,*
*Чэрэпочкі збіралі,*
*Да дружэк скуповалі.*

Потымо ўжэ ўсе прыходзілі да згоды, пачыналі спеваць, усе сваты і свахі заходзілі ў хату да маладое і сядалі за сталы.

У хаце маладыя сядалі разам за вясельным сталом. А месца гэтае заўсёды було засланэ вувернутым кажухом, коб молодые булі багатые і шчаслівуе, каля іх яшчэ павінна була сядзець зёлачка, якую выбіраў малады. Зёлачка – гэта маленькая дзяўчынка, якая трымала свечкі, а гэтыя свечкі даўжна була скачаць хросна маці з воску. Адразу лажыўся ручнік, на гэты ручнік невялічкі піражок, і ў гэты піражок застрыкаліса свечкі, якія павінны булі гарэць у час усяго вясельнага абраду».

**Дзяльба каравая: «**Гаспадары хаты ўставалі і прамаўлялі:

– Дай, Божэ, не маўчаць, да добрэ пачаць. Дзе есцека тута хросные бацько і маці, то абазвецеса каханые.

Хросны бацько вуносіў каравай, затым каравай стаўляюць каля маладых, і хросны бацько пачынае дзяліць каравай. Першые самуе смачные кавалкі адрэзае маладому і маладой, затым бацькам маладое.

Потым караваем пачыналі частаваць і ўсіх астатніх гасцей. Кожны падыходзіў, дараваў свой падарунак, браў кавалак каравая, затым абавязкова павінен буў вукупіць чарку гарэлкі, якую налівала хросная маці. І пры гэтым кожны прыдумваў якую-небудзь прыказку-пажаданку:

*«Дарую табе мая дочка і шаўковыя паясы, а як за горкаю доляю, то й на хлебі праясі.*

*Дарую сноп канапель, шоб да году сын буў як пень.*

*Дарую сноп жыта, шоб не була мая дочка біта.*

*Дарую цяліцу, шо скачэ з печы на паліцу.*

*Дарую міску проса, шоб не глядзела свякруха скоса.*

*Дарую міску гліны, шоб да году булі радзіны.*

*Дарую міску малін, шоб малады не бегаў да чужых жанчын.*

*Дарую дуба з ралом, шоб сын буў генералом.*

*Дарую сталку маніст, шоб буў сын гарманіст.*

*Дарую тые пчолы, шо на зялёным дубу, шоб нашые молодые пацоловаліса ў губу.*

*Дарую шчэ й грушу, шоб малады любіў маладу як душу.*

*Я дарую грошы, шоб малады буў харошы».*

А якая ў іх глыбокая народная мудрасць, тактоўнасць, далікатнасць, сапраўдная, а не паказная.

Затым усе весяліліся, елі, пілі, спявалі розныя прыпеўкі:

*Як паселі прыданкі,*
*– Як паселі прыданкі,*
*– То ўвагнуліса лаўкі,*
*А шчэ хужэй увагнуцца,*
*А шчэ хужэй увагнуцца,*
*Як гарэлкі нап'юцца.*

Затым ужо малады забіраў маладу, саджаў яе ў пудводу і яны ехалі ўжо да свекрухі і свёкра. А потом, калі прыежджаюць да хаты молодого і калі молода злезала з пудводы, пачыналі спеваць:

*– Унось маці дзежку,*
*Унось маці дзежку,*
*Бо везе сын невестку,*
*Тонкую, ек буліну,*
*Тонкую, ек буліну,*
*Чырвону ек коліну.*
*Токую высокую,*
*Токую высокую,*
*На работу ахвочую.*
*Да й у хату і у святліцу,*
*Да й у хату і у святліцу,*
*За ворота молодзіцу.*

Таўды свякруха прыносіла молодой дзежку, у якой пякла хлеб, і пераварочвала яе уверх дном. Малада павінна була сплясці надзежніцу, якую яна прасцілала на дзежку. І калі яна була яшчэ нявінною,

то яна ставала на дзежку, а калі ўжо саграшыла, то абуходзіла гэтую дзежку кругом.

Затым бацько і маці молодого сустракалі молодых хлебом і соллю, частавалі медом. Давалі молодым пірога, яны браліса за яго з розных канцоў і ламалі яго – у каго будзе большы кавалак пірога, то той і хозяін у хаці».

«Калі ўжэ молодые заходзяць у хату, то молода з самого порогу пачынае наўхрост сеяць жыто по хаці:

*– Зарадзі, Божэ, жыто,*
*Зарадзі, Божэ, жыто,*
*Дэй на новой лето.*
*Шчоб наша молодая,*
*Шчоб наша молодая,*
*Стоечы жыто жала.*

Усе сядалі за столы і пачыналі спяваць. Потым усе почыналі выходзіць со стола, ставалі ў круг. У сярэдзіне круга стаўлялі табурэтку. Затым у круг уваходзілі молода са свекрухою, а затым свекруха повінна була пасадзіць молоду на табурэтку, зняць з яе голову вянок і завязаць хусточку. Калі ўжо молодой завязалі хусточку, яе подводзілі да молодого і жартавалі: «Забралі мы ў цябе маладзіцу маладу, а прывялі табе бабу стару».

**На куры**

«Ужо наступны дзень гуляння называлі «на куры». Зранку людзі збіраліса, перадзявалі бацька і мацер молодое і молодого ў «маладых». І пачыналі па-жартоўнаму гуляць вяселле.

Затым ішлі по хатам до госцей, якія былі на вяселлі, яны павінны былі іх пачаставаць і дазволіць злавіць у сябе з двара куру. Затым увечары з гэтых курэй варылі смачную юшку. І гулялі ўжэ да знемажэння.

Затым праз тыдзень бацькі молодой ішлі ў госці да сваёй дачкі, паглядзець, як яна там жыве. Прыходзілі, гаварылі пра розныя рэчы, можа, якія турботы ўзніклі, затым сядалі і снедалі. Даставалі елачку, якя да гэтага часу знаходзіласа за вобразам у хаце, і разбіралі яе на шчасце».

Я спадзяюся, што запісаныя мною звесткі пра вяселле ў адной вёсцы даюць яскравае ўяўленне пра асноўныя асаблівасці беларускага

традыцыйнага вяселля. На асобныя элементы вясельнай абраднасці можна глядзець з усмешкай, бо яны – пройдзены этап у жыцці народа, толькі сведчанне яго колішніх уяўленняў. Але ў цэлым вясельная абраднасць і па сённяшні дзень прымушае захапляцца яе паэтычнасцю. У традыцыйным вяселлі вельмі многа здаровага, рацыянальнага, сугучнага нашаму часу. Усё гэта лепшае трэба ўмець разгледзець, вылучыць, каб развіваць далей, напаўняючы яго новым зместам.

Словы глыбокай падзякі хочацца выказаць усім жыхарам вёскі Сіманічы. І асобна Валянціне Мікалаеўне Куціс (1937 г. н.), Ніне Мікалаеўне Федаровіч (1938 г. н.) і Валянціне Дзмітрыеўне Астаповіч (1942 г. н.), якія і падзяліліся са мной гэтымі найкаштоўнейшымі звесткамі.

Лічу, што запісаныя мною звесткі па вясельнай абраднасці в.Сіманічы Лельчыцкага раёна дапоўняць апублікаваныя ўжо матэрыялы па вяселлі ў межах майго раёна і на Гомельшчыне ў цэлым.

*Раздзел 3*

# ФАЛЬКЛОР – ЛІТАРАТУРА – МОВА

***Алена Яновіч***

## ТАЎТАЛАГІЧНЫЯ КАНСТРУКЦЫІ ЯК СРОДАК ФУНКЦЫЯНАЛЬНАЙ СЕМАНТЫКА-СТЫЛІСТЫЧНАЙ КАТЭГОРЫІ АКЦЭНТАВАНАСЦІ Ў ТЭКСТАХ БЕЛАРУСКІХ НАРОДНЫХ ЗАГАДАК

Як вядома, тэкст загадкі, з лінгвістычнага пункту гледжання, ўяўляе сабой асаблівым чынам зашыфраванае, утоенае абазначэнне прадметаў і з'яў акаляючай чалавека рэчаіснасці, якое дасягаецца ўвядзеннем другаснай, або замяшчальнай, намінацыі рэальных дэнататаў. Гэты асаблівы прыём кадзіравання назваў загаданых прадметаў або з'яў разам з вылучэннем іх прыкмет (функцыянальных, якасных, колькасных і інш.) складаюць структурна-стылістычную спецыфіку загадкі як асобага жанру народна-паэтычнай творчасці [4, *149*].

Структурна-стылістычныя асаблівасці тэксту загадкі адпавядаюць магчымасці вырашэння яе галоўнай камунікатыўнай задачы – раскадзіраваць утоеную намінацыю прадмета або з'явы. У рэалізацыі гэтай камунікатыўнай інтэнцыі актыўную ролю адыгрывае тэкставая катэгорыя акцэнтаванасці, якая прадстаўляе сабой сістэму акцэнтуатараў – не толькі тэкставых сродкаў, але і моўных адзінак розных узроўняў, прызначаных для сэнсавага вылучэння канцэптуальна важных фрагментаў тэксту, для прыцягнення да іх асаблівай увагі [2, *120*].

Як адзначана даследчыкамі, спосабы тэкставай рэалізацыі функцыянальнай семантычна-стылістычнай катэгорыі акцэнтаванасці залежаць ад стылістычнай прыналежнасці маўленчага твора [2, *121*]. У тэксце загадкі канцэптуальна важнымі момантамі з'яўляюцца другасныя намінацыі, якія кадзіруюць назвы ўтоеных дэнататаў і, патрабуючы расшыфроўкі, прыцягваюць асаблівую ўвагу камунікантаў.

Разгледзім з гэтага пункту гледжання тэкставыя і моўныя прыёмы стварэння другасных намінацый у тэкстах тых загадак, якія змяшчаюць апісанне прадмета на аснове яго другарадных адзнак або ўскосных намёкаў на яго прыкметы (пакідаючы ў такім выпадку ўбаку тэксты загадак, пабудаваныя на метафары).

Адным з найбольш прыкметных спосабаў прыцягнення ўвагі да сутнасці закадзіраванай назвы прадмета з'яўляецца лексічная таўталогія, якая рэалізуецца як рэдуплікацыя дзеяслоўных і іменных асноў: «*Кацілася качулачка-птушачка; Коціцца катушка-птушка*» (*Сонца*); «*Віса вісіць, хода ходзіць*» (*Чалавек і яблыка*); *«Вязушка вязе, сякушка сячэ*» (*Лыжка, зубы*) і інш. [1]. Выяўленне рэальнага функцыянальнага прызнака прадмета падкрэсліваецца ў найменні суб'екта загадкі. Як правіла, найменне суб'екта дзеяння прадстаўляе сабой словаўтваральны неалагізм, матывацыйна звязаны з назвай дзеяння, што і стварае таўталагічную канструкцыю. У тэкставым прасторы загадкі такія канструкцыі адыгрываюць ролю сэнсавых акцэнтуатараў, якія прызначаны прыцягваць увагу да закадзіраванай такім чынам назвы рэальнага дэнатата. Пры гэтым трэба дадаць, што лексічная таўталогія такога роду можа мець даволі агульны, неакрэслены сэнс, таму тэксты загадак амаль заўсёды змяшчаюць удакладненні, напрыклад: «*Віса вісіць, хода ходзіць» (Чалавек і яблыка)* – параўнаць: «*Віса вісіць, хода ходзіць, віса ўпала, хода ўкрала» (Жолуд і свіння)* або «*Вісіць віса, сам касматы, канец лысы*» *(Арэх*) і інш.

Таўталагічныя канструкцыі як сродак акцэнтавання сэнсу ў тэкставай прасторы загадкі можна лічыць найбольш распаўсюджаным моўным сродкам тэкставай катэгорыі акцэнтаванасці (папярэдне можна сказаць тое ж самае і ў дачыненні да тэкстаў іншых фальклорных жанраў).

Лексічная таўталогія як кампанент лексічнага складу тэкстаў загадкі мае разнастайныя спосабы рэалізацыі. Побач з прадстаўленай вышэй структурай «дзейнік – выказнік» у ролі сэнсавых акцэнтуатараў ужываюцца таўталагічныя спалучэнні ў іншых сінтаксічных пазіцыях, напрыклад, як азначэнне пры назве ўтоенага прадмета: «*Доўгі даўгач упадзе ў балота» (Дождж); «Малы малышак зваліўся з вышак» (Арэх); «Сіняя сінява ўвесь свет адзявае» (Іголка).* Лексічны паўтор рэалізуецца таксама ў спалучэнні прыметніка з назоўнікам або прыслоўя

з дзеясловам у сінтаксічнай пазіцыі акалічнасці, напрыклад: «*У цёмнай цямніцы тчэ пані красніцы» (Пчала); «На гары гаранскай стаіць дуб шатанскі» (Дзядоўнік); «За лесам палянскім, за полем лясанскім крычыць Кацярына голасам шатанскім» (Труба); «Кіну кідком, стане кубком» (Рэчка)* і інш. Праўда, у апошнім выпадку адзначаныя лексічныя канструкцыі з паўторам аднакаранёвых слоў не ўваходзяць у склад замяшчальных (або другасных) намінацый загаданых прадметаў, але тым не менш таксама маюць статус сэнсавых акцэнтуатараў, таму што паслядоўна размяшчаюцца ў моцнай тэкставай пазіцыі – у пачатку тэксту загадкі. Гэта садзейнічае кадзіраванню і дэкадзіраванню не толькі загаданага дэнатата, але і ўсёй сітуацыі ў цэлым.

Звяртае на сябе ўвагу разнастайнасць прыёмаў неалагізацыі лексічнага складу таўталагічных канструкцый. Тут выяўляецца ўтварэнне аказіянальных дзеясловаў ад іменнай асновы: «*Зара зырала, ключы пацярала» (Раса); «Два арлы арлуюць, чужое яечка балуюць» (Кум, кума, дзіця);* утварэнне аказіянальных назоўнікаў ад асновы дзеяслова: «*Стаяць стаючкі, а на іх калючкі» (Хваёвыя дрэвы),* або ад асновы лічэбніка: «*Чатыры чатыранкі беглі па палянкі» (Колы)*; а таксама ўтварэнне назоўнікавых і дзеяслоўных неалагізмаў ад адной і той жа асновы з гукапераймальным значэннем: «*Сталі шыпулі шыпуліцца, няма месца, дзе ім прытуліцца» (Пчолы)*.

Прыкметнае месца ў сістэме лексічных сродкаў у ролі тэкставых акцэнтуатараў сэнсу займаюць парныя спалучэнні лексічных адзінак, у якіх другі кампанент часцей за ўсё ўяўляе сабой штучна створанае слова, якое толькі фармальна (часцей за ўсё за кошт першага складу) адрозніваецца ад папярэдняга і, ствараючы рыфму, забяспечвае сугучнасць і рытмічную завершанасць такой канструкцыі, не ўносячы разам з тым у яе значэнне ніякага новага або наогул проста пэўнага семантычнага адцення. Напрыклад, цэлая серыя загадак пра сонца змяшчае спалучэнні такога тыпу: «*Стаіць дуб-litарадуб…»; «У горадзе на Сіяне стаіць дуб-вертадуб…»; «Стаіць дуб-шкарадуб…»; «Стаіць верадуб, на тым дубе-верадубе…»*.

Фарміраванне такіх спалучэнняў у якасці другасных або замяшчальных намінацый утоеных прадметаў можна прасачыць пры супастаўленні розных варыянтаў загадак пра ластаўку. У адным з іх моцную пазіцыю пачатку тэксту займае слова *шыльца* як указанне

на характэрную рысу вонкавага выгляду птушкі з вострай дзюбай (і раздвоеным хвастом): *«Спераду шыльца, ззаду вільца...»* У іншых варыянтах гэтай загадкі моцную пазіцыю тэксту займаюць найменні *шыла-матавіла, шатавіла-матавіла, шатавіла-батавіла,* якія ўзніклі ў выніку фармальнага пераўтварэння слова і страцілі семантычную сувязь з назвай рэальнай прыкметы дэнатата.

Падобную дынаміку можна выявіць і на прыкладзе серыі загадак пра гусь. У адным з варыянтаў гэтай загадкі: *«Ішло бадзіла, па хаце хадзіла, па-нямецку гаварыла»* – яе суб'ект вызначаны аказіяналізмам *бадзіла,* які акцэнтуе ўвагу на няўклюднасці рухаў гэтай істоты (побач з іншымі функцыянальнымі адзнакамі). Але разам з тым вядомы такія варыянты загадкі, у складзе якіх у ролі другаснай намінацыі яе суб'екта выступаюць парныя рыфмаваныя словазлучэнні *шыла-бадзіла, шыдла-матавідла, шардзюрыла-бардзюрыла.* У іх выяўляецца толькі фармальная сувязь з найменнем *бадзіла* і адсутнічае семантычная.

Словазлучэнні, у склад якіх уваходзяць фармальна змененыя словы, прадстаўляюць дастаткова распаўсюджаную разнавіднасць лексічнага паўтору як моўнага сродку прыцягнення ўвагі да суб'екта загадкі з мэтай дэкадзіравання яго першаснай намінацыі, а рыфмаванавасць і вершаванасць такіх канструкцый садзейнічаюць экспрэсіўнасці выразу і забяспечваюць яго запамінанне: *«Сані-рассамані хазяіна паймалі, двор у дзірку ўцёк» (Сець, рыба, вада); «Пяць-перапяць па дарожцы бяжаць, пяць-перапяць пад крышай стаяць» (Пальцы ў час прадзення).* Але заканамерна паўстае пытанне: як вытлумачыць фарміраванне такога спосабу тэкставага акцэнтавання канцэптуальна важнага для жанру загадкі моманту – дэкадзіравання закадзіраванага наймення, калі ў выніку чыста фармальных змяненняў слова, заснаваных толькі на знешнім, гукавым падабенстве, адсутнічаюць матывацыйныя або асацыятыўныя сувязі дзвюх лексічных адзінак?

Дастаткова верагодна, што адказ на гэта пытанне можна бачыць у існаванні такой рысы фальклорнага тэксту, адзначанай даследчыкамі, як парадыгматычнасць, блокавасць абазначэнняў пры нятоеснасці дэнататаў [3, *34*], што выяўляецца як ужыванне ў беларускіх і рускіх фальклорных тэкстах спалучэнняў тыпу *золото-серебро, гуси-лебеди, каліна-маліна, на лузе-сухалозе*. Патэнцыяльная неаднаслоўнасць фальклорнага слова сведчыць пра тэндэнцыю да максімальнага па-

шырэння рэпрэзентатыўнасці, што мяжуе з семантычнай неакрэсленасцю. Па-свойму паказальна тое, што менавіта такія лексічныя адзінкі, наогул уласцівыя мове фальклору, выконваюць ў тэкстах загадак ролю найбольш важных у сэнсавых адносінах кампанентаў, ужываючыся пераважна ў іх складзе ў ініцыяльнай пазіцыі.

Характарызуючыся незвычайнасцю фармальнай і семантычнай структуры, яркай экспрэсіўнасцю, лексічныя паўторы і таўталагічныя канструкцыі набываюць функцыю тэкставых акцэнтуатараў, якія дапамагаюць адрасанту тэксту загадкі падкрэсліць свае камунікатыўныя інтэнцыі, а адрасатам – з высокай мерай верагоднасці расшыфраваць утоеную інфармацыю.

**ЛІТАРАТУРА**

1. Загадкі. / склад. М. Я. Грынблат, А. І. Гурскі. Мн., 1972.

2. Стилистический энциклопедический словарь русского языка. М., 2003.

3. *Хроленко А. Т.* Семантика фольклорного слова. Воронеж, 1992.

4. *Яновіч А.* Беларускія народныя загадкі і пытанні стылістыкі тэксту. // Е. Ф. Карский и современное языкознание. Материалы шестых научных чтений 25–26 января 1996 г. Гродно, 1996. Т. 1.

***Усевалад Рагойша***

## СТАРАЖЫТНЫЯ РУНЫ Ў МАСТАЦКІМ СВЕТАЎСПРЫМАННІ УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА

Як вядома, адзін са знакамітых твораў Уладзіміра Караткевіча, а менавіта яго п’еса, прысвечаная Кастусю Каліноўскаму, у першапачатковым варыянце меў аўтарскую назву «Руна пра Кастуся».

Слова «руна» ўвайшло ў нашу мову з іншанацыянальных культур і, відавочна, мае сэнс звярнуцца пры расшыфроўцы яго changeставага напаўнення да спецыяльнай літаратуры. Сучасныя даведачныя слоўнікі прапануюць наступнае тлумачэнне тэрмінаў «руна», «руны»: «1. Старажытныя пісьмёны пераважна скандынаваў, якія захаваліся ў надпісах на камянях, зброі, іншых прадметах. 2. Старадаўнія народныя эпічныя песні ў карэлаў, фінаў, эстонцаў». Пры гэтым слоўнік адпраўляе чытача да асэнсавання такой з’явы, як «рунічнае пісьмо» [6, *568*]. Зразумела, на вывучэнне гэтай праблемы была скіравана праца не аднаго пакалення навукоўцаў, гісторыкаў, лінгвістаў.

У апошнія гады мы назіраем у грамадстве шырокія памкненні да спасціжэння эзатэрычных ведаў. У гэтым кантэксце ўспрымаецца як новы кірунак і захапленне рунамі. Цікава прасачыць, як элементы старажытнай культуры ўплятаюцца ў побыт і менталітэт сучаснага чалавека. Сродкі масавай інфармацыі, асвятляючы тэму «Тайныя веды», ствараючы рэкламу align рознага рода магам, даюць шырокую характарыстыку рунічным надпісам, якія выкарыстоўваюцца як упрыгожанне на асобных побытавых прадметах, адзенні, аксесуарах, як рунічныя татуіроўкі на целе чалавека і інш. Пры гэтым журналісты словамі магаў папярэджваюць: «Не карыстайцеся рунамі як гульнёй, яны маюць свой сакральны сэнс…». Спажывачу сродкаў масавай інфармацыі слова «руна» прапануецца ўспрымаць як паходнае ад старанарвежскага «рун», што ў перакладзе азначае «шэпт» або «сакрэт». Паколькі ў стараанглійскай мове гэта слова мела значэнне «таінства», то, у выніку адзначанага, сёння прапануецца ўспрымаць слова «руна» як «тайну, расказаную шэптам». Спасылаючыся на старажытнае паданне пра выратаванне бога Одзіна, у публікацыях такога рода зазначаецца, што руны з’яўляюцца магічнымі аракуламі, што кожная руна мае цэлы спектр значэнняў, ад першаснага прымітыўнага побытавага ўзроўню да вышэйшай ступені эзатэрычнай мудрасці. Руны валодаюць такой агромністай энергіяй, што пры правільным карыстанні імі чалавек атрымлівае выключную сілу, славу, становіцца героем: ён атрымлівае шанец, яго імя апавіта любоўю і г. д. [4, *22*].

Зварот да творчасці Ул. Караткевіча абавязвае нас найперш разглядаць слова «руна» ў літаратуразнаўчым аспекце. Вось як тлумачацца руны ў «Краткой литературной энциклопедии»: «Руны – эпічныя песні карэла-фінаў… Генетычна яны звязаны з архаічнымі касмаганічнымі міфамі. У старажытнасці ў рунах пачалі складвацца вобразы эпічных герояў…» [3, *435*]. Відавочна, сваёй касмаганічнасцю, эпічнасцю, героіка-гістарычным пачаткам і захапіў гэты жанр увагу беларускага пісьменніка. Распрацоўваючы нацыянальныя гістарычныя жанры, Караткевіч неаднойчы выкарыстоўваў фальклорныя легенды і паданні, узмацняючы іхняе мастацкае ўздзеянне на чытача праз увядзенне ў сюжэты ўласных твораў – і раманаў, і п’ес – прыёмаў дэтэктыўнага характару. Эпічным народазнаўчым зместам, як мы бачылі, пазначаны і скандынаўскія руны. Сваё разуменне руны як жанру пісьменнік вы-

казаў у спецыяльна напісаных «Заўвагах», адрасаваных акцёрам-выканаўцам драматычнага твора пра Кастуся Каліноўскага на тэатральнай сцэне. «Нягледзячы на тое, што гэта – «трагедыя» – «рвать страсть в клочки» не рэкамендуецца. Гэта руна, то бок, паданне, песня, а людзі паданняў павінны быць значна цішэйшыя, чым жывыя, больш задушэўныя і стрымана рамантычныя…» – характарызаваў Караткевіч герояў «Руны пра Кастуся» [2, *573*].

У той жа час, Караткевіч ставіў руну побач з гістарычнай песняй украінцаў, згадваючы, у прыватнасці, гетмана Украіны Пятра Канашэвіча-Сагайдачнага. Як драматург ён выдатна разумеў недапушчальнасць дыдактызму ў творы, таму імкнуўся насыціць п'есу прыёмамі гумару. Паказальна, што ў «Заўвагах» ён спасылаецца менавіта на ўкраінскую гістарычную песню жартоўнага характару. Аднак галоўны сэнс украінскага фальклорнага твора не ў смешным – *у тютюні і люльці, пирогах із сирам*, пра якія нібыта клапоціцца воін. Для народнага песеннага мастацтва характэрна ліра-эпічная падача змагароў. Галоўная думка закладзена ў радку, які неаднойчы паўтараецца як рэфрэн: *Там попід горою яром-долиною козаки йдуть!*

Ул. Караткевіч выдатна разумеў фальклорны прыём мастацага паралелізму. Карыстаючыся фарбамі з палітры вуснай народнай творчасці, пісьменнік стварае вобраз легендарнага героя. Як і ў паданні, легендзе, украінскай думе, з-пад пяра Караткевіча вырастае вобраз нацыянальнага героя. Пісьменнік падкрэслівае, што ў яго творы, як і ў руне, не месца «фальшывай ідэі велічы». З другога боку, пісьменнік засцерагае рэжысёраў і актораў ад памылковага разумення застою як праявы спакою ў грамадстве. І ў гэтым адна з праяў заўсёднай актуальнасці твора драматурга. Галоўнага героя свайго твора Караткевіч (і ў прамым тэксце, і праз падтэкст, з выкарыстаннем прыёмаў інтэртэкстуальнасці) падавае як рэальную асобу, як вынік гістарычных варункаў, як сацыяна-грамадскі прадукт часу. Бо «Руна пра Кастуся» – гэта найперш для Караткевіча «гістарычная хроніка». З другога боку, Караткевіч падкрэслівае, што яго п'еса «не трактат, а руна». Таму драматург лічыў вельмі важным даць найбольш адэкватнае ў ідэйным плане «ўяўленне» пра героя. А героя, зноў-такі, у руне, у думе падаюць праз асабліва важкія ацэначныя характарыстыкі. «Героя ўяўляюць высокім і гожым. Няхай будзе так», – выпрацоўваў уласныя прыёмы

фальклярызму Караткевіч. Ён падкрэсліваў, што Каліноўскі і «ваявода, і герой, і талент, але ніяк не правадыр, не манумент… Ён чалавек жывы і разнастайны, але недзе, падтэкстам, мы павінны ўвесь час адчуваць, што гэта пра такіх, як ён, сказаў паэт: «Твой сын живет, чтоб пасть в неравном бою, всю горечь мук принять без сожаленья» [2, *575*]*.

Відавочна, фальклярызм п’есы «Кастусь Каліноўскі» можна прасачыць на шматлікіх узроўнях. У творы шырока выкарыстоўваюцца сталыя народныя эпітэты і параўнанні, прымаўкі і прыказкі, анекдоты. П’еса насычана аўтарскай стылізацыяй народных песень, галашэнняў, праклёнаў. Напаўняючы твор элементамі беларускай вуснай народнай творчасці, аўтар паглыбляе народнасць п’есы праз фармальны элемент. Майстэрскае выкарыстанне фальклорнага матэрыялу, набыткаў беларускай народнай культуры і этнаграфіі – песенныя матывы («Дарота»), танцы і гульні («Бітва», «Мяцеліца» і інш.) – у сваю чаргу ўзмацняе ідэйнае гучанне п’есы. Гэтаму спрыяе і фальклорная практыка звароту да вобразаў-сімвалаў: квецень яблыні – як сімвал вясны і адраджэння Радзімы, калыханка, якую спявае Беларусь, – як сімвал еднасці героя і Бацькаўшчыны і інш. Фальклорны кампанент дапамагае лагічнаму развіццю сюжэтных ліній: гумар Зарубы раскрывае яго сімпатыі да простага люду і ратуе яго ад смерці, вяселле герояў ратуе іх ад праследу ворагаў і г. д. Зрэшты, нельга не ўбачыць, што зварот да фальклору дапамагае Караткевічу ўвасобіць вобраз народа, які ў п’есе з развіццём падзей становіцца адной з галоўных дзейных асоб.

Пытанне «Караткевіч і вусная народная творчасць» настолькі аб’ёмнае, шырокае, што вартае спецыяльнага навуковага даследавання, нават дысертацыйнага. Зрэшты, пэўныя цікавыя спробы ў гэтым кірунку ўжо зроблены на старонках папярэдніх выданняў «Фальклярыстычных даследаванняў», што варта спецыяльна адзначыць. Скажам, нельга не пагадзіцца з Э. Дзюкавай, якая выказала думку, што зварот Караткевіча да паэтыкі скандынаўскай народнай песні руны – «гэта форма глыбокага пранікнення ў народную памяць. Мэтай Караткевіча былі таксама пошук формаў прабуджэння народнай памяці – гістарычнай, этнічнай, нацыянальнай, актыўнае далучэнне чытача да духоўных каштоўнасцей роднага народа» [1, *143*].

Прыгадаем яшчэ адну адметнасць паэтыкі рунаў, якая выяўляецца ў спосабе стварэння і выканання іх: «Два спевакі сядалі адзін насупраць

другога і спявалі руны, акампаніруючы сабе на струнным музычным інструменце – кантэле. Калі спявак-імправізатар заканчваў свой радок, яго таварыш, злёгку вар'іруючы, паўтараў яго, даючы тым самым першаму час, каб скласці новы» [5, *339*]. Несумненна, Ул. Караткевіч, майстар алюзій і рэмінісцэнцый, звяртаючыся да руны, меў патаемныя спадзяванні і на творчы дыялог у стварэнні нацыянальнага эпасу – тыпу «Калевалы» – з пісьменнікамі-наступнікамі. Эпасу, галоўным героем якога будзе той жа Кастусь Каліноўскі.

На заканчэнне публікацыі звернем увагу на падзагаловак разгледжанай п'есы Караткевіча «Кастусь Каліноўскі», першапачаткова названай як «Руна пра Кастуся», – «Смерць і неўміручасць». Вось фінальны маналог Кастуся Каліноўскага, што заканчваецца фразай, якая пабудавана з апорай на сусветна вядомы міфалагічны вобраз-сімвал:

*Вялікі мой народ, зямля мая.*
*Гняздо пакут, змагання і свабоды,*
*Зямля маіх нябёс, маёй каханай,*
*Маіх сяброў, маёй спявучай мовы…*
*Што бачу я ўдалечыні? Пажары,*
*Паўстанні, сечы, зарыва, нашэсці.*
*Меч ворага амаль ля сэрца пройдзе,*
*Ты будзеш паміраць. Ды толькі ведай,*
*Бяссмертны ты, як фенікс, мой народ*…[2, *96–97*].

У падзагалоўку да п'есы Ул. Караткевіча прачытваецца сувязь вякоў і пакаленняў, адчуваюцца алюзіі на адвечны сэнс старажытных рунаў. І назва п'есы, і яе падназва скіроўваюць нас на пошукі прыхаванага зместу. А той, хто спрычыніцца да яго найпаўнейшага спазнання, як і прачытання рунічнага пісьма, магчыма, адчуе на сабе ўплыў энергіі сакральнага значэння…

**ЗАЎВАГА**

* У тэксце, змешчаным у Зборы твораў Уладзіміра Караткевіча, памылкова набрана замест слова «сожаленье» слова «воскресенье».

**ЛІТАРАТУРА**

1. *Дюкова Э.* Фольклор в художественной структуре историко-биографической пьесы В. Короткевича «Кастусь Калиновский» // Фалькларыстычныя даследаванні: Кантэкст. Тыпалогія. Сувязі. Мн., 2006.

2. *Караткевіч Уладзімір*. Збор твораў: у 8 т. Т. 8. Кн. 1. Мн., 1990.

3. Краткая литературная энциклопедия: в 9 т. Т. 6. М., 1971.

4. *Орлова Ольга*. Талисман Бога Одина // Общероссийская газета «Моя семья». 2007.

5. Словарь литературоведческих терминов / Ред.-сост. Л. И. Тимофеев и С. В. Тураев. М., 1974.

6. Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы / Пад рэд. М. Р. Судніка, М. Н. Крыўко. Мн., 1999.

***Эла Дзюкава***

## «ХАДЖЭННЕ ІГУМЕНА ДАНІЛЫ» І ФАЛЬКЛОР

Тэксты, што дайшлі да нас з часоў Кіеўскай Русі, з'яўляюцца выдатнымі гісторыка-літаратурнымі помнікамі, якія раскрываюць як уласныя карані ўсходнеславянскай старажытнай культуры, так і яе зарыентаванасць на дасягненні еўрапейскай думкі. Многія творы сведчаць пра знітаванасць аўтарскага тэксту з пашыранымі на момант стварэння рознага роду ўзорамі вуснай народнай творчасці.

Для высвятлення ўзроўню фалькларызацыі твораў усходнеславянскага мастацтва ранняга Сярэднявечча паказальным з'яўляецца, як нам падаецца, супастаўленне такіх тэкстаў, як «Хаджэнне ігумена Данілы» і «Слова пра закон і ласку…». Падставу для тыпалагічнага аналізу названых твораў даюць наступныя моманты. Найперш, абодва творы былі напісаны амаль у адзін час – адлегласць у часе вызначаецца ў некалькіх дзесяцігоддзях: падзеі першага пазначаны 1106–1108 гг., другі быў напісаны паміж 1037 і 1050 гг. Па-другае, стваральнікамі абодвух твораў былі прадстаўнікі адной і той самай старакіеўскай культуры, ці, як сёння прынята гаварыць на Украіне, культуры Княскай Украіны. Да таго ж, відавочным з'яўляецца і блізкасць аўтараў па месцы іх нараджэння – у межах чарнігава-кіеўскіх зямель. Тыпалагічнае падабенства твораў назіраецца і па агульнай скіраванасці – падтрымка хрысціянства, багаслоўская і палітычная патрыятычная ідэя.

Разам з тым, пры супастаўленні твораў мы бачым і выразную непаўторнасць кожнага. Падкрэслім, што нават пры падабенстве, блізкасці ідэйнага кірунку названых твораў, аўтары іх ставілі перад сабою розныя задачы. Даніла ажыццявіў паломніцтва ў Святую Зямлю і здзейсніў запісы «не ложно, но истине, яко видех, тако и написах о месте

святых» [4] – безумоўна, з мэтай укаранення хрысціянства сярод сваіх землякоў, узмацнення іхняй веры. Мітрапаліт Іларыён сваё памкненне раскрыць перад прыхажанамі сутнасць хрысціянскага веравучэння, яго перавагі над іншымі верамі выказаў у напісаным ім «Слове…», поўная назва якога дае падрабязнае ўяўленне пра змест твора: «Пра закон, які даў Майсей, і пра ласку ды ісціну, што былі Ісусам Хрыстом, і як закон абышоў, а ласка ды ісціна ўсю зямлю напоўнілі, і вера ва ўсе мовы пашырылася, і ў мову русічаў. І пахвала кагану нашаму Уладзіміру, што мы былі ахрышчаны ім. (І малітва да Бога ад усёй зямлі нашай. Гасподзь, благаславі, Ойча)» [1, *18*]. Рознасць задач, якія ставілі перад сабою аўтары, абумовіла жанравыя адметнасці твораў. Адзначым пры гэтым, што названыя жанры заявілі пра сябе як адны з найбольш вызначальных у старажытнай літаратуры ўсходніх славян. Тэкст Данілы спарадзіў у XII–XIII стст. цэлы пласт паломніцкай літаратуры, якая рэалізоўвалася ў жанры «*хаджэнняў»*. У наступныя ж стагоддзі папулярнасць такога роду твораў не змяншаецца, хаця і назіраецца тэндэнцыя іх жанравай мадыфікацыі. «Слова…» Іларыёна належыць да жанру «*аратарска-прапаведніцкай прозы»*. Уплыў гэтага твора прачытваецца, як адзначаюць даследчыкі, і ў творах Кірылы Тураўскага, і ў Іпацьеўскім летапісе. Яго цытаваў сербскі пісьменнік XIII ст. Доменціян Хілендарскі і рускі пісьменнік Епіфаній Прамудры.

Кожны з твораў раскрывае ўласцівую яму жанравую паэтыку. «Слова…» Іларыёна насычана шматлікімі параўнаннямі, супрацьпастаўленнямі, рытарычнымі запытаннямі. Аўтар «Слова…» імкнуўся да ўдасканалення людской душы, яго пропаведзь была скіравана на фарміраванне менталітэта русічаў. «Развенчваючы палітыку Канстанцінопаля, скіраваную на рэлігійную, культурную і палітычную экспансію ў суседнія з імперыяй краіны, Іларыён узнімае і абгрунтоўвае тэзіс пра поўную роўнасць народаў, якія спавядаюць хрысціянскую веру. Адсюль вынікае і сцвярджэнне пра раўнапраўнасць Кіеўскай Русі з іншымі дзяржавамі і народамі, што і з’яўляецца асноўнай ідэяй твора» [6, *121*]. І калі першая частка «Слова…» мае дыдактычны характар, высвятляе перавагі Новага Запавета над Старым, то дзве наступныя, прысвечаныя кіеўскім князям Уладзіміру Вялікаму і Яраславу Мудраму, асабліва яскрава раскрываюць пісьменніцкую індывідуальнасць аўтара. Мы маем усе падставы гаварыць пра экспрэсіўна-эмацыянальны стыль

«Слова…». Сярод адметных якасцей гэтага твора тыя, якія Д. С. Ліхачоў вылучыў як найбольш характэрныя ў паэтыцы старажытнай літаратуры, – «эмацыянальнасць, павышаная да экзальтацыі, экспрэсія, якая паядноўваецца з абстрагіраваннем, адцягненасць пачуццяў, скіраваная на адцягненасць багаслоўскай думкі» [5, *106*]. Разглядаючы аўтарскі стыль, даследчыкі звяртаюць увагу і на пэўную рытмізацыю празаічнага тэкста «Слова…». Гэтыя элементы паэтыкі аратарскай прозы, як і стылёвыя парабалы, гіпербалічныя перабольшванні, іншыя мастацкія прыёмы, якімі пазначаны тэкст «Слова…», даюць падставы гаварыць пра наяўнасць у творы прыкметаў арнаментальнага стылю (які актыўна заявіў пра сябе ў старарускай літаратуры пазней, у XIV–XV стст.), сцвярджаць пра ўплывы на стваральніка «Слова…» *грэка-візантыйскай эстэтыкі* з яе выразнай арыентацыяй на пышнасць, урачыстасць, вышуканасць выказванняў.

У той жа час нельга не адзначыць, што многае ў твор прыйшло і ад вобразнай мовы народа, зафіксаванай у розных жанрах тагачаснай вуснай народнай творчасці. Адсюль трапіла ў літаратуру і практыка выкарыстання ацэначных, катэгарыяльных прыметнікаў як эмацыянальных паказчыкаў. Так, у «Слове…» сустракаем такія выказванні, як *сладкая чаша, живая криница* і інш.

«Слова…», у адрозненне ад «Хаджэння…», разлічана і на свядомасць, і на ўнутраны свет чалавека. Гэта твор, які можна аднесці да службовай багаслоўскай літаратуры. У жанравым плане «Хаджэнне…» належыць да іншага віду – да літаратуры свецкага характару. Хаця яно нібыта таксама прысвечана багаслоўсакай тэматыцы, аднак выканана ў іншай стылёвай манеры. «Безлобивый показа ми Бог видети, его же жадах много дний мыслию моею», – пісаў ва ўступнай частцы да асноўнага тэкста Даніла [4, *26*]. Падарожныя запісы фіксуюць у пераважнай большасці канкрэтыку рэчаіснасці і факту. Менавіта таму некаторыя даследчыкі схільныя бачыць у «Хаджэнні…» своеасаблівы *даведнік.* Відавочна, гэтым тлумачыцца і тая акалічнасць, што сёння праз такі сродак масавай інфармацыі, як *Internet,* «Хаджэнне…» Данілы падаецца ў скарочаным выглядзе – як своеасаблівы варыянт завочнай экскурсіі па Святых мясцінах. Арыгінальны тэкст «Хаджэння…» змяшчае і некаторыя моманты, якія маюць аўтабіяграфічны характар. Аднак галоўны змест твора ўсё-такі складаецца з апісанняў падарожжа

па самой Палесціне. Апісаннні гэтыя закранаюць геапалітычную сітуацыю на Блізкім Усходзе, даюць дакладнае ўяўленне пра тапаграфію Ерусаліма, даўняй Галілеі, Сірыі. Аўтар апісвае мясціны, якія высвечваюцца і ў рэальнасці, і ў Бібліі, звязаныя са старазапаветнымі і новазапаветнымі падзеямі. Лічым, што манера падачы матэрыялу здзейснена тут у духу *заходнееўрапейскай традыцыі*: эмацыянальнае ўспрыняцце адступае на другі план, галоўнае ў творы – рацыянальнае пазнанне, ці, дакладней, пазнанне суаднесенасці інфармацыі біблійнай з жыццёвай канкрэтыкай. «Жаданне ўсё праверыць самому, ва ўсім пераканацца асабіста складае ці не найбольш характэрную рысу «Хаджэння…», – адзначае адзін з даследчыкаў твора [3, *34*]. Аўтар з Чарнігаўшчыны набывае новыя веды, ён пазнае свет, пашырае свой кругагляд і дапамагае пашырыць веды іншым, чытачам-землякам, якім адрасаваны ягоны дзённік. Запісы Данілы маюць духоўна-практычнае значэнне. Таму і стыль гэтага твора вызначаецца лаканізмам, адноснай прастатой мовы, стылістычнай строгасцю. І, відавочна, зусім заканамернымі з’яўляліся тыя факты, што да XV ст. «Хаджэнне…» Данілы выкарыстоўвалася як падручнік для паломнікаў, а да XVIII ст. – і як гісторыяграфічны твор.

Цікавасць да твора выклікана, безумоўна, і легендарна-апакрыфічным элементам «Хаджэння…». Заўважым, што пры сучасным павароце грамадства да рэлігіі, адкрытасці да Бібліі шматлікія выказванні даследчыкаў пра «фантастычнасць апісаных цудаў» страцілі сваю вартасць. Аднак мы не ставім сабе за мэту разглядаць легенды ў «Хаджэнні…», якія маюць біблійнае паходжанне, звязаныя з асобамі Ісуса Хрыста і Багародзіцы. Не будзем адшукваць і прыкметы «народнацаркоўнага» (А. Пыпін) іх успрыняцця. Падача такога матэрыялу ігуменам Данілам залежала найперш ад традыцыйнасці тых багаслоўскіх уяўленняў, якія закладзены ў гэтыя тэксты зместам самой Бібліі. Спынімся асобна на пытанні прысутнасці ўласна народнага элемента ў творы «Хаджэнне…».

Як мы ўжо падкрэслілі, у жанравай шкале старарускай літаратуры «Хаджэнне…» аднесена да свецкай літаратуры. Свецкая ж літаратура старажытнасці досыць актыўна карыстаецца мастацкімі прыёмамі фальклорных твораў. Д. С. Ліхачоў звяртае ўвагу на «трохслойную» мову «Павучэння» Уладзіміра Манамаха. У гэтым творы прысутныя і царкоўнаславянская стыхія, і мова дзелавога тэксту, і народна-паэтычны элемент. Моцна абапіраецца на фальклорныя здабыткі тагачасных

русічаў знакамітае «Слова пра паход Ігара». «Хаджэнне…», хаця і мае падставы быць аднесеным да свецкіх жанраў, па сваіх мастацкіх паказчыках у кантэксце такой літаратуры стаіць неяк асобна. Паказальным з'яўляецца і той факт, што ў сваёй кнізе «Поэтика древнерусской литературы» Д. С. Ліхачоў аналізу «Хаджэння…» амаль не ўдзяляе ўвагі. Прычына – у «неспадзяванай» своеасаблівасці стылёвай манеры аўтара, звязанай з самім прадметам твора «Хаджэнне…».

Ігумен Даніла, ажыццяўляючы паломніцтва і апісваючы Святую Зямлю, міжволі здзяйсняў параўнанне аб'ектаў матэрыяльнага свету са светам духоўным. Аўтар не ставіў сабе за мэту раскрываць унутраную рэлігійную сутнасць усяго, што звязана з біблійнымі паданнямі, а таму і не звяртаўся да традыцыйнай у такіх выпадках ускладненай вобразнасці, аналогій, метафар і іншых мастацкіх тропаў. Канкрэтыка апісанняў абавязвала аўтара да рэалістычнасці (пры ўмоўнай дапасаванасці гэтага тэрміна да тагачаснага тэксту) пісьма. І ўсё-такі сувязь з народнай культурай русічаў у творы прысутічае. Тыя рэдкія моманты лірызацыі тэксту, своеасаблівая паэтызацыя апісанняў убачанага здзяйсняецца не без дапамогі роднага, а часам і фальклорнага элемента. Так, інфармацыйнасць тэксту сагрэта аўтарскім успрыняццем: рака Іардан параўноўваецца з украінскай ракою Случчу, характарыстыка Фаворскай гары даецца праз упадабненне яе са стогам і інш. З народнага эмацыянальна-пачуццёвага асэнсавання рэчаіснасці былі перанесены ў аўтарскі твор і пастаянныя эпітэты: *добрии человеци – добрыи делы – доброе вино, истина крива, слезами теплыми, светло и чюдно, хитро и дивно, красно зело и хитро, путь тяжек и страшен зело, лес велик и част, вода студена зело, место равно на ниве, богат вельми, лукаво течет и бистро вельми, красотою и добром несказанна, горы красни* і інш. Як бачым, фальклорны элемент у «Хаджэнні…» найперш раскрываецца менавіта праз эпітэты. А як падкрэсліў прызнаны спецыяліст у галіне паэтыкі мастацкага твора А. Весялоўскі, «гісторыя эпітэта – гэта гісторыя паэтычнага стылю ў скарочаным выглядзе» [2, *58*].

Высвятляючы пытанні прысутнасці элементаў вуснай народнай творчасці ў тэксце «Хаджэння…», пераконваемся, што ёсць усе падставы гаварыць пра фальклярызм «Хаджэння…», хаця сувязь з фальклорам тут і не выяўляецца праз канкрэтны зварот да пэўных фальклорных жанраў. І калі сувязь «Хаджэння…» з фальклорам прасочваюцца

не праз сюжэтныя перыпетыі, а на зрэзе выкарыстання асобных выяўленчых сродкаў пісьма, то характарыстыка ўплыву «Хаджэння…» на вусную народную творчасць ажыццяўляецца ў адваротным парадку. Дарэчным тут будзе прыгадаць хаця б рускую народную быліну «О сорока каляках», якая ўзнікла не без уплыву пашыранага ў народзе тэкста «Хаджэння…». «Дородные молодцы» з быліны, як і ігумен Даніла, рушылі ў дарогу, каб «Святой святыне помолиться, Господню гробу приложиться, // Во Ердань-реке искупатися».

Аналіз «Хаджэння…» з'яўляецца цікавай ілюстрацыяй да сцвярджэння, выказанага даследчыкам М. Тычынам, пра расшыраны характар паняцця фальклорызму. Сувязь арыгінальнага тэксту з вуснай народнай творчасцю можа адбывацца не праз непасрэдны зварот да канкрэтных фальклорных жанравых разнавіднасцей, а на так званым побытавым, лінгвістычным, гісторыяграфічным узроўнях [7, *657*].

Такім чынам, разгляд тэмы «Хаджэнне…» і фальклор» дае падставы зрабіць наступныя высновы. Як і ў фальклоры, у «Хаджэнні…» нацыянальныя адметнасці выяўляюцца праз глыбінную гуманістычную скіраванасць твора. У тэксце ігумена Данілы сувязь з роднай культурай раскрываецца і праз мастацкае мысленне. Гэта знаходзіць свае праявы як у асаблівасцях асацыятыўнага раду, так і праз зварот да роднага для аўтара фальклорнага лексічнага пласта, праз стылёвае падабенства з фальклорнымі граматычнымі мадэлямі. Паэтычны стыль «Хаджэння…» не ўступае ў «дысанансную неўзгоджанасць» з дзелавітай канкрэтнасцю аповеду ігумена. Усе адзначаныя элементы ўведзены аўтарам у твор ва ўзважаных прапорцыях, што стварае знітаванасць мастацкай структуры тэксту.

**ЛІТАРАТУРА**

1. Анталогія даўняй беларускай літаратуры. XI – першая палова XVIII стагоддзя. Мн., 2003.

2. *Веселовский А. Н.* Из истории эпитета. // Собр. соч. СПб, 1913. Т. 1.

3. *Водовозов В. В.* «Хождение» Даниила и первый крестовый поход. // Русская литература и устное народное творчество. М., 1962, № 178.

4. Житье и хоженье Данила Русьскыя земли игумена // Библиотека литературы Древней Руси: в 20 т. СПб., 1997. Т.4: XII век.

5. *Лихачев Д. С.* Поэтика древнерусской литературы. М., 1979.

6. Українська література у портретах і довідках: довідник. К., 2000.

7. Фальклорызм (другое існаванне фальклору) // Беларускі фальклор: энцыкл. Мн., 2006. Т. 2.

*Павел Навойчык*

# АДЛЮСТРАВАННЕ МАРАЛЬНЫХ КАТЭГОРЫЙ ДАБРА І ЗЛА Ў АПАВЯДАННІ В. БЫКАВА «ЖОЎТЫ ПЯСОЧАК»

Проза В. Быкава 90-х гадоў XX ст. прыкметна адрозніваецца ад таго, што пісалася ім раней. Змены закранулі і тэматыку, і форму твора: пісьменнік звярнуўся да асэнсавання быцця чалавека пераважна ў мірныя перыяды, выкарыстоўваючы для гэтага такі жанр малой прозы, як прыпавесць. Ва ўмовах, калі літаратуру напаўняюць творы невысокага мастацкага ўзроўню, разлічаныя на чытача, не вельмі заклапочанага праблемамі духоўнага жыцця, В. Быкаў застаецца на вышыні. З ім можна не пагаджацца ў поглядах і ацэнках, аднак у мастацкай пераканаўчасці і глыбіні ўзнятых праблем сумнявацца не даводзіцца. Апошняя акалічнасць прымушае нас сёння, як і ва ўсе мінулыя гады, чытаць Быкава ўдумліва. Ад праблемы маральнага выбару героя пісьменнік звяртаецца да асэнсавання жыцця ў часы даваенныя – калектывізацыі, а то і больш раннія – станаўлення савецкай улады. І цяпер прадметам даследавання становяцца не паводзіны героя ў пэўных складаных абставінах, а выяўленне на прыкладзе асобнага чалавека жыццёвых асноў усяго грамадства. Пісьменнік зыходзіць з таго, што ў савецкай дзяржаве ў мінулыя перыяды была кардынальна парушана сістэма агульначалавечых маральных каштоўнасцей. У сваіх апавяданнях ён імкнецца паказаць, як гэтая дэфармацыя паўплывала на жыццё чалавека: быт, мараль, светапогляд.

У апавяданні «Жоўты пясочак» і іншых творах В. Быкава 80-х – 90-х гадоў мінулага стагоддзя даваенны перыяд савецкай рэчаіснасці паказаны як час панавання зла, несправядлівасці. Калектывізацыя і раскулачванне, барацьба з «ворагамі народа» былі адмысловай формай сапраўднай вайны дзяржавы супраць сваіх грамадзян. Трагізм вобраза Хведара Роўбы («Аблава») ў тым, што яго родны сын, узначаліўшы аблаву, знішчыў у душы бацькі ўсякае спадзяванне на існаванне справядлівасці. Дабраахвотная гібель Роўбы ў багне – ужо не маральная перамога героя, як у ваенных творах Быкава (параўнаем, да прыкладу, са смерцю Сотнікава з аднайменнай аповесці), таму што Роўба не адстойвае і не сцвярджае высокіх маральных каштоўнасцей (патрыятызму, гуманізму і да т. п.). Хведар «проста» не бачыць далейшага сэнсу

свайго жыцця. Яму няма куды ўцякаць: сын палюе на бацьку – асновы маралі знішчаны! Як і навошта жыць?

У гэтым кірунку – асэнсавання дэфармацыі маралі ў савецкай дзяржаве, калі жыццё аказваецца пазбаўлена спрадвечнага сэнсу і спрадвечных каштоўнасцей, і адбываецца эвалюцыя творчасці В. Быкава ў апошняе дзесяцігоддзе ХХ ст. Паводле слушнай заўвагі В. Локун, «проза сярэдзіны і другой паловы 90-х адлюстроўвае абсурд як з’яву ўсёпаглынальную і неперможную <…> Матыў бунту знікне ў апавяданні «Жоўты пясочак» [2, *202*].

Трагедыйнае гучанне быкаўскай прозы становіцца ўсеахопным. Калі ў ранейшых творах увасабленнем зла была вайна, фашысты, з якімі можна і трэба было змагацца (што і рабілі кожны па-свойму: Сцепаніда, Сотнікаў і інш.), то цяпер пісьменнік выносіць дзеянне апавядання (аповесці) за межы ваеннага перыяду. У новых абставінах смерць, гібель героя перастае быць актам пратэсту і маральнай перамогі над злом, якое стала ўсюдыісным і ўспрымаецца як непазбежная норма мірнага быту. Супрацьстаяць ёй героі новых твораў В. Быкава нават не збіраюцца! Бессэнсоўнасць якой бы тое ні было барацьбы пісьменнік паказвае ў апавяданні «Сцяна»: герой твора, дзякуючы неймаверным высілкам, неспатольнай празе жыцця, робіць лаз скрозь турэмную сцяну, аднак трапляе не на волю, а… у турэмны падворак з шыбеніцай. Гэтая метафара прадчуваецца, дамысліваецца таксама ў аповесці «На Чорных лядах» – жыццё, гуманна падоранае сябрамі самаму маладому змагару, цалкам верагодна апынецца працягам яго пакут. Хутчэй за ўсё яго чакаюць арышт, высылка, расстрэл.

У апавяданні «Жоўты пясочак» В. Быкаў па-майстэрску знітаваў некалькі чалавечых лёсаў у адной кароценькай дарозе – ад турмы НКУС да месца расстрэлу. Разам з тым, гэта вельмі доўгая дарога – ад жыцця да смерці. У класічным варыянце падчас такой дарогі герой падводзіць своеасаблівы рахунак сумлення: асэнсоўвае свае пралікі і здабыткі. Не выключэнне і дадзены твор. «Прысутнасць» аўтара пры гэтым мінімальная. Ён імкнецца да паказу падзей вачамі персанажаў твора, раскрывае мінулае сваіх герояў у іх жа ацэнках, што паклікана пераканаць чытача ў шчырасці і праўдзівасці створанага сюжэта.

На першы погляд парадаксальна, але ніхто з герояў не працівіцца той несправядлівасці, якая з імі адбываецца. Яны пакорліва прынялі

логіку навязанага ім жыцця і, як зачараваныя, паслухмяна выконваюць самыя бязглуздыя загады ўлады. У апошняй сваёй дарозе да месца расстрэлу толькі крымінальнік Зайкоўскі адмаўляецца выцягваць машыну з гразі. Астатнія ж старанна выконваюць загад ка́та-нкусаўца Косцікава. Адсутнасць пратэсту з боку несправядліва асуджаных выяўляе сутнасць трагізму. Іх смерць не з'яўляецца бунтам. Гэта… паслухмянае выкананне савецкімі грамадзянамі свайго грамадзянскага абавязку – іх аб'явілі «ворагамі народа», і яны падпарадкоўваюцца, хаця і не згодныя з прысудам. Нават перадсмяротнае жаданне Сурвілы быць пахаваным ў асобнай яме, яго кароткая адчайная інвектыва – не пратэст супраць несправядлівасці, а крыўда, свайго роду роспачная канвульсія духу. Каб бунтаваць, трэба выразна ўсведамляць, што ўлада не памылілася, ўраўняўшы ў перадсмяротнай шарэнзе крымінальніка і паэта, хлебароба і рабочага, былога белагвардзейца і чэкіста. «Час настаў, відаць, зусім непрыдатны ні для тых, ні для іншых», – слушна заўважае Валяр'янаў.

«Непрыдатнасць» часу абумоўлена кардынальнай пераарыентацыяй маральнай каардынаты дабра і зла. Паводле норм агульначалавечай маралі, дабром з'яўляецца ўсё, што ідзе на карысць чалавеку, умацоўвае яго духоўна і фізічна, робіць шчаслівым. Усё ж, што шкодзіць шчасцю чалавека, ёсць зло. У ідэале, задача дзяржавы – быць на абароне жыцця, шчасця сваіх грамадзян як найвышэйшай каштоўнасці ад праяў зла. Аднак паводле тагачаснай ідэалогіі савецкай дзяржавы самай вялікай яе каштоўнасцю з'яўляецца… сама дзяржава, а людзі – усяго толькі «вінцікі» дзяржаўнай машыны. Гэтай падменай і тлумачыцца абсурднасць усяго, што чыніцца ў жыцці савецкіх людзей. Паводле новых норм, спрадвечнае дабро становіцца злом, за якое людзі церпяць самае жорсткае пакаранне – іх пазбаўляюць жыцця.

Да такога вываду можна прыйсці, калі сістэматызаваць вобразы герояў апавядання паводле гісторыі іх узаемастасункаў з дзяржавай. Усіх персанажаў можна падзяліць на тры групы: 1) уладзе не супрацьстаялі, але імкнуліся ад яе адмежавацца (Аўтух Казёл, Валяр'янаў); 2) уладу падтрымлівалі (Шастак, Фэлікс Гром); 3) былі «рычагамі» ўлады (Сурвіла, Косцікаў). Асобна стаіць вобраз крымінальніка Зайкоўскага, для якога любая ўлада непрымальная.

Вобразы першай групы даюць чытачу магчымасць убачыць ступень дэфармаванасці маралі ў савецкім грамадстве. Сумленная праца

на сваім надзеле зямлі, імкненне самастойна пракарміць сябе і сваю сям'ю ніколі раней не былі злачынствам, цяпер жа Аўтуха выжываюць, лічаць «варожым элементам» толькі за тое, што ён не прымае новыя калектыўныя формы гаспадарання. Такім чынам, быць самастойным, быць незалежным ад улады ў савецкай дзяржаве становіцца недапушчальным злом.

Ракавым для Валяр'янава становіцца факт атрымання пасылкі з-за мяжы. Прымаць добраахвотную дапамогу бліжняга ніколі не было злачынствам, аднак гэта дае падставы прадстаўнікам улады падазраваць Валер'янава ў шпіянажы супраць Савецкага Саюза. Па гэтай простай прычыне – недавер чалавеку – аказваецца магчымым залічыць яго да ворагаў і расстраляць.

Вобразы другой групы сведчаць, наколькі абыякавая дзяржава да сваіх грамадзян. Віна Фэлікса Грома хоць крыху абазначана: ён пісаў вершы на беларускай мове. І хаця славіў новы лад, але ж пісаў на роднай мове, а гэта ўжо небяспечна, таму што развіццё нацыянальнай культуры прадугледжвае абуджэнне ў чалавеку пачуцця годнасці, можа весці да адасобленасці розных нацый у дзяржаве. Пісьменнік завастрае абсурднасць сітуацыі, мімаходзь заўважаючы, што на роднай мове Фэлікс пачаў пісаць выпадкова, аб чым ён цяпер вельмі шкадуе: «Не адразу і, мабыць, толькі тут, у турме, Фэлікс зразумеў, што трапіў у пастку не таму, што пачаў пісаць вершы, а што пачаў іх пісаць пабеларуску. Расейскія вершы не выклікалі да сябе і дзясятай долі тае ўвагі з боку рэдактараў і крытыкаў, якую выклікалі беларускія. І ён думаў цяпер, які д'ябал падбіў яго да паэзіі, тым больш – беларускай. Калі папраўдзе, дык ён нашмат больш падабаў расейскую – Пушкіна, Лермантава і асабліва Фета. Але пісаць так, як некалі пісаў Фет, было немагчыма, яго засьмяялі б свае ж сябры-камсамольцы» [1].

Цяжэй вытлумачыць, за што атрымаў «расстрэльны» прысуд Шастак. Сумленны працаўнік, камуніст, ён нават у турме старанна дапамагае рабоце следчых, аднак усё адно аказваецца ў адной кагорце з тымі, хто не ўпісваецца ў ідэалагічныя каноны новага часу. Каб зразумець логіку карнай машыны, трэба разглядаць вобраз Шастака ў адной групе з нкусаўцамі Сурвілам і Касцікавым. Апошні пакуль яшчэ застаецца выканаўцам прысуду, але няма ніякіх гарантый, што заўтра-паслязаўтра ён не акажацца ў ліку асуджаных. Прычына таму – унутраныя

законы жыцця дзяржавы. Як пачварны цмок, рэпрэсіўны апарат знішчае людзей не за іх правіны, а таму што... гэта яго «работа», на тое ён і запушчаны. Для дзяржавы, заснаванай на запалохванні людзей, няважна сапраўдная вінаватасць кожнага з асуджаных. Каб трапіць у жорны карнай машыны не патрэбна ніякіх асаблівых прычын, дастаткова проста жыць у гэтай дзяржаве.

Паводле В. Быкава, жорсткасць у дачыненні да герояў першай групы выяўляе ідэалагічныя дамінанты тагачаснага рэжыму, што дае падставы гаварыць аб карэннай пераарыентацыі маральнай каардынаты, калі адвечныя маральныя каштоўнасці пачынаюць разглядацца як зло. Расстрэл персанажаў другой групы сведчыць пра абыякавасць прадстаўнікоў новай улады да чалавека. Індывідуум перастае ўспрымацца як асоба, а застаецца толькі як функцыя, якую ён можа выконваць. І, нарэшце, трэцяя група – непасрэдныя выканаўцы. Учарашнія калегі Сурвіла і Косцікаў сёння выступаюць у розных ролях: асуджанага і ката. Аўтар падкрэслівае: між імі няма нічога варожага. Косцікаў не лічыць былога калегу злачынцам, нават спачувае яму, але вымушаны выканаць прысуд. Ён стараецца не думаць, што на месцы Сурвілы заўтра акажацца сам. Жахлівая праўда часу заключаецца ў тым, што смяротны прысуд калегу – не памылка і не сведчанне прынцыповасці карнага апарату. Усё больш проста і банальна. Для новага рэжыму адсутнічаюць маральныя забароны. Ён запраграміраваны на знішчэнне. «Чыстка» сярод сваіх дапамагае трымаць усіх работнікаў у пакорлівасці.

Такім чынам, абсурднасць сітуацыі выяўляе безвыходнасць становішча, у якім аказаўся чалавек. Ніхто і нішто не можа засцерагчы яго ад зла. Чалавек змушаны скарыцца. Найбольш яркае ўвасабленне гэтая ідэя знаходзіць у сцэне з выцягваннем машыны з гразі. Парадаксальна, але толькі крымінальнік Зайкоўскі паводзіць сябе адэкватна, іншыя ж выклікаюць здзіўленне чытача: чаму не ўцякаюць? Навошта так старанна выпіхваюць машыну з лужыны? Гэтай сцэнай пісьменнік падкрэслівае, наколькі дэфармавалася светаўспрыманне савецкіх людзей. Яны прынялі новыя ўмовы жыцця як норму і пакорліва цягнулі лямку свайго пакутнага жыцця, дазваляючы дзяржаве здзекавацца з сябе.

Пакорлівасць і пакутнасць – вызначальныя рысы прозы В. Быкава канца ХХ ст. Калі прыгадаць, то героі-пакутнікі не новыя тыпы ў беларускай літаратуры. Яшчэ ў нашаніўскі перыяд беларускі чытач звык

да вобраза мужыка, несправядліва скрыўджанага лёсам. Ён без асаблівых змен «вандраваў» з твора ў твор і малавядомых аўтараў, і нават класікаў, а пазней быў таленавіта ўвасоблены М. Гарэцкім у вобразе Хомкі («Ціхая плынь»). У лёсе Хомкі лёгка пазнаецца біблейскі «бедны Лазар». Аднак калі ў творах нашаніўскіх аўтараў трагізм жыцця мужыка-беларуса выяўляўся ў фізічнай немагчымасці яго шчаслівага, матэрыяльна забяспечанага жыцця, то ў творах В. Быкава 90-х трагізм заключаецца ў тым, што ў гэты перыяд мараль як сукупнасць норм паводзін чалавека ў грамадстве катастрафічна дэфармавалася. Жыццё людзей абясцэнілася настолькі, а расправа над невінаватымі набрала такіх памераў, што стала «работай». Сапраўды, пісьменнік нібыта наўмысна падкрэсліваў будзённасць расстрэлу. «Здаецца, нескладаная работа, але штодня адно й тое ж. Вязуць і вязуць, нібы баранаў, калі таму будзе канец?» [1] – стомлена разважае Косцікаў. Згадка пра паслухмяных «баранаў» – не толькі прастамоўнае грубаватае параўнанне. Яна пераклікаецца з вобразамі біблейскіх ахвярных ягнят, якіх забівалі на адкупленне грахоў чалавека перад Богам. Вось толькі ягнят для ахвяры стала замала, сусветнае зло патрабавала найвышэйшай ахвяры – чалавечай.

**ЛІТАРАТУРА**

1. *Быкаў, В.* Жоўты пясочак. [Электр. рэсурс]. http://bykau.com/works/piasocak.htm

2. *Локун, В. І.* Васіль Быкаў у кантэксце славянскіх літаратур. Мн., 2005.

***Таццяна Кабржыцкая***

## ЭТНАКУЛЬТУРНЫ МАТЫЎ ПАБРАЦІМСТВА ЯК АДНА З ІДЭЙНЫХ ДАМІНАНТАЎ ТВОРА ЛЕСІ УКРАІНКІ «ВІЛА-ПОСЕСТРА»

Назва твора Лесі Украінкі ў гэтым тэксце падаецца па-украінску – *«Віла-посестра».* І гэта невыпадкова. Звернем увагу на тое, што ў назве паэтэса выкарыстала, можна лічыць, уласны амаль што неалагізм – *посестра*. І абавязак перакладчыка, ацаніўшы ідэйна-эстэтычнае напаўненне гэтага неалагізма, сродкамі роднай мовы стварыць адэкватны эквівалент. Відавочна, ставячы сабе за мэту перадаць сэнс назвы хаця б у агульных рысах, а таксама захаваць рытмамелодыку верша, слова *посестра* можна было б перакласці як *сястроўка*, або *сяброўка*. Аднак

назва твора звязаная з арыгінальнай з'явай украінскай этнакультуры. Менавіта гэта акалічнасць прымушае нас яшчэ раз задумацца над перакладам канкрэтнага слова і шырэй – над асаблівасцямі перакладу з блізкароднасных моў. Пры перакладзе літаратур народаў, аддаленых ад беларусаў геаграфічна, па ментальнасці і г. д., складанасці перадачы сэнсу ў падобных выпадках вырашаліся б праз дадатковае тлумачэнне слова, скажам, у прытэкставай зносцы. Беларусы тыпалагічна блізкія ўкраінцам і па гісторыі, і па культуры. Аднак у беларускай этнакультуры не сустракаюцца жыццёвыя сітуацыі, якія б стваралі калізіі *пасястроўства.* І таму слова *посестра,* калі выкарыстаць ў беларускім перакладзе названыя вышэй лексемы *сястроўка*, або *сяброўка*, не будзе раскрыта ва ўсёй складанай паўнаце яго ідэйна-эстэтычнага напаўнення. Відавочна, перакладазнаўчая задача стымулюе краіназнаўчы кірунак аналізу аўтарскага тэксту.

Лексема *посестра* ўзнікла ў творчай лабараторыі Лесі Украінкі па аналогіі да паняцця *пабрацімства*. Юнак з твора Лесі Украінкі знайшоў у гарах вілу,

*Обмінявся з нею пірначами,*
*Цілував її в обличчя біле,*
*Стиснув руку і назвав: посестро,*
*А вона яго: мій побратиме*… [5, *85*].

Украінцы здаўна практыкуюць у шырокім народным ужытку звычай пабрацімства, які выяўляецца ў замацаванні сяброўскіх адносін праз параўнанне гэтых адносін са стасункамі і пачуццямі, якімі пазначаны сувязі паміж роднымі братамі. Паводле гісторыка М. Кастамарава, пабрацімства – заяўленыя брацкія адносіны – ўваходзіла ў сістэму ўзаемадачыненняў паміж людзьмі яшчэ ў старажытныя часы, практыкавалася нават праславянамі. У дыялогах грэчаскага філосафа Лукіяна сустракаюцца аповеды пра скіфаў, якія спецыяльна ўкладалі паміж сабою саюзы дружбы.

Як народны скарб успрымаецца пабрацімства на Украіне і сёння, паколькі лічыцца, што гэты святы атрыбут нацыянальнай гісторыі падсвечаны звыцяжнай, гераічнай славай казакоў-запарожцаў. Уводзяць у свядомасць маладых украінцаў паняцце *пабрацімства* і навукоўцы. Вось як, напрыклад, тлумачыцца *пабрацімства* ў даведачнай украіназнаўчай літаратуры, адрасаванай школьнікам. Як вядома, запарожцы, у

пераважнай большасці, не мелі магчымасці мець сем'і, паколькі знаходзіліся шмат часу ў паходах. «Іх пастаянна чакала небяспека смерці. Аднак казак меў душу і сэрца, адчуваў неабходнасць да кагосьці прытуліцца. Таму на Сечы часта звярталіся да пабрацімства. Двое казакоў абяцалі пры гэтым клапаціцца адзін пра аднаго, вызваляць і нават ахвяраваць сваім жыццём дзеля другога, калі гэта будзе неабходна. Каб дружба мела сілу закона, ішлі ў царкву і давалі там урачыстую клятву («запаветнае слова»). Пасля гэтага яны слухалі малітву, дарылі адзін аднаму крыжы і абразы, тройчы цалаваліся і станавіліся ад гэтай хвіліны як родныя браты да канца жыцця» [2, *198–199*].

Ва ўмовах царскага ўціску нацыянальна-вызваленчых рухаў, якія выспявалі ў Расійскай імперыі, Леся Украінка не магла напрамую апеліраваць ў сваёй творчасці да нацыянальнай гісторыі. Таму, як вядома, яна шырока звярталася да мастацкіх прыёмаў алюзій і алегорый, карысталася матэрыялам з сусветнай гісторыі, найчасцей – з гісторыі старажытнага Усходу, Грэцыі, Рыма. Сюжэтныя ж калізіі твора *«Віла-посестра»* пабудаваны, як лічыцца, найперш, на сербскім фальклоры. Юнак – герой твора Лесі Украінкі – гэта не проста малады па ўзросту чалавек. Ён прыйшоў у тэкст твора Лесі Украінкі з юнацкіх, гераічных песень сербаў, якія былі створаны ў выніку лёсавызначальнай для Сербіі бітвы пры Косава. На гэта неаднойчы звярталі ўвагу лесезнаўцы, найперш вучоны, пісьменнік, перакладчык М. Драй-Хмара. Аднак ступень аўтарскай прысутнасці ў запазычаных сюжэтных матывах, шматузроўневыя інтэрпрэтацыі Лесей Украінкай іншаславянскай народнай творчасці яшчэ чакаюць свайго даследчыка.

У межах нашага даклада спынім увагу ізноў-такі на назве твора. Ідэя пабрацімства, зашыфраваная ў назве як чыннік украінскай нацыянальнай ідэі, магла б рэалізавацца праз узаемадзеянне двух юнакоў. Аднак такі ход падаўся паэтэсе больш традыцыйным.

*Не знайшов юнак з ким побрататись,*
*Не знайшов між хлопців побратима,*
*Не знайшов межи дівчат посестри,*
*А надибав вілу білу в горах* [5, *86*].

Віла – горная русалка. Сутыкненне пачаткаў мужчынскага (*юнак)* і жаночага (*віла)* далі паэтэсе магчымасць стварыць больш напружаныя, драматызаваныя сюжэтныя калізіі. На такую «кампаноўку», расста-

ноўку дзейных асоб паэтэсу скіроўвалі законы стварэння мастацкага тэксту. Спынімся на кульмінацыі твора – *віла* забівае *юнака* – і ўбачым логіку такога, на першы погляд неспадзяванага, развіцця сюжэта. Абумоўленасць гэта прачытваецца і з боку філалагічна-культуралагічнага, і ў святле ідэйна-выхаваўчым. Падкрэслім, паміж *юнаком* і *вілай* не было кахання, іхнія ўзаемаадносіны былі сфарміраваны на падставе *пабрацімства*, а яно мела свае правы і абавязкі. Як мы толькі што вызначылі, кожны з пабрацімаў быў звязаны абяцаннем ахвяраваць сваім жыццём адзін у імя другога. У творы Лесі Украінкі абываецца акт адваротнага характару. Віла не ахвяруе сабою, а пазбаўляе жыцця свайго сябра. І пры гэтым, на што варта звярнуць асаблівую ўвагу, фінальная сцэна твора апісана светлымі фарбамі.

*Погребовий спів заводить віла –*
*Люди кажуть: «Грім весняний чутно».*
*Сьози ронить віла в лютім горі –*
*Люди кажуть: «Се весняний дощик».*
*Ходять в горах світляні веселки,*
*По долинах оживають ріки,*
*В полонинах трави ярі сходять,*
*І велика понадхмарна туга*
*Нам на землю радістю спадає* [5, *92*].

Кантрастнасць настрою, аптымістычнасць канцоўкі твора ўзнікае неспадзявана. Гэтым аўтарка прымушае чытача засяродзіцца на прачытаным, заглыбіцца ў сэнс сваёй адкрытай і патаемнай задумы. Віла, не зважаючы на душэўную прыязнасць да юнака (яна ж, валодаючы надзвычайнай сілай, вызваліла юнака з цямніцы!), забівае яго. Забівае, бо ён, паранены, знямогся ў барацьбе, адбыўшы пакаранне ў турме, страціў колішнюю сілу духу і веру ў перамогу.

Літаратурны кантэкст паэтычнага твора Лесі Украінкі дапамагае спасцігнуць ідэйную скіраванасць паэмы «*Віла-посестра».* Асабліва дарэчным нам падаецца супастаўленне ў гэтым плане паэмы з вершам Лесі Украінкі «Slavus-sklavus» – «Славянін-раб».

*Тепер, куди не глянь, усюди слов'янин*
*На себе самохіть кладе кайдани,*
*І люди кажуть всі: варт він свого ярма,*
*Дивіться, як покірно тягне рало!*

*Ні, йменння слов'янина недарма*
*Синонімом раба між людьми стало!* [4, *157*].

Названы верш прачытваецца як маналог пра ганьбу, да якой прыводзіць пакорлівасць. Леся Украінка заклікала ўсёй сваёй творчасцю да няспыннага змагання. Яна клапацілася, каб славяне – у разгледжаных творах гэта і сербы, і ўкраінцы – не схіляліся долу ў надзеі праз пакору знайсці паразуменне з ворагам. Таму і забівае віла юнака, што ён страціў колішнюю веру ў перамогу. За такімі ваякамі не было і не магло быць гістарычнай перспектывы. І прыклад яго маральнага заняпаду быў не варты пераймання і для сучаснікаў, і для наступных пакаленняў. Забіваючы юнака, віла знішчыла тую ідэю, якая сёння, услед за паэмай А. Міцкевіча «Конрад Валенрод», атрымала назву *валенрадызм*. Выпісваючы ўзаемаадносіны вілы і юнака, паэтэса «дазволіла» віле на правах *посестри* знішчыць юнака фізічна. Яе ўчынак знішчыў саму ідэю здрады і пакоры. Менавіта таму ў творы «асабістае гора» пераўтвараецца ў «грамадскі ўздым» і «велика понадхмарна туга… на землю радістю спадає».

Аднак вернемся да разгляду фальклорна-культуралагічнага кантэксту твора Лесі Украінкі, які рэалізаваўся як праз нацыянальную мастацкую канкрэтыку, так і праз запазычанае, экзатычнае. Зразумела, незвычайнасцю, арыгінальнасцю сюжэт твора не ў апошнюю чаргу абавязаны фантасмагарычнаму вобразу вілы. Гэты фальклорна-міфалагічны персанаж сустракаецца не толькі ў народных вераваннях сербаў, але і ў балгараў, іншых паўднёва-славянскіх народаў. Вілы – багіні лёсу. Пастаянны эпітэт *белая,* якім характарызуе сваю гераіню паэтэса, скіраваны ў творы падкрэсліць станоўчыя якасці натуры вілы, яе высакароднасць. У энцыклапедыі «Мифы народов мира» чытаем адносна вілы, паміж іншым, і наступнае: «К людям вилы, особенно к мужчинам, относятся дружелюбно, помогают обиженным и сиротам. Если разгневать вилу, она может жестоко наказать, даже убить…» [1, *236*].

Такім чынам, мы маем усе падставы адзначыць, што твор Лесі Украінкі *«Віла-посестра»* характарызуецца адзінствам зместу і формы, у ім усё падначалена законам мастацтва. Паэтэсе ўдалося спалучыць жыццёвую праўду з мастацкай праўдай. Паэма «*Віла-посестра»* раскрывае перад чытачом майстэрства Лесі Украінкі

ў гарманічным паяднанні ідэйнай накіраванасці твора з эстэтыкай яго афармлення.

Ідэйны канцэпт з твора *«Віла-посестра»* знайшоў сваё далейшае жыццё. Так, у прыватнасці, саму Лесю Украінку даследчыкі характарызуюць як «*посестру* Спартака і Роберта Бруса» [3, *318*].

## ЛІТАРАТУРА


1. Мифы народов мира: энцикл. в 2 т. М., 1980. Т. 1.

2. *Потапенко О. І., Кузьменко В. І.* Шкільний словник з українознавства. Київ, 1995.

3. Словник української мови. Київ, 1976. Т. 7.

4. *Українка Леся*. Твори: в 10 т. Київ, 1963. Т. 1.

5. *Українка Леся*. Твори: в 10 т. Київ, 1963. Т. 2.



***Любовь Соболева***


## КОНЦЕПТУАЛЬНАЯ СТРУКТУРА ОДНОГО СТИХОТВОРЕНИЯ ИОСИФА БРОДСКОГО


В статье анализируется структура поэтического текста, принадлежащего Иосифу Бродскому и представляющего собой перевод стихотворения патриарха английской поэзии У. Х. Одена. Предметом анализа являются лексико-семантические средства создания цельности текста и некоторые закономерности формирования его семантической структуры. Особое внимание уделяется роли концептуальных оппозиций в создании смысловой динамики текста.


*Stop all the clocks, cut off the telephone*
W.H. Auden

*Часы останови, забудь про телефон*
*И бобику дай кость, чтобы не тявкал он.*

*Накрой чехлом рояль; под барабана дробь*
*И всхлипыванья пусть теперь выносят гроб.*

*Пускай аэроплан, свой объясняя вой,*
*Начертит в небесах «Он мёртв» над головой,*
*И лебедь в бабочку из крепа спрячет грусть,*
*Регулировщики – в перчатках чёрных пусть.*

*Он был мой Север, Юг, мой Запад, мой Восток,*
*Мой шестидневный труд, мой выходной восторг,*
*Слова и их мотив, местоимений сплав.*
*Любви, считал я, нет конца. Я был не прав.*

*Созвездья погаси и больше не смотри*
*Вверх. Упакуй луну и солнце разбери,*
*Слей в чашку океан, лес чисто подмети.*
*Отныне ничего в нём больше не найти.*

В тексте стихотворения с ярко выраженными романтическими мотивами выделяются и структурируются в виде оппозиций концепты разной степени обобщенности: ‘жизнь – смерть’; ‘присвоение – отчуждение’; ‘эмоциональное – рациональное’; пространство (пространство внутреннего мира человека – пространство вселенной); движение (перемещение в пространстве – изменение во времени).

**1. Оппозиция ‘жизнь – смерть’.**

В тексте осуществляется транспозиция сущностных признаков разных явлений: а) время описывается в терминах движения, перемещения в пространстве *(часы останови)*; б) потенциальное перемещение в пространстве, то есть движение звуковой волны описывается через призму памяти: психологического феномена, связанного с категорией времени *(забудь про телефон)*; в) символом прекращения недискретного звучания является ограничение в пространстве *(накрой чехлом рояль)*; г) смерть – конечный предел существования во времени и пространстве – связывается с двумя противоположными тенденциями: ограничением личностного пространства и преодолением замкнутого пространства дома.

В сознании индоевропейцев смерть понимается как прорыв в иной, внешний, мир из того замкнутого пространства, в котором осуществляется жизнь, поэтому в лексемах разных индоевропейских языков с представлениями о смерти соотносится семантика отверстия в разных ее вариантах (яма, окно, дверь, сосуд). Данные индоевропейских языков свидетельствуют, что в основе разных типов номинаций смерти лежат пространственные представления, но с отрицательной предметной коннотацией (пустое пространство, отдаленность в пространстве (частное проявление отчуждения), статика). Смерть осознается как некая периферия в пространстве, а слова

со значением ‘рядом’, ‘не в центре’, ‘на периферии’ обычно связаны со значением ‘зло’.

Можно выделить несколько тематических подгрупп фразеологизмов со значением «умереть», включающих в свою семантику сему ‘пространство’: 1. Собственно движение: ***сойти со сцены, выйти в тираж, сыграть в ящик, отправиться в елисейские поля***; 2. Уход из жизни: ***уйти из жизни, оставить жизнь, уйти от нас***; 3. Уход из земного мира: ***покинуть <белый> свет, отойти от мира <сего>***; 4. Переход к новой жизни: ***отойти (переселиться) в лучшую (будущую) жизнь***; 5. Переход в другой локус: а) уход в другой мир: ***отправиться (отойти) на тот свет, уйти (удалиться, отойти) в иной (загробный) мир***; б) уход к богу: ***уйти на ниву божию, бог прибрал***; в) уход к предкам: ***отправиться к праотцам***; г) движение вверх по вертикали: ***отойти (скрыться) в горний мир (в горнюю обитель)***; д) движение вниз по вертикали, уход в землю: ***лечь в гроб (в могилу), лечь (уйти) в землю, сойти в могилу (в гроб)***; 6. Движение отдельных частей человеческого тела: ***закрыть глаза, смежить глаза (очи); протянуть (вытянуть) ноги (ножки), задрать ноги; откинуть (отбросить) копыта <на сторону>, с копыльев (с копыт) долой; откинуть (отбросить) сандалии, откинуть штиблеты; сложить кости***; 7. отделение души от тела: ***отдать богу душу, испустить (выпустить) дух, испустить последний вздох, дух вон*** (отделение души от тела представляется, как выход из замкнутого пространства, причем душа выходит из тела разными путями: через нос, рот, горло, кости /*серб.*/; через зубы, ногти /*болг.*/; через локоть /*чешск.*/ [14, *229–234*]); 8. Конечный предел жизни: ***кончить жизнь (век), отдать концы***; 9. Смерть как сон (статика): ***заснуть (почить, уснуть) вечным (последним, мертвым) сном, уснуть на веки веков***, ***заснуть (уснуть) вечным (последним, могильным) сном***; 10. Пересечение пространственных и временных представлений: ***отойти (переселиться) в вечность, отойти к вечному блаженству*** [13, *113–114*].

Смерть – «одно из главных понятий мифологической картины мира»; момент перехода человека… в потусторонний мир; граница между ‘этим миром’ и ‘тем светом’; основное содержание и характеристика ‘того света’ [7, *358–359*]. Жизнь осознается как изначальная точка отсчета. Смерть – это предел жизни и точка отсчета новой фор-

мы существования. Понятия ‘смерть’ изначально связано с понятиями ‘время’, ‘пространство’, ‘движение’, ‘предельность’. Жизнь существует как оппозиция смерти и обладает ценностью благодаря смертному пределу. Поэтому понятие ‘смерть’ служит средством выражения предельной степени проявления материальных, эмоциональных и ментальных явлений (***смертельное оскорбление, смертельная обида, смертельная тоска, смертельная усталость…***) [см. 8–10].

Проявлением жизни является активность, движение (изменение положения в пространстве). Пространственная семантика лежит в основе понимания жизни как пути: *русск.* ***жизнь прожить – не поле перейти***; *белор.* ***жыццё пражыць – не поле перайсці***; *серб.* ***~ није живот поље прећи***; *словац. ср.* ***život nie je prechádzka ružovým sadom*** / *букв.* ***život prežiť – nie je pole prejsť***/; *укр.* ***~ вік прожить – не поле перейти***; *чеш. ср.* ***život není procházka růžovým sadem***; *англ. ср.* ***life is not all beer and skittles*** [см. 4]. В народном сознании смерть является конечной целью жизненного пути и понимается как нечто неизбежное и неотвратимое: *русск.* ***все под богом ходим***; *белор.* ***усе пад богам ходзім***; *болг. ср.* ***то като дойде, не пита***; *ср.* ***никой не е застрахован***; *серб. ср.* ***људски вијек, роса под сунцем***. *ср.* ***од смрти нема склоништа***; *словац. ср.* ***mladý môže / zomrieť / starý musí***; *чеш. ср.* ***mladý může, starý musí***; *англ. ср.* ***all men are mortal***; *русск.* ***все там будем***; *белор. ср.* ***на тым свеце ўсе роўныя будзем***, *ср.* ***магіла ўсіх прымае***; *болг.* ~ ***всички са смъртни***, *ср.* ***рано или късно и нас това ни чака***; *серб.* ~ ***сви ћемо тамо***, *ср.* ***млад може, а стар мора умријети***; *укр.* ***всі там будемо***; *чеш.* ~ ***musíme tam všichni*** [см. 4]; ***отъ смерти не посторонишься; смерти воля дана; и всякъ умретъ, какъ смерть придетъ; смерть да жена – Богомъ суждена; это вhрнhе смерти; Симъ молитву дhетъ, Хамъ пшеницу сhетъ Афетъ власть имhетъ, смерть всhмъ владhетъ; двухъ смертей не бываетъ, а одной не миновать; умирать не миновать; безъ року не умереть; прежде смерти не умирай (не умираютъ); верти, не верти, а надо умерти*** [см. 3]. Не только человек движется по тропе жизни к смерти, но и смерть приближается к человеку и забирает, уводит, его: ***и всякъ умретъ, какъ смерть его придетъ; не онъ умеръ, а смерть его пришла; не онъ померъ: смерть его умерла, и его съ собой унесла***; ***смерть его пришла; смерточка моя пришла; смерть за порогомъ; смерть на носу; смерть на пядень; хвалился монахъ, когда смерть въ головахъ*** [см. 2].

Сопредельность мира мертвых с миром живых выражается в осознании реляционных отношений жизни и смерти: ***человѣкъ родится на смерть, а умирает на животъ, на жизнь; лучше смерть, нежели золъ животъ; на смерть дѣтей не нарожаешься; смерть на животъ дана*** [см. 2]. Смерть в большой мере обусловлена жизнью в этическом, оценочном смысле: *русск.* ***собаке – собачья смерть***; *белорус.* ***сабаку – сабачая смерць***; *болг.* ***кучешка смърт***; *пол.* ***jakie życie, taka śmierć***; *серб.* ***~ као пас живио, као пас умро***; *словац.* ***psovi – psia smrt'***; *укр. ср.* ***яке життя, така й смерть***; *чеш.* ***psu psí smrt***; *англ.* ср. ***he that liveth wickedly can hardly die honestly*** [см.4]. Жизнь может прямо или обратно коррелировать со смертью: ***тяжело жить, да и умирать не находка; горько жить – да и умирать не сладко; родился не умнымъ, и умрёшь дуракомъ; жить вмѣстѣ – и умереть вмѣстѣ; какъ живёмъ, такъ и умираемъ; кто какъ живётъ, такъ и умираетъ; съ его совѣстью жить-то хорошо, да умирать плохо; сердитый (упрямый) умрётъ – никто его уймётъ; торопиться жить – скоро умереть; не хотѣлъ жить – ступай умирать; богатому и умирать не хочется; такое житьё, и умирать не хочется; весело живётся, грустно умирается*** [см. 3]. Известно, что основе мифов о происхождении смерти наряду с «объяснением от противного» и идеей «прецедента» иногда лежит идея наказания: смерть – кара за проступок, ошибку, неповиновение. [6, *456*].

В первой строфе анализируемого стихотворения символом смерти являются: статичность, т. е. прекращение движения во времени *(часы останови)* и в пространстве *(забудь про телефон)*, динамичность *(пусть теперь выносят гроб)*, дискретность и/или предельность звучания *(чтобы не тявкал он; накрой чехлом рояль; под барабана дробь и всхлипыванья)*.

Все ситуации описания в первой строфе можно свести к четырем концептам: время *(часы, забудь)*; движение /перемещение в пространстве / *(дай кость, пусть выносят)*; пространство: ограничение пространства *(накрой чехлом)*; звук и/или источник звучания *(телефон, не тявкал, рояль, барабана дробь, всхлипыванья)*.

Смысловые отношения, выраженные в первой строфе, можно изобразить как центростремительное движение семантики, конечной точкой которого является феномен звучания *(забудь про телефон; и боби-*

*ку дай кость, чтобы не тявкал он; накрой чехлом рояль; под барабана дробь; и всхлипыванья)*. Смерть в интерпретации поэта – это в первую очередь молчание, и наоборот: слово – это жизнь: ***он был…***; ***слова и их мотив, местоимений сплав.*** А время и манипуляции в пространстве – это всего лишь условия, рамки, в пределах которых осуществляется жизнь, что иконически отражено в структуре обрамления первой строфы: ***часы останови…***; ***…пусть теперь выносят гроб.***

Смысловые доминанты, связанные со временем и пространством, единичны, а семантической периферии (номинациям звука) свойственны повторы. Но эта «периферия» органична для поэта, она – суть его мироощущения, а потому – и центр его внимания. Кроме того, динамическому приписывается свойство статического (можно остановить часы, но можно ли остановить время?), а статическое символизируется через динамическое (смерть – через движение в пространстве). В этом переплетении статического символа динамического (прибор – время) и динамического символа статического (ритуал – смерть) выражена отчаянная попытка преодолеть одномерность оппозиции 'жизнь – смерть' вербальными средствами.

**2. Оппозиция 'присвоение – отчуждение' как проявление оппозиции 'внешнее – внутреннее'.**

Концептуально первая строфа построена на оппозициях в пределах наиболее общих категорий и понятий: время, пространство, движение, звук.

В каждой из четырех строф стихотворения прямо или косвенно выражена семантика запрета на различные виды восприятия: на восприятие временных ритмов *(часы останови)*; на слуховое восприятие *(забудь про телефон и бобику дай кость, чтобы не тявкал он. Накрой чехлом рояль)*; на зрительное восприятие *(созвездья погаси и больше не смотри вверх. Упакуй луну и солнце разбери)*. Хотя утрата всех этих каналов восприятия ассоциируется со смертью (например, согласно мифологическим верованиям, в момент смерти гаснет или падает с неба звезда [7, 359]), на концептуальном уровне все названные запреты предполагают контакт: манипуляцию с внешними объектами, освоение и присвоение мира.

Наиболее общие концепты существуют в виде оппозиции 'присвоение – отчуждение', в пределах которой образуется семантическая

иерархическая структура, организующая целостность текста и его смысловую динамику.

Оппозиция ‘присвоение – отчуждение’ максимально проявляется в заключительной строфе: присвоение здесь осознается как завоевание гиперпространства, а отчуждение – как утрата смысла; присвоение ассоциируется с внешними завоеваниями, а отчуждение – с внутренним состоянием. Иначе говоря, присвоение – эксплицитно, а отчуждение – имплицитно, то есть оппозиция ‘присвоение – отчуждение’ соотносится с оппозицией ‘внешнее – внутреннее’.

Гиперактивность присвоения определяется степенью доступности объектов присвоения. Поэтому смена бытовых манипуляций манипуляциями с космическими и планетарными объектами *(часы, телефон, бобик, рояль – гроб – созвездья, луна, солнце – океан, лес)* отражает, во-первых, нарастающую до своего пика, когда космос должен превратиться в хаос, а затем не до конца утихающую волну аффекта; во-вторых, абсурдность попытки примирить этот вселенский, раздирающий душу хаос – с бытом. Гиперактивность присвоения увеличивает степень отчуждения, потому что отчуждение от предметной повседневности никчемно по сравнению с отчуждением от мироздания.

Иначе говоря, возможность манипуляторного освоения мира противопоставляется невозможности его семантического (смыслового) освоения и присвоения. Потеря смысла равносильна потере интереса к объекту, то есть равносильна его отчуждению, поэтому в четвертой строфе они колеблются между отчуждением и присвоением вселенной. В результате создается оппозиция всего текста – последней строке этого текста *(отныне ничего в них больше не найти).* Абсурдность ситуации описания и ирреальная модальность – лишь средство материализовать ощущение конца, лишь меты утраты. Ситуация описания в последней строфе – это по сути дела антитеза библейским дням творения. Полисемантичность, а следовательно, динамизм текста стиха формируются «прямыми» и «обратными» мифопоэтическими аллюзиями: представление о возможности остановить солнце, отраженное в Ветхом Завете [6, *461*]; отождествление океана с первозданным хаосом в древнейших космогонических версиях и многочисленные мифы о сдерживании океана после создания суши [6, *249*]. Смысловой парадокс четвертой строфы заключается в том, что свертывание мирового пространства,

которое должно было бы символизировать необратимость полного отчуждения, демонстрирует одновременно и крайнюю степень личностного овладения космосом, крайнюю степень личностной экспансии, что характерно для мифологического, по существу антропоморфно-метафорического, сознания: например, согласно лунарным и солярным мифам разных народов, отношения между луной и солнцем представляются либо как кровно родственные в одном (брат и сестра) или в разных (одно порождает другое) поколениях, либо супружеские; в некоторых мифах луна и солнце рождаются из частей тела (чаще из левого и правого глаз) первосущества [6, *78–80*].

**3. Оппозиция 'эмоциональное – рациональное'.**

Остановленное время и трансформированное пространство сфокусировано на умершем. В нем – беспредельность чувства, всеобъемлющее пространство и панхрония; мысль и ритм – основа целостного вербального образа мира:

*Он был мой Север, Юг, мой Запад, мой Восток,*
*Мой повседневный труд, мой выходной восторг,*
*Слова и их мотив, местоимений сплав.*
*Любви, считал я, нет конца. Я был не прав.*

Чем активнее присвоение *(он – мой мир)*, тем отчетливее выкристаллизовываются субъектно-объектные отношения – потенция отчуждения, о чем свидетельствует оппозиция местоимений первого и третьего лица. И если оппозиция времени и пространства снимается, когда эти категории совпадают в одном объекте *(он был мой Север, Юг, мой Запад, мой Восток /мой повседневный труд, мой выходной восторг)*, то оппозиция субъекта и объекта, на первый взгляд, непоколебима. Лишь лингвистически точная и остроумная метафора *местоимений сплав* допускает двусмысленность: безденотатность местоимений в системе языка (как следствие бесконечного числа возможных объектов-денотатов, то есть недискретность денотата) сосуществует одновременно со спецификой функционирования оппозитивных местоимений первого и третьего лица единственного числа в данном тексте, где названная метафора снимает эту оппозицию: сплав *я* и *он* есть следствие тождества: *он=мой мир* (то есть *я*).

Эмоциональная динамика в тексте передана таким образом, что все сфокусировано на прошлом состоянии восторга и любви: прошлое

реально, поэтому оно укладывается в привычные пространственно-временные координаты. Вся образность третьей строфы – это в основном парафразы застывших метафор с вечными библейскими аллюзиями и обескураживающей прямотой номинации эмоций. Эмоции же «настоящего» вербально выражаются или очень слабо (II строфа: *грусть*) или опосредствовано: богатство эмоционального спектра заменяется на якобы более адекватное логическое и манипуляторное освоение мира, которое по сути своей оказывается не только фальшивым, но и тупиковым (IV строфа).

Семиозис самых метафорически ярких строф (III и IV), содержащих антитезу любви и отчаяния, базируется на антитезе эмоционального и рационального. Но рациональное, конструируемое в пределах мощной отрицательной эмоции, неизбежно должно превратиться в абсурд (строфа IV).

Еще одна экзистенциальная антитеза текста – две противоречивые тенденции взаимодействия субъекта с миром: с одной стороны, стремление к изоляции от внешнего мира (I и IV строфы); с другой стороны, постоянный поиск «партнера переживания утраты» в реальном мире (II строфа), а в конечном итоге – восприятие внешнего мира всего лишь как декорации к трагедии отчаяния (II и IV строфы).

**4. Лексико-семантический ритм стиха.**

Маятниковое движение смыслов – их повторяемость и цикличность – выражается в последовательном возвращении к категории пространства: к пространственным изменениям.

Волевые усилия субъекта организовать окружающее пространство эффективны только применительно к привычному ограниченному пространству. Как только преодолевается замкнутое пространство дома и происходит переход во вневременье, события начинают совершаться помимо воли субъекта, который просто-напросто исчезает (см. II строфу).

В третьей строфе текста разворачивается и доминирует планетарное внутреннее пространство субъекта, полифонично и реляционно выраженное и через понятия внешнего пространства *(он был мой Север, Юг, мой Запад, мой Восток)*, и через понятие изначального времени и временных циклов *(мой шестидневный труд, мой выходной восторг)*, и через сущностный инструмент освоения внешнего мира – речь *(сло-*

